ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

5 МАЯ 1995 г. № 18 (3790) Кошт 400 руб.

# 1945 – 1995



***Паўвека ўжо ёй, Перамозе вялікай,***
***Ды вёснам яе не паддацца падліку.***
***Стагоддзі з ёй будуць і тысячагоддзі,***
***Яна застанецца — жывой у народзе.***
***Яна застанецца ў вяках — маладою,***
***Бо свет ад вайны засланіла сабою.***

## ПЯЦЬДЗЕСЯТ!

*Вось і сустракаем мы Дзень Перамогі ў пяцідзесяты раз. Пяцідзесяты!*

*Можна было, вядома, зараз пагаварыць і пра фальш казённа-прапагандысцкіх міфаў, якія дзесяцігоддзямі ўкараняліся савецкай уладай у свядомасць нашых суайчыннікаў і якія павінны былі прадставіць перамогу над гітлерызмам адно як перамогу камуністычнага ладу.*

*Але не будзем сёння гаварыць пра гэтыя матэрыі. Проста схілім галовы перад памяццю мільёнаў людзей, што ахвяравалі сваім жыццём дзеля збаўлення нашай зямлі ад карычневай чумы, перад памяццю мільёнаў ахвяр Бухенвальдаў, Асвенцімаў і Хатыняў.*

*Сёняшні нумар "ЛіМа" цалкам прысвечаны пяцідзесятым угодкам Перамогі над фашысцкай Германіяй. Прызнаемся, планаваць яго з чыста журналісцкага боку было не так ужо проста. За паўвека, што сплылі з тых векапомных майскіх дзён 1945 года, тэма перамогі ўладарыла на кіламетрах газетнай плошчы, і, здаецца, былі выкарыстаны ўжо ўсе здатныя для гэтай даты газетныя рубрыкі, жанры, журналісцкія падыходы і г. д. Таму мы вырашылі, не "мудрствуя лукаво", звярнуцца да памяці найбольш вядомых прадстаўнікоў, так бы мовіць, чытацкага электарату "ЛіМа" – пісьменнікаў, артыстаў, музыкантаў, мастакоў, што перажылі ваеннае ліхалецце, каб яны падзяліліся ўспамінамі пра той незабыўны дзень 9 мая 1945 года, расказалі, які след пакінула ў іх жыцці, іх свядомасці і творчасці вайна.*

Васіль БЫКАЎ

## ТО БЫЛО САПРАЎДЫ ФРАНТАВОЕ БРАТЭРСТВА



Увесь красавік 1945 года мы вялі спарадычныя баі на тэрыторыі Аўстрыі і ў маі ўжо займалі палову цэнтральнай аўстрыйскай правінцыі Шцірыі. Наступленне прыпынілася, між намі і немцамі ішоў агнявы бой, працавала ў асноўным артылерыя.

Наш артполк займаў агнявыя пазіцыі на ўскраіне горнага аўстрыйскага гарадка, разрэзанага бурлівай рачулкай. Ужо быў узяты Берлін, з захаду паспяхова наступалі саюзныя арміі. Па ўсім было відаць, што вайна канчалася. Але вось зранку 7 мая мы атрымалі загад: у 19.00 атакаваць і прарваць абарону немцаў.

Тое было дужа непажадана, амаль дзіка: каму хацелася гінуць у апошнія дні вайны. Памятаю, тады я напісаў апошні ліст бацькам: калі загіну, каб ведалі, дзе і калі. І праўда, роўна ў 19.00 пачалася артпадрыхтоўка, пяхота паднялася з траншэяў, але калі дабегла да немцаў, аказалася, што нямецкія акопы пустыя. Немцы адступілі. Яны не хацелі абараняцца і спяшаліся капітуляваць. Але не перад намі — перад амерыканскай арміяй, якая наступала з Заходняй Аўстрыі. Мы кінуліся наўздагон.

Усю ноч з 7 на 8 мая наша палкавая калона на "студабекерах" з гарматамі імчала па горных дарогах Шцірыі, абмінаючы нямецкія пяхотныя калоны, часам распачынаючы перастрэлку з эсэсаўскімі засадамі, але мы ўпарта імкнуліся насустрач саюзнікам. Нам трэба было як мага болей адхапіць аўстрыйскай зямлі. У начных гарадках і паселішчах на нашым шляху людзі не спалі, нас сустракалі белымі сцягамі з усіх балконаў і вокнаў, сяброўскімі воклічамі, а то і слязьмі радасці. Усё ж гэта былі не немцы, а акупаваныя сем гадоў таму аўстрыякі.

Пад вечар наступнага дня мы выйшлі на раку Энс і ў гарадку Ротэнман спаткаліся з амерыканцамі.

Вялікае начальства кудысьці знікла, да нас на дарогу перад мостам прыйшло шмат салдат і малодшых афіцэраў — амерыканцаў, сярод якіх траплялiся выхадцы з польскай эміграцыі. Польская мова тады стала для нас моваю міжнацыянальных зносін. На вялікае радасці ўсе добра ўпіліся і пазасыналі хто дзе — на беразе рэчкі, у кузавах аўтамабіляў, упокат савецкія з амерыканцамі. Перад тым мы ўзаемна перадарылі, што ў каго было — ад зорак з пілотак да пісталетаў і карабінаў. То было сапраўды франтавое братэрства, якое доўжылася, аднак, не болей як суткі. Ужо назаўтра з'явілася начальства, і амерыканцаў вытурылі па той бок ракі, на мосце паставілі варту. Працверазеўшы, заварушыліся, зашчыравалі смершаўцы і паліторганы, і той сон упокат кепска для некаторых скончыўся.

Жалезная заслона між Усходам і Захадам апусцілася для нас сімвалічна рана — 9 мая 1945 года, хоць мы тады і не разумелі таго. Мы думалі, што так і трэба. Дзеля бальшавіцкай пільнасці, умацавання вайсковай дысцыпліны. Дзеля яшчэ большага ўзвышэння самай перадавой краіны ў свеце — вялікага Савецкага Саюза...

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***На святкаванне Дня Перамогі ветэраны выйдуць пад тымі сцягамі, якія ім дарагія. Васіль Быкаў, Артур Вольскі, Мікола Крукоўскі і іншыя горда панясуць дзяржаўны сцяг незалежнай Беларусі. Няхай ён і адрозніваецца ад таго, пад якім ваявалі яны ў акопах і пушчах, але ён быў і ёсць сімвалам незалежнасці, свабоды, светлай будучыні нашай Радзімы. А ці не за гэта змагаліся нашыя ветэраны? Ці не гэта даводзіцца адстойваць ім сёння? Тыя, хто хоча, як казаў Васіль Быкаў, "прыватызаваць Перамогу", і цяпер ідуць на канфрантацыю, адмаўляюць Дзяржаўнаму сцягу Рэспублікі Беларусь у праве на ўдзел у свяце. Мы памятаем, як летась адстаўнікі і "афганцы" вырывалі з рук ветэранаў вайны сцягі тапталі іх, памятаем, як не давалі ім ускласці кветкі да помніка на пляцы Перамогі, як здзекаваліся з іх... І тым не менш, сёлета нашы сівыя ветэраны зноў выйдуць на сваё свята пад сваімі бел-чырвона-белымі сцягамі. Мы віншуем іх з вялікім юбілеем, дзякуем ім за вернасць Радзіме і схіляем галовы перад іх мужнасцю.***

## ЗАКЛІК ТЫДНЯ

Прадстаўнікі патрыятычна-дэмакратычных сілаў Беларусі правялі ў Мінску нараду, падчас якой прынялі рашэнне аб аднаўленні дзейнасці Грамадзянскай кантрольнай камісіі. Мэта працы камісіі — недапушчэнне парушэнняў законаў у час правядзення выбараў і рэферэндуму. На нарадзе прадстаўнікі АДПБ, БСП, БСДГ, НДПБ, БХДП, ПАП, ГП, БЗВ, ТБМ назвалі сітуацыю з рэферэндумам палітычнымі гульнямі, заклікалі выбаршчыкаў не ўдзельнічаць у іх і закрэсліваць увесь бюлетэнь рэферэндуму. Дзіўны заклік... А ці не лепш прыйсці і прагаласаваць супраць?

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Ва ўсіх прамовах, пастановах, артыкулах высокіх кіраўнікоў і дасведчаных спецыялістаў самай вялікай сучаснай бядой і праблемай дружна называецца эканамічны крызіс, інфляцыя, катастрафічнае падзенне жыццёвага ўзроўню людзей. Вось бы над імі ўсім агулам і падумаць. А тут — мова, сімволіка. Што — цяперашні сцяг сур'ёзна замінае прадуманым глыбокім рэформам нашай гаспадаркі? Што — сённяшні герб неперааадольны лёс на дарозе да росквіту краіны і народнага дабрабыту?.. Успомнім, за што найперш галасавалі выбаршчыкі на нядаўніх прэзідэнцкіх выбарах, аддаючы перавагу сённяшняму нашаму лідэру, — далёка не за змену сімволікі і новы статус рускай мовы, бо і ў Кебіча тут пазіцыі былі практычна такія ж, а за жорсткую барацьбу з раскраданнем народнага багацця, за рэзкае паляпшэнне дабрабыту, за ўключэнне ў працу прадпрыемстваў, што пачалі прастойваць, за спыненне шалёнага росту цэн і г. д. Хіба гэтыя ўсе абяцанні ажыццёўлены ўжо? Хіба не працягваецца нахабнае будаўніцтва шыкоўных катэджаў і самаўпраўства чынавенства? Хіба спынены вал злачыннасці? Хіба ломяцца паліцы магазінаў ад высакаякасных і даступных прадуктаў і тавараў? Дык чаму трэба шукаць агромністыя сродкі на правядзенне ідэалагізаваных апытанняў, а не на павелічэнне пенсій, стыпендый, дапамогі абяздоленым? Пра гэта сарамліва і хітра маўчаць і маладыя дзеячы "вертыкалі", і шматслоўныя, самазадаволеныя дэпутаты. Няўжо і тым, хто стаіць ля станка, хто працуе на трактары, хто выхоўвае дзетак, хто будуе дамы, гэта ўсё роўна?"

*(З артыкула Генадзя БУРАЎКІНА "Давайце думаць", "Звязда", 29 красавіка г. г.)*

## ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Кабінет Міністраў Беларусі 26 красавіка прыняў пастанову "Аб павышэнні тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі". Паводле яе, з 15 красавіка г. г. тарыфы на кватэрную плату павышаюцца ў 6 разоў, плата за карыстанне ацяпленнем і гарачай вадою — у 3 разы, за карыстанне вадою і каналізацыяй — у 8 разоў, за прыродны газ — у 5 разоў. Прэзідэнт пакуль не адмяніў гэтае рашэнне Кабінета Міністраў...

## ЧУТКА ТЫДНЯ

Як паведаміла газета "7 дней", ужо некалькі дзён па руках прадпрымальнікаў і бізнесменаў ходзіць цікавы дакумент — праект Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб мерах па забеспячэнні паступленняў у бюджэт, падаткаў і падатковых плацяжоў", які будзе прыняты неўзабаве. У гэтым праекце гаворыцца аб перарэгістрацыі да 1 кастрычніка гэтага года ўсіх "юрыдычных асобаў, незалежна ад формаў уласнасці і прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы". Згодна гэтаму дакументу, да перарэгістрацыі не будуць дапускацца тыя, хто на працягу больш чым трох месяцаў на рахунках у банках не мае сродкаў, а таксама тыя, хто сістэматычна ўтойвае даходы. Будзе забаронена і рэгістрацыя прадпрыемстваў у жылых памяшканнях (па месцы жыхарства). Словам, прадпрымальнікі могуць знайсці шмат цікавага ў гэтым "дакуменце". Толькі вось хто і навошта пусціў яго гуляць па руках?..

## ГОСЦЬ ТЫДНЯ

На мінулым тыдні Беларусь наведаў лідэр фракцыі "Выбар Расіі" ў Дзярждуме Расійскай Федэрацыі Ягор Гайдар. На прэс-канферэнцыі пасля міжнароднага сімпозіума "Эканоміка пераходнага перыяду: вопыт і перспектывы", у якім ён прыняў удзел, Я. Гайдар сказаў: "Ніколі не веры́ў у тое, што стабільныя адносіны паміж дзвюма дзяржавамі могуць быць пабудаваны на ідэі таго, што не надта багаты расейскі падаткаплацельшчык будзе шырокай рукою расплачвацца за неэфектыўнасць эканамічнай палітыкі Беларусі". Колькі ўжо пра гэта сказана і напісана, колькі разоў "старэйшы брат" адхрышчваўся ад нас, а нас усё штурхаюць і штурхаюць у ягоныя абдымкі...

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

Каля 13 тысяч крымінальнікаў будзе вызвалена паводле Закона "Аб амністыі ў сувязі з 50-годдзем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гадоў", які прыняў напрыканцы сваёй работы Вярхоўны Савет. Крымінальная сітуацыя ў краіне і так абвостраная, а тут такі падаруначак да свята... Вышэйшыя міліцэйскія чыны супакойваюць грамадзян: маўляў, штогод да 800 чалавек атрымліваюць умоўна-датэрміновае вызваленне і з іх "усяго" 17 працэнтаў зноў трапляюць за краты за злачынствы.

## САМАВЫКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

Рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта, акадэмік Фёдар Капуцкі надрукаваў у "Советской Белоруссии" 4 траўня г. г. артыкул з вельмі правільнай назвай: "Язык создан для того, чтобы объединять людей". Прачытаеш гэты артыкул і сумна становіцца: з гэтакім рэктарам не хутка Беларускі дзяржаўны універсітэт стане сапраўды беларускім...

# НІЗКІ ПАКЛОН ВАМ!

**Шаноўныя ветэраны Вялікай Айчыннай вайны — руплівцы на ніве беларускай культуры, літаратуры і друку!**

Паўвека мінула з таго памятнага дня, калі адгрымеў апошні бой другой сусветнай вайны. Аднак Вялікая Перамога і вялікая радасць былі азмрочаны цяжкімі, незваротнымі стратамі. Беларусі на той страшнай вайне выпала мо найцяжэйшая доля. Але наша зямля, здратаваная і выпаленая, зноў і зноў паўставала на змаганне з ненавісным ворагам. Вызваленне яе ад акупантаў здабывалася і на полі бою, і ў партызанскіх лясах, і ў патрыятычным падполлі, і ў працоўным тыле. За шчасце мірнага жыцця поплеч змагаліся людзі розных нацыянальнасцей.

Грознай зброяй у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі было і мастацкае слова — слова журналістаў, пісьменнікаў, артыстаў, кінадакументалістаў. Яно даходзіла да перадавой разам з франтавымі газетамі, гучала на змайстраванай са снарадных скрынак сцэне, несла праўду людзям, уздымала іх дух у глыбокім тыле ворага. У гераічным летапісе беларускай культуры назаўсёды застануцца імёны Ларысы Александроўскай, Янкі Купалы, Кандрата Крапівы, Аркадзя Куляшова, Фёдара Шмакава, Іосіфа Вейняровіча, тысяч іншых майстроў мастацкага слова, якія набліжалі свята Перамогі сваім талентам.

Дарагія ветэраны! Нізкі Вам паклон за ўсё, што Вы зрабілі для Беларусі, для сённяшняга і будучых пакаленняў! Сваім подзвігам Вы раскрылі над Бацькаўшчынай чыстае неба, і Беларусь будзе памятаць пра гэта заўсёды. Як і пра Вашу стваральную працу, Ваша шчыраванне на ніве культуры, літаратуры і друку ў пасляваенны час.

У сённяшнім нялростым жыцці мы павінны трымацца разам, разам будаваць будучыню сваёй дзяржавы — наша шматпакутная зямля заслужыла спакой на ўсе наступныя вякі.

Міністэрства культуры і друку горача і сардэчна віншуе Вас са святам вялікай Перамогі. Добрага Вам здароўя і доўгіх гадоў жыцця!

**Анатоль БУТЭВІЧ,**
**міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Выставы

# І РАДАСЦЬ, І СМУТАК, І БОЛЬ

Так называецца кніжная выстаўка, арганізаваная Міністэрствам культуры і друку Рэспублікі Беларусь у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. І назва яе, думаецца, надзіва дакладная. Менавіта гэтыя пачуцці перажываеш, калі знаёмішся са шматлікімі экспанатамі — кнігамі, альбомамі, паштоўкамі, што захоўваюцца ў фондах як самой бібліятэкі, так і Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, а цяпер сабраны разам, каб з імі маглі пазнаёміцца ўсе жадаючыя.

Радасць ад усведамлення, што, нягледзячы на незлічоныя ахвяры, люты вораг быў пераможаны. Смутак, бо, як сказана ў знакамітай песні, — гэта і на самай справе радасць са слязамі папалам. А боль... Хіба можна быць спакойным, ведаючы, чаго каштавала Перамога, як дорага было за яе заплачана...

Аднак боль адчуваеш і іншы... І ён напаткоўвае, калі спыняешся ля закрытых вітрын, пад шклом якіх знаходзяцца самыя унікальныя экспанаты, тыя, якім сапраўды цаны няма. Пажоўклыя нумары газет, брашуры, кнігі... Вось толькі асобныя з іх... Камплект газеты "За свабодную Беларусь", якую выдаваў палітаддзел Калінінскага фронту і адказным рэдактарам якой быў І. Гурскі... "Зварот воінаў беларусаў да партызан і партызанак, да ўсяго беларускага народа"... "Нічога не забудзем, нічога не даруем" — зборнік дакументаў аб зверствах нямецкіх акупантаў на беларускай зямлі... "Партызанскі рух у Вялікай Айчыннай вайне" П. Панамарэнкі...

Усё выходзіла ў 1942—1943 гадах... Кнігі, брашуры выпускала, як вядома, выдавецтва ЦК КП(б) "Савецкая Беларусь"... І што важна — на беларускай мове! І газета "За свабодную Беларусь" таксама выходзіла па-беларуску. Кажаце, умела была пастаўлена прапагандысцкая, партыйная работа? Дык чаму ж яна, гэтая прапагандысцкая работа, не пастаўлена сёння так, каб усё было на карысць Беларусі, а не наадварот? Балюча, вельмі балюча ўспрымаць усё гэта!

Але — пра саму выстаўку. На ўрачыстым яе адкрыцці выступілі першы намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь У. Гілеп, удзельнік вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў А. Піскуноў, мастак М. Гуціеў, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Г. Алейнік.

Гучалі чароўныя гукі музыкі, што надавала атмасферы і святочнасць, і той прыхаваны смутак, якога нам, бадай, ніколі не пазбавіцца, прыгадваючы тыя векапомныя гады...

**Н. К.**

Сустрэчы

# НІХТО НЕ СУПРАЦЬ, АЛЕ...

Афіцыйная дэлегацыя Рады Еўропы ў складзе Старшыні Палаты мясцовых і рэгіянальных органаў улады Кангрэса мясцовых і рэгіянальных органаў улады РЕ сп. Й. Гофман і супрацоўніка сакратарыята Палаты рэгіёнаў сп. Г. Мюдрыха наведала з 26 па 30 красавіка нашу краіну па запрашэнні Фонду імя Сапегі і Міністэрства замежных спраў. Госці мелі сустрэчы з прадстаўнікамі ўлады розных узроўняў, палітычных партый, грамадскіх арганізацый. Інфармацыя, сабраная ў часе візіту, дасць адказ на пытанне, ці можа Беларусь быць прынята ў Раду Еўропы. Для гэтага трэба, каб у нашай краіне выконваліся правы чалавека, здзяйсняліся дэмакратычныя пераўтварэнні, вяршэнстваваў закон.

На сустрэчы з журналістамі госці выказалі спадзяванне, што Беларусь стане 35-м членам РЕ (зараз Рада Еўропы аб'ядноўвае 34 краіны). Але пры гэтым у вельмі дыпламатычнай форме выказалі здзіўленне з некаторых нашых законаў, а таксама з таго, як тыя законы рэалізуюцца.

Журналістаў цікавіла, ці быў у нас сустрэчы дэлегацыі РЕ з прадстаўніком Адміністрацыі прэзідэнта прыгаданы інцыдэнт, які меў месца ў Авальнай зале парламента ў апошнія дні сесіі Вярхоўнага Савета. Сп. Гофман адказаў, што яны гэта пытанне не ўздымалі, але прадстаўнік прэзідэнта сам палічыў патрэбным пераказаць ім афіцыйную версію падзеі.

Спадары Гофман і Мюдрых падкрэслілі, што ніхто з тых, з кім яны сустракаліся, не выказваўся супраць удзелу Беларусі ў Радзе Еўропы, але, акрамя дэкларацый, трэба яшчэ і рэальныя дзеянні кіраўніцтва краіны дзеля інтэграцыі ў Еўропу. Дарэчы, у Радзе Еўропы ўжо прадстаўлена 10 посткамуністычных краін.

**П. В.**

З нагоды

# ПЯРЭБАРЫ

Правадыр пралетарыяту вучыў, што шлях да камунізму ляжыць праз захоп мастоў, пошты, тэлеграфа і Зімняга палаца. У сённяшняй Беларусі знайшліся людзі, якія творча развілі ленінскае вучэнне і прыйшлі да высновы, што да гэтага спіса трэба дадаць тэлебачанне, радыё і Дом друку. Цяпер ужо гаворка ідзе пра тое, што і гэтага недастаткова: пралетарыят (у асобе сваіх лепшых прадстаўнікоў) павінен прыбраць камерцыйныя банкі, інвестыцыйныя фонды і ўвогуле ўсялякую нерухомасць, на якой спыніцца ягонае пільнае вока. А пакольку адзіным крытэрыем прыдзівасці ідзі ёсць практыка, дык ўсе мы з'яўляемся сведкамі вялікага бальшавіцкага перадзелу маёмасці.

Вось і колішні Дом ЦК КПБ, так і не стаўшы па-сапраўднаму будынкам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, ператварыўся ў "прэзідэнцкі палац". Адразу пасля заканчэння сесіі Вярхоўнага Савета прэзідэнт наклаў руку на парламенцкі будынак. Цяжка сказаць, якія былі для гэтага юрыдычныя падставы, невядома, чым не спадабаліся сп. Лукашэнку прэзідэнцкія апартаменты ў Доме ўрада, але зараз у прэзідэнта і ягонай каманды ёсць падставы адсвяткаваць "пярэбары".

Мяркуючы па звестках дэмакратычнага друку, Лукашэнка некаторы час вагаўся, дзе ладзіць наваселле: у будынку парламента альбо ў будынку Міністэрства абароны. Вайсковае ведамства займае некалькі манументальных гмахаў у цэнтры сталіцы, і калі б генералаў прымусілі крыху "ўплотніцца", пазбавіўы пабудаванага ў класічным стылі палаца, што над Свіслаччу, дык вялікай бяды не было б. Але — не сварыцца ж з генералітэтам. Тыя, у адрозненне ад паслухмянага парламента, маглі б і вэрхал узняць, а гэтым ужо ўсё роўна.

Прэзідэнтавы пярэбары ў колішні Дом ЦК з'яўляюцца актам сімвалічным. Калі пасля жнівеньскага путчу камуністы перасталі быць "кіруючай сілай грамадства" і законным шляхам былі пазбаўлены той часткі нарабаванага ў народа, якая была на паверхні (гэта найперш нерухомасць: цэкоўскія, абкамаўскія, райкамаўскія палацы, гаспадаркі, размеркавальнікі і гэтак далей), яны даволі ўпэўнена заяўлялі: хай, маўляў, новыя гаспадары карыстаюцца гэтай маёмасцю акуратна — камуністы яшчэ вернуцца. І хоць, як сведчыць палітычная гісторыя XX стагоддзя, камуністы памыляліся з самага пачатку і памыляюцца сёння, гэтым разам яны як у ваду глядзелі. Сапраўды, у колішні Дом ЦК зноў засяляецца бальшавік... А ягоная "вертыкаль" — ці ж гэта не тая самая піраміда, на чале якой ЦК, а над ЦК — "першы"? Колішні "галіновы" сакратар ЦК меў улады куды болей, чым "галіновы" міністр. Ці не такую ўладу маюць сёння людзі з прэзідэнцкай каманды? Дык што пярэбары — дзея сімпатычная.

Варта сказаць і пра іншае. Мяркую, што рашэнне аб размяшчэнні ў колішнім будынку ЦК Вярхоўнага Савета было недастаткова прадуманым. Вярхоўны Савет — гэта найперш зала пасяджэнняў. Авальная зала ў Доме ўрада амаль ідэальна прыстасавана для працы парламента. Да таго ж, яна вызначаецца вы-

# "ДУШОЮ І СЭРЦАМ МЫ З ВАМІ, ГЕРОІ"



Пад такім дэвізам у Мінскім сувораўскім вучылішчы прайшла літаратурная сустрэча, арганізаваная музеем Якуба Коласа і Цэнтральным Домам афіцэраў. Прысвячалася яна патрыятычнай дзейнасці народнага песняра ў гады вайны.

Гаворку пачаў вядучы пасяджэння Алесь Савіцкі, які запрашае да мікрафона народную артыстку рэспублікі Марыю Захарэвіч. Болем у сэрцы аддаюцца шчымлівыя словы "Голасу зямлі".

Абуджаюцца юнакі, пачуўшы імя наступнага выступоўца, — гаворыць сын Якуба Коласа! Даніла Канстанцінавіч прыгадвае пачатак вайны. Ужо на трэці дзень у "Правде" быў змешчаны верш Я. Коласа "Шалёнага пса — на ланцуг!" Без перакладу... *Палымяным паэтычным публіцыстычным словам* пясняр рабіў свой уклад у змаганне з ворагам.

Расхвалявала юных слухачоў дацэнт Белдзяржуніверсітэта Вольга Казлова. Яна прыгадала свае сустрэчы з легендарным дзедам Талашом падчас пражывання ваеннай парой у гасцініцы "Масква". Яна і сама з гераічнага роду: бацька, Васіль Іванавіч Казлоў — Герой Савецкага Саюза, чыё імя носіць адна з вуліц горада Мінска (на ёй, дарэчы, размяшчаюцца Вайсковыя могілкі, дзе пахаваны і Колас, і Купала, і іх жонкі).

Пра свой асабісты лёс у гады ваеннага ліхалецця расказалі народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін і Аляксей Слесарэнка, прыгадалі і сустрэчы з незабыўным дзядзькам Якубам.

Пятро Прыходзька, падпалкоўнік у адстаўцы, што прайшоў вайну ад пачатку да канца, пачуццёва прачытаў два вершы: адзін — пра баявых сяброў, другі — прысвечаны Коласу.

Падагульненнем гаворкі з'явіўся верш самога народнага песняра "Зварот" — гэта гімн воіну-пераможцу, напісаны ў векапомным 45-м. Яго ўзнёсла прачытала Марыя Захарэвіч.

А на заканчэнне сустрэчы выступіў са сваёй камандай няўтомны Іван Раманчук, кіраўнік ансамбля народнай музыкі "Мінскі гармонік".

**Іван КУРБЕКА**
*Фота У. ГУЗОЎСКАГА*

# РЭКВІЕМ ПА 6 МІЛЬЁНАХ АХВЯР

27 красавіка 1995 года ў Дзень катастрофы і гераізму еўрапейскага яўрэйства ў Ізраільскім культурна-інфармацыйным цэнтры адбылася цырымонія, прысвечаная памяці 6 мільёнаў яўрэяў — ахвяр гітлераўскага генацыду.

На сцэну адзін за адным падымаюцца былы партызан Якаў Негнявіцкі, ветэран вайны Арон Гольдзін, народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, Праведнік народаў свету Дзяніс Галахаў, першы сакратар ізраільскага пасольства Мошэ Міхліс, школьнік Саша Кікоін.

У скронь і сэрца б'е метраном. Гучаць жалобныя яўрэйскія мелодыі. Вядучыя Марыя Захарэвіч і Валерый Анісенка пачынаюць трагічны расказ пра Катастрофу і змаганне яўрэяў у гады другой сусветнай вайны. Пра пекла Бабінага Яру, варшаўскага і мінскага гета (толькі на беларускай зямлі фашысты стварылі іх больш за сто).

Пасол дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Эліяху Валк павіншаваў прысутных са святам 50-годдзя Перамогі, выказаў вялікую ўдзячнасць народам краін антыгітлераўскай кааліцыі, якія разграмілі фашысцкую Германію, не далі здзейсніцца злавесным планам па канчатковым знішчэнні яўрэйскага народа. Ён павітаў з прысуджэннем звання Праведнікаў свету Героя Савецкага Саюза Марыю Осіпаву і яе дачку Тамару, якія ў час нямецкай акупацыі выратоўвалі ад смерці яўрэйскіх дзяцей і дарослых. Высокія тытулы Праведнікаў атрымалі таксама Галіна Міхалап з Бабруйска, сям'я Болтаў — муж і жонка Іван і Кацярына (пасмяротна), іх сын Іван, Іван і Наталля Шпілені (пасмяротна).

**І. РЭЗНІК**

разным архітэктурным абліччам, я б сказаў, урачыстым, нават велічным строем. Пабачыўшы яе ўпершыню на тэлеэкране, на фотаздымку альбо ў натуры, кожны адразу зразумее: гэта — парламент. У доме па К. Маркса, 38 такой залы няма, увогуле ў Мінску другой такой залы няма. Таму і не дзіўна, што дэпутаты не спяшаліся пераносіць свае пасяджэнні ў будынак колішняга ЦК. Шэраг служб, якія забяспечвалі работу парламента, пераехалі на К. Маркса, 38, а пасяджэнні па-ранейшаму ладзіліся ў Доме ўрада. А паміж гэтымі кропкамі сюды-туды ўвесь дзеньляталі машыны і аўтобусы... Не думаю, каб гэта было вельмі зручна. Усё ж лепей, калі ўсё пад адным дахам.

Аднак калі Вярхоўны Савет на К. Маркса, 38 — нелагічна, дык "прэзідэнцкі палац" па тым жа адрасе — тое ж самае. У гэтым будынку лепш за ўсё размясціць бы не дзяржаўна-чыноўную ўстанову, а — нацыянальны культурны цэнтр. Колішні будынак ЦК КПБ мог бы стаць для Мінска прыблізна тым, што ёсць для Парыжа Цэнтр Пампіду. Асабліва, калі ўзяць да ўвагі, што побач — Нацыянальная бібліятэка, Нацыянальны мастацкі музей, тры тэатры, гасцініца, Палац прафсаюзаў, а з часам збудуюць (калі-небудзь!) і Палац Рэспублікі.

Зрэшты, спадзяюся, што гэта ідэя калі-небудзь будзе рэалізавана... А пакуль наваселле ў будынку ладзіць сп. Лукашэнка.

Я не стану сцвярджаць, што сённяшнія пярэбары ў колішні Дом ЦК — гэта бальшавіцкі рэванш за жнівень 1991 года і за Віскулі, але тое, што звычкі ў бальшавікоў засталіся такімі ж, як і раней, — відавочна. Адно ратуе сёння нашу дзяржаву — тое, што значная частка грамадства іншая. Можа, мы яшчэ не зусім народ, але ўжо не насельніцтва. Між тым як прэзідэнт пры кожнай нагодзе і без нагоды, спасылаючыся на "народ", мае на ўвазе менавіта насельніцтва. Найперш тую частку насельніцтва, чые патрэбы мінімальныя: каб было суха, зверху не капала і каб была кілбаса... Але час зараз такі, што забеспячэнне нават гэтага мінімуму становіцца ўсё больш і больш праблематычным. Гэта "нацыяналісты-бэнээфаўцы" гатовы трываць і пакутаваць дзеля сваёй ідэі, люмпен — ніколі! Ды і якая можа быць у люмпена ідэя?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

1945-1995

Ніл ГІЛЕВІЧ

# І МЫ Б ЗРАЗУМЕЛІ...

Для беларускіх падлеткаў майго пакалення вайна — калі папраўдзе — закончылася ў ліпені 1944-га, разам з канцом акупацыі. Бо вайна — гэта пастаянны страх за жыццё — сваё і сваіх родных, заўсёднае пачуццё трывогі, што могуць наляцець карнікі і забіць, ці спаліць жывымі, або забраць і вывезці ў Германію на катаргу — як вывезлі ажно пятнаццаць маіх стрыечных братоў і сясцёр... І таму дзень Вызвалення для мяне застаўся больш яркім і памятным, чым дзень Перамогі. Можа, таму што ў блізкай канчатковай перамозе над Германіяй ужо ніхто не сумняваўся, што ўжо мы былі даўно гатовы пачуць радасную навіну, — дзень 9 мая нейкага асаблівага ўзрушэння мне, падлетку, не прынёс. Да спелага асэнсавання гістарычнага значэння гэтай вялікай падзеі, як і да разумення невымернага трагізму вайны, яшчэ было далёка.

А што было 9 мая? Нічога асаблівага. Перад першым урокам зайшла ў клас настаўніца і сказала: "Закончылася вайна, Германія капітулявала. Заняткаў сёння не будзе, праз паўгадзіны пойдзем усе разам у цэнтр Гайны на мітынг..."

І быў зусім кароткі і нешматлюдны мітынг, з якога ўсе — і дарослыя, і падлеткі — разышліся дадому, каб упрэгчыся на сотках у плуг (коней не было) і садзіць бульбу... Вечарам у Слабадзе святкавалі — скупою чаркай "муту" адзначалі Перамогу. Адзін гурт жанчын (амаль усе ўдовы) сабраўся ў хаце Ганны Думанскай, другі — у хаце Васіля Барэйкі, дзе была і музыка — сляпы Мацвеіч рыпаў сваё вечнае і незаменнае "тувар-ва". Мне тое першае святкаванне запомнілася тым, што ўпершыню ў жыцці на вачах у людзей танцаваў — на вальс выцягнула мяне дваюрадная сястра, настаўніца Зінаіда Пятроўна. Адбыўся як бы афіцыйны пераход са стану хлапчукоў-пашавэлкаў у стан хлопцаў-кавалераў. Так з канцом вайны скончылася і дзяцінства. Пачыналася іншае, не па гадах дарослае, жыццё.

А пра што тады, у тыя першыя дні міру, думалася — не помню. Напэўна, пра тое, пра што заўсёды думае на парозе юнацтва малады чалавек. З пэўнасцю магу сказаць, пра што не думалася. Не думалася, што і за пяцьдзесят пасляваенных гадоў, да канца веку, мы не збяром на нашай зямлі і не пахаваем па-людску, у магілах, косці ўсіх ахвяр ліхалецця; што праз пяцьдзесят гадоў ацалелыя і пакалечаныя пераможцы, героі Вялікай Айчыннай, героі нацыі, будуць зайздросціць жыццю пераможаных; што праз паўстагоддзе пасля перамогі для былых дзяцей-катаржан мы будзем, не чырванеючы, прымаць ад радзімы Гітлера падачкі — плату за іх дзіцячыя пакуты; што дакладны лік ахвяраў, пакладзеных на алтар перамогі, мы і праз паўстагоддзе ведаць не будзем — ад нас гэта будуць



хаваць, і хаваць, і хаваць: будуць мяняцца генсекі, прэм'еры, прэзідэнты, развальвацца і ўтварацца дзяржавы, перайначвацца эканамічныя сістэмы, — а гэту таямніцу будуць ад народа хаваць, і хаваць, і хаваць... А калі б не хавалі, калі б мы адразу на той алтар добра пагледзелі, ды задумаліся, і яшчэ раз задумаліся, у што абышлася нам перамога, — нас ахапіў бы на сто гадоў наперад жах, і мы б зразумелі, чаму яна для нас такая дарагая, і зразумелі б, што нам, помнячы, вядома, пра Перамогу, трэба кожны год, вясною, не так свята святкаваць, як спраўляць горкія ўсенародныя памінкі. Гэта было б лепш і для духоўнага здароўя кожнага з нас, і для таго, каб у будучым мы ніколі такою цаной за перамогу не плацілі: каб вышэй за ўсё, даражэй за ўсё цанілася ў нас Жыццё Чалавека.

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# ТАКОЕ БЫВАЕ АДЗІН РАЗ

Розныя пачуцці перажывае чалавек на сваім вяку — першае каханне, пачатак творчага шляху, узнагароды за плённую працу. Але такое пачуццё, якое давялося перажыць у першы дзень пасля вайны, бывае толькі адзін раз і не паўторыцца ніколі ў жыцці.

Для мяне асабіста дзень Дзевятага мая 1945 года застанецца ў памяці да канца маіх дзён. І сёння праз цэлае паўстагоддзе помніцца падрабязна, да кожнай драбніцы ўсё, што адбывалася тады на апошніх рубяжах і пераправах той вайны.

Была ўжо надта позняя пара сутак, калі я — адказны сакратар дывізійнай газеты "Призыв Родины" — усю ноч, да самага світання, сядзеў за рэдакцыйным радыёпрыёмнікам і запісваў зводкі Саўінфармбюро, якія перадаваліся спецыяльна для газет. Іх трэба было адразу ж здаваць у нумар.

Уважліва запісваліся адна зводка за другой. Раптам дыктар, які нетаропка, членараздзельна перадаваў усё для запісу, аб'явіў, што зараз будзе перададзены самы важны дакумент для ўсіх газет Савецкага Саюза. Я насцярожыўся, напружваючы слых, затаіўшы дыханне. "Што ж гэта можа быць такое — самае важнае?" — мільганула думка ў галаве. І калі дыктар па літарах, паўтараючы словы, пачаў дыктаваць Загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага аб тым, што ў Берліне нямецкім камандаваннем падпісана безагаворачная капітуляцыя — гэта значыць — наступіў канец вайне, — рукі ў мяне аж задрыжэлі ад усхваляванасці, сэрца моцна забілася. Але пяро не выпадала з рук ні на імгненне, працягвала запісваць слова ў слова на белы лісток паперы ўсё, што паўтараў дыктар. Нарэшце ён прадыктаваў матэрыял для зверкі паўторна. Прыём дакументаў для газет па радыё закончыўся. Я, трымаючы іх у руках, устаў з-за стала, прайшоў па пакоях доміка, у якім адпачывалі наборшчыкі, друкары, усе супрацоўнікі рэдакцыі, і ва ўвесь голас, як палкавы гарніст, падаў усім кліч: "Пад'ём! Вайна закончылася!".

Усе байцы, сяржанты, афіцэры (а



нас было ў рэдакцыі больш дзесяці чалавек) ускочылі на ногі, пачалі абдымаць і цалаваць адзін аднаго.

Я тут жа напісаў кароткую заметку ў нумар газеты, у якім назваў паіменна воінаў былой сваёй роты, у якой быў палітруком на пачатку вайны. Памяць аб іх заставалася ў нашых сэрцах на ўсё жыццё.

Калі мы выпускалі ў свет апошні ваенны нумар сваёй дывізіёнкі, наша 81-ая стралковая ордэна Чырвонага Сцяга Калінкавіцкая дывізія яшчэ вяла баі на подступах да Прагі, затым прымала непасрэдны ўдзел у яе вызваленні. Вайна для нас яшчэ працягвалася. Але побач з намі апошнім полем бою ішла наша Перамога.

Пётр КРОХАЛЕЎ

# НАРЭШЦЕ ЎСЁ СКОНЧЫЛАСЯ

Не магу сказаць, што ў дзень перамогі прыйшла да мяне радасць. Вайна столькі натварыла, што ачомацца ад яе было нялёгка. Хто загінуў, хто знік без вестак. Сам я быў двойчы паранены. Вядома ж, нібы цяжар які мы скінулі, нібы здолелі ўздыхнуць і наважыцца пра нешта памарыць.

У той дзень да мяне прыехала жонка, шукала мяне на вайсковым пункце, адкуль мяне мусілі перавесці ў іншую часць. Я сядзеў на прыступках і па звычцы замалёўваў усіх праходзячых. А тут — навіна: Перамога! І гэта было не проста нечаканай радасцю, гэта было — як збавенне: нарэшце ўсё скончылася. Я ж быў прызваны ў армію ў 1939 г., ... вось і праслужыў да 1945 г.

У канцы службы я працаваў у агітпункце вайсковай часці мастаком. Выпадкова патрапіў у Ленінград і паказаў свае замалёўкі выкладчыкам Акадэміі мастацтваў. Здаў іспыты, і рэктар Інстытута імя Рэпіна (цяпер, здаецца, Расійскай акадэміі мастацтваў) даслаў ліст камандзіру з просьбай аб маёй дэмабілізацыі. Так на пачатку лістапада 1945 г. я стаў студэнтам, чым вельмі былі незадаволены мае сямейнікі.

На трэцім ці чацвёртым курсе мне прапанавалі паехаць працаваць на Беларусь, тым больш, што мой дыплом спадабаўся кіраўніку Саюза мастакоў Беларусі Андрэю Бембелю. Збіраліся са мной яшчэ колькі чалавек, але прыехаў я адзін. Далі майстэрню каля сённяшняга Мастацкага камбіната. Побач са мною працавалі Мазалёў і Дарашэвіч, абодва выдатныя мастакі, непадалёк была майстэрня Воранава. Так я паступова



ўліўся ў беларускі мастакоўскі калектыў.

Была ў мяне не адна карціна на ваенную тэматыку — "Былыя паходы" і іншыя, браў удзел у стварэнні дыярамы аперацыі "Баграціён" у Музеі Вялікай Айчыннай вайны, але галоўнымі для мяне засталіся тэмы мірнага жыцця, партрэты, тое, што прыўзнімае чалавека, дае яму радасць.

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ЧАРНОБЫЛЬ — НАШ БОЛЬ

**Так можна назваць выставу мінскага мастака Віктара Барабанцава ў Гомелі.**

**Чарнобыльская тэма для Віктара Барабанцава, які нарадзіўся ў Гомелі, стала вяхой у яго творчасці. Неўзабаве пасля катастрофы на АЭС мастак паехаў у зону адсялення людзей. Маляваў з натуры. Адлюстроўваў трагічныя падзеі свайго народа, бяду роднага краю. Затым былі закончаныя і асэнсаваныя кампазіцыі карцін. Яны экспанаваліся ўжо ў мінскім Палацы мастацтваў, у Нью-Йорку ў час работы 45 сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Многія з іх увайшлі ў экспазіцыю Брагінскага гарадскога музея. Трыпціх "Зона", карціны "Пакінуты двор", "Эвакуацыя", "Ахвяра" і іншыя з драматычным сюжэтам. На гомельскай выставе гэта асабліва прыкметна.**

**А. ШНЫПАРКОЎ**

## "І ПАКУЛЬ НА ЗЯМЛІ ІСНУЕ ЛЮБОЎ..."



**У цэнтральным Доме афіцэраў у Мінску адбыўся канцэрт Ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Вядомы калектыў выступіў з новай праграмай "І пакуль на зямлі існуе любоў...", прысвечанай 50-годдзю Вялікай Перамогі.**

**У канцэрце прынялі ўдзел аркестр Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь — дырыжор Міхаіл Берсан і Аляксандр Фёдараў, кампазітар Ігар Лучанок, вядомыя артысты.**

*На здымку: у час канцэрта.*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛІНФАРМ*

## СКРОЗЬ ТАЎШЧЫНЮ СТАГОДДЗЯЎ




**Як вялікага энтузіяста ведаюць на Мазыршчыне Віктара Валянцінавіча Шабасовіча. У мінулым выкладчык гісторыі, ён цяпер навуковы супрацоўнік Мазырскага краязнаўчага музея. Віктар Валянцінавіч шмат робіць па аднаўленні гісторыі палескага краю. Асабліва цікавіць яго Мазыр. Бо першае летапіснае ўпамінанне пра горад адносіцца да 1155 года.**

*На здымку: Віктар Шабасовіч са званамі, якія ўпрыгожвалі некалі званіцы размешчаных вакол Мазыра храмаў.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛІНФАРМ*

## ЧАРГОВЫ НУМАР "ПРАЛЕСКІ"

**Напачатку мусім прасіць прабачэння. Не па нашай віне гэта атрымалася, а ўсё ж... Некалькімі нумарамі раней мы паведамлялі пра змест другога нумара "Пралескі". Аказалася, гэта быў трэці нумар. Проста ў выдавецтве "Беларускі Дом Друку" пераблыталі вокладкі. Цяпер жа з вокладкай трэцяга нумара прыйшоў да падпісчыкаў... другі нумар. А ў ім змешчаны слова галоўнага рэдактара А. Сачанкі "Супермены пад'езду", гутарка Л. Забалоцкай з Р. Барадуліным "Вяртанне ў першы снег", праграма для педагагічных вучылішчаў і факультэтаў дашкольнага выхавання ВНУ "Беларускі фальклор", чарговы матэрыял з серыі А. Бадака "Маленькі чалавек у вялікім свеце" — "Пра смеласць, праўду і яшчэ сёе-тое", іншыя матэрыялы.**

1945-1995

Іван ШАМЯКІН

# ПЕРШЫ САЛЮТ ПЕРАМОГІ



Зенітна-артылерыйскі дывізіён, у якім я служыў з 1940 года, з сакавіка стаяў у нямецкім гарадку Ландсбергу-на-Варце, за трыццаць кіламетраў ад Одэра. Афіцэйна: ахоўвалі чыгуначны мост, хоць немцы даўно ўжо не лёталі. Мнагавата нас, зенітчыкаў, для аднаго моста: акрамя нашых чатырох батарэй, яшчэ цэлы полк, батарэй шаснаццаць. Толькі пасля Перамогі даведаліся: прыкрывалі мы стаўку маршала Жукава, якая размяшчалася ў гэтым маляўнічым горадзе перад рашучым штурмам Берліна.

8 мая. Узяты Берлін. Канчаецца вайна. Настрой у салдат, афіцэраў незвычайна ўзнёслы. У мяне ж ён — не лепшы. Не адышоў ад нядаўняй кантузіі, дрэнна чую, страшыць перспектыва застацца глухім на 25-ым годзе жыцця. Але не гэта гняло. Жалоба па людзях, якіх мы страцілі зусім нядаўна, — апошнія нашы ахвяры, іх, на шчасце, было нямнога за вайну ў зенітнай часці.

Тры тыдні назад раптоўна ўзнялі нашу пражэктарную роту: "На фронт!". Дзіўна, незразумела. Гарматы фронту непатрэбны, а спатрэбіліся пражэктары. А рота — адны дзяўчаты. А я — камсорг дывізіёна. Не саромеюся сказаць, што быў я добры камсорг. Дзяўчаты мяне любілі. За спеваднікa быў я ў іх. Не мог я не паехаць з імі. Ледзьве ўпрасіў камандзіра дывізіёна паслаць і мяне з пражэктарысткамі.

І бачыў я незабыўнае відовішча, калі ў ноч з 15 на 16 красавіка з правага берага Одэра сотні пражэктараў на фронце ў 20 кіламетраў асляпілі нямецкую абарону на левым беразе. Але фашысты моцна агрызаліся. Білі дальнабойкі, свяцілі фаў-патроны. Адзін такі снарад пацэліў у наш пражэктар. Загінулі чатры дзяўчыны, тры былі паранены, кантузіла мяне і камандзіра роты. Па іх, па гэтых няшчасных дзяўчатах, была мая жалоба. Балюча я перажыў іх смерць.

8 мая пачулі англійскае радыё: яшчэ напярэдадні ў Рэймсе падпісаны акт аб капітуляцыі нямецкіх войск.

А Масква маўчыць. Чаму маўчыць Масква? Ніякіх загадаў па фронце, па арміі.

Цяпер мы ведаем, чаму маўчала Масква. Сталін не прызнаў капітуляцыі ў Рэймсе, падпісанай толькі саюзнікамі ў прысутнасці рускага сведкі — палкоўніка. Сталін патрабаваў падпісання акта аб поўнай безагаворачнай капітуляцыі вышэйшымі чынамі армій усіх саюзнікаў. Толькі апоўначы з 8 на 9 мая такі акт быў падпісаны ў Берліне. Ад СССР яго падпісаў маршал Г. К. Жукаў.

Масква перадала паведамленне аб гэтым падпісанні, аб вялікай Перамозе гадзіны ў тры ночы. Ніхто не спаў. Пачаўся грандыёзны салют. Лупілі з гармат, з аўтаматаў, з пісталетаў. І — о цуд! — я пачуў гэты салют: раптам, у адзін міг, адлажыла вушы. І я смела выпіў жасцяную кружку шнапсу — за Мір, за шчасце жыць.

Я радуюся, што дажыў да 50-годдзя Перамогі. Але і ў жалобе — што так бяздарна развалілі мы ўсё тое святое, за што змагаліся, за што аддалі свае жыцці 27 мільёнаў савецкіх людзей, што ў выніку пераможцамі аказаліся нашы ўчарашнія ворагі.

Адзіная радасць сёння, што ў незалежнай Беларусі трывала трымаецца заваяваны намі мір. Але... людзі! Будзем пільнымі!

Зінаіда БРАВАРСКАЯ

# ПРА САМАЕ СВЕТЛАЕ — НЕ МАЎЧАЦЬ

"Пра самае цяжкае — не крычаць, пра самае светлае — не маўчаць..." — так кажуць у народзе. Ну дык вось, пра самае светлае. Для мяне гэта — Дзень Перамогі! Божа, колькі было свята ў душы, колькі сонца і надзей! Якія раскрываліся краявіды!

Я помню гэты дзень эмацыянальна — мора шчаслівых людзей на вуліцах, віншаванні ўсіх знаёмых і незнаёмых, кветкі, усмешкі на тварах. І слёзы, слёзы шчасця.

Я дакладна не помню ўжо, як я даведалася пра гэтую вялікую падзею, думаю, што пачула па радыё "ад Левітана".

Вайна застала нас у Адэсе, дзе тэатр быў на гастролях, а ў Мінску засталіся мае дарагія, родныя людзі.

Ніколі не забуду, як у 1944-ым, у верасні, здаецца, прыехала ў Мінск за мамачкай — яна тры гады пражыла ў чужых, добрых людзей, таму што наш дом на рагу вуліц М. Горкага і Я. Купалы быў разбіты. Разбіты быў і ўвесь горад. Я не адразу знайшла дарогу да нашага тэатра: вуліц не было, былі руіны... Я ішла па гэтых абвугленых руінах, і слёзы каціліся самі сабой. Божа мой! Мінск, што з табой зрабіла вайна! І вось радасць перамогі ўспрымалася праз боль, праз надзею, што чорныя трагічныя дні больш ніколі не вернуцца ў наша жыццё.

Тое, што напаткала нас потым, — было потым, а пакуль — у сэрцы капіліся сілы для веры ў свята.

Я ніколі не забуду, што бачыла на фронце. У канцы 1942 года я выехала на Другі Украінскі фронт у складзе франтавога тэатра "Агеньчык". Сітуацыя была ў гэты час не з лёгкіх, але якую ўвагу і павагу мы сустрэлі ў франтавікоў. На вайне людзі выяўлялі сябе з найлепшага боку. Дабрыня, шчодрасць, увага да нас хвалявалі і прымушалі працаваць для гэтых людзей, не шкадуючы сіл.

Мілыя, дарагія байцы і камандзіры! Вялікі дзякуй вам за ўсё, што вы зрабілі для Перамогі, для гэтага самага светлага дня!

Людзей заўсёды аб'ядноўваюць агульныя справы, агульная радасць і нават агульная бяда. Дай Бог, каб у нас і зараз знайшліся агульныя інтарэсы, агульнае імкненне да стварэння, для жыцця, для чалавечай еднасці.



*1942 год. 2-гі Украінскі фронт. Зінаіда Браварская, артыстка франтавога тэатра "Агеньчык".*

Алена ВАСІЛЕВІЧ

# Я ПАМЯТАЮ ВАШЫ ТВАРЫ

*О Байрон!*
*За Грецию не умирай.*
*За Англию тоже не надо!*
**Вл. СОКОЛОВ**

... У тры гадзіны ночы — голасам Левітана — грымнула — нарэшце! — радыё:

— Перамога! Перамога! Перамога!

У адно імгненне, з імгнення расчыненых насцеж вакон і дзвярэй, па дварах, на вуліцах, над недалёкай плошчай Свабоды вырвалася і раскацілася адчайна-радасна-апантанае:

— Ур-р-р-а-а-а! Ур-р-р-а-а!..

Нібыта суровае палатно, распоралі рэшту соннай цішыні адна за другой аўтаматныя чэргі і адзіночныя стрэлы, паліла ўся зброя, якая толькі ў каго знаходзілася ў горадзе.

— Перамога! Ура!

Людзі беглі з кватэр на вуліцу, у абдымкі незнаёмых людзей, цалавалі адзін аднаго...

— Перамога! Перамога! Перамога!

... Дробна барабаніў спорны вясновы дождж, нібыта імкнуўся да раніцы змыць у горадзе апошнія крокі вайны.

... А калі развіднела, нашы салдацікі — Пераможцы! — смяшлівыя маладыя хлопцы — цэлы дзень неяк вельмі будзённа вялі па Нямізе палонных немцаў. Палонныя рухаліся бясконцым брудна-зялёнашэрым натоўпам-калонаю. Унураныя. Абыякавыя. Зацятыя. Стомленыя. Змізарнелыя. І гладкія, яшчэ добра ўкормленыя фрыцы. З выклікам, з цікаўнасцю, страхам, прыніжанасцю, спадзяваннем, пакораю ў позірках... Пераможаныя немцы!..

... І цэлы дзень людзі не адыходзілі ад расчыненых вокнаў. Праклён са слязьмі, зларадасны здзеклівы смех, а то і дзіўнае спачуванне ("І яны ўсё ж людзі, салдаты...") гучала ўслед палонным немцам.

Не адыходзілі ад вокнаў і мы. Заняткаў ва універсітэце, вядома, не было. Няміга, 1 — студэнцкі інтэрнат — святкавала Перамогу!

Быў месяц Май сорак пятага. Мне было 22 гады.

... Яны ішлі па нашай Нямізе. Ішлі з вайны. Палонныя, але жывыя.

А вы, мае аднагодкі... Вы ішлі насустрач вайне.

Я і сёння памятаю вашы твары.

Памятаю яшчэ з Асекееўскага эвакашпіталя, куды вы траплялі ў канцы сорак першага, часцей, са свежымі падмаскоўнымі ранамі. Не кожны з вас імкнуўся далечваць іх. Рваліся, наадварот, хутчэй зноў назад, на фронт, у ненажэрную яе пашчу — у вайну.

За Радзіму!..

... Адна за другой, адна за другой кіраваліся на фронт маршавыя роты з Тоцкіх лагераў у сорак трэцім годзе. І ў сваёй "Страявой запісцы", назаўтра пасля адпраўкі, я адзначала (пісар страявой часці 3643 СП — Запаснога Стралковага палка...): "Рота выбыла на фронт..." І здымала вас, хлопчыкі, "с довольствия"... ...Ніводзін з вас не вярнуўся і тым больш не паскардзіўся, што не паспеў дакурыць, і ў сорак чацвёртым годзе, калі я давала вам "у дарогу" на курыва газеты са свае бібліятэкі (пасля дыслакацыі нашай вайсковай часці з Тоцкіх лагераў у вызвалены Харкаў у мяне, вольнанаёмнай, ужо было "павышэнне ў чыне": начальнік бібліятэкі...).

Нівodзін не вярнуўся. Вы палеглі на Сандамірскім плацдарме. Вы гінулі на возеры Балатон. Вы засталіся пад Варшавай... А пані Варшава сёння як быццам і не чуе і не ведае, што вы паклалі за яе свае маладыя галовы... Ды ці адна яна толькі "не ведае", не хоча сёння ведаць пра гэта!



**Ды вам ужо ўсё роўна.**
**Я памятаю вашы твары,**
**хлопчыкі!..**
**І я сёння плачу па вас...**

*50 гадоў Перамогі ў вайне з фашызмам — факт гістарычнага значэння. І — вялікае ўсенароднае свята. І хоць многія ветэраны сёння не згодны прызнаваць іншага, акрамя чырвонага з сярпом і молатам, сцяга, пагарджаюць бел-чырвона-белым дзяржаўным сцягам, — гэта нічога не мяняе. Свята застаецца святам. І пакаленне герояў і змагароў застаецца пакаленнем герояў і змагароў. Сёння, з вышыні 50-ці пасляпераможных гадоў, мы бачым, усплывае гэтае пакаленне ў арэоле славы і велічы. А на самай справе лёс ягоны — цяжкі і пакутлівы. Пакутавала, гібела гэтае пакаленне тады, у гады ваеннага ліхалецця, пакутуе і гібее, на жаль, і сёння. Мы, уратаваныя, у неаплатным даўгу перад імі. І ніякія спасылкі на распад Саюза, на разрыў эканамічных сувязей не могуць быць апраўданнем перад гэтымі сёння старымі і хворымі людзьмі.*

*І яшчэ. Франтавое пакаленне, у адрозненне ад іншых, па-ранейшаму верыць у дзяржаву, спадзяецца на яе падтрымку і дапамогу. Наколькі спраўджваецца гэтая іхняя вера? Што ў нас зроблена і робіцца для аблягчэння жыцця ветэранаў вайны, якія дажылі да 50-годдзя Вялікай Перамогі?*

*Пра гэта — наша гутарка з намеснікам міністра сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь Пятром СІКОРСКІМ.*

# ПАЖЫВІЦЕ ЯШЧЭ, ДАРАГІЯ...

**— Пётр Паўлавіч, чым наша дзяржава парадуе ветэранаў вайны у сувязі са святам Перамогі?**

— Назаву канкрэтныя лічбы. Усяго ў нас атрымаюць матэрыяльную дапамогу ў сувязі са святкаваннем 50-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй 373 805 чалавек. Сярод іх: Героі Савецкага Саюза і кавалеры ордэнаў Славы 3-х ступеняў — 100 чалавек; інваліды вайны — 67 800 чалавек; удзельнікі вайны, выключаючы інвалідаў, — 133 000 чалавек; асобы, узнагароджаныя ордэнамі і медалямі СССР за самаадданую працу і воінскую службу ў тыле ў гады вайны — 35 700 чалавек; ленінградскія блакаднікі — каля 2000 чалавек; былыя вязні фашысцкіх канцлагераў, турмаў і гета, былыя непаўналетнія вязні — 59 600 чалавек. Сюды ж уваходзяць і інваліды з дзяцінства, якія атрымалі калецтва ў выніку вайны, удовы загінуўшых, якія пасля не ўступілі ў паўторны шлюб, — 70 000 чалавек. Пастановай Кабінета Міністраў ад 5 красавіка гэтага года вызначаны і памеры дапамогі прадстаўнікам кожнай катэгорыі ветэранаў. Так, Героі Савецкага Саюза і Героі Сацыялістычнай працы, якія былі ўдзельнікамі вайны, а таксама поўныя кавалеры ордэнаў Славы атрымаюць дапамогу ў памеры 8 мінімальных зарплат. Па 6 мінімальных зарплат атрымаюць інваліды вайны І і ІІ груп, па 4 — удзельнікі ВАВ, інваліды ІІІ групы, дзеці-інваліды, салдацкія ўдовы, якія не ўступілі ў паўторны шлюб, 2 мінімальныя заробкі — такую дапамогу атрымаюць працаўнікі тылу, узнагароджаныя ордэнамі і медалямі, а таксама блакаднікі Ленінграда. Былым вязням канцлагераў, турмаў і гета, а таксама дзецям, якія атрымалі раненні і кантузіі, дапамога вызначана ў памеры 1 мінімальнай зарплаты. Гэтае рашэнне Кабінета Міністраў рэалізуецца з 15 красавіка і ўжо ўсе выплаты практычна зроблены. Агульная сума выплат складзе 82 мільярды рублёў.

Гэтай жа пастановай для тых удзельнікаў вайны, якім па медыцынскіх паказаннях належыць бясплатны транспарт, дадаткова выдзелена 6 мільярдаў рублёў на набыццё 150 аўтамашын. Сродкі на наш рахунак паступілі, падрыхтаваны кантракт з вытворчым аб'яднаннем "Беларусь—Таўрыя". Мяркую, што ў бліжэйшыя месяц-два аўтамашыны да нас паступяць і мы рэалізуем іх тым, каму яны павінны належаць.

**— 150 машын — гэта ж вельмі мала! Як раней забяспечваліся транспартам інваліды вайны? Якія сёння тут праблемы?**

— Раней было лягчэй. Яшчэ ў 1993 годзе было выдзелена нам больш чым 2 тысячы аўтамашын, летась жа — усяго 1200. Але ўзраслі цэны, змяніліся ўмовы атрымання "Запарожцаў". Летась "Запарожцы" наогул былі зняты з вытворчасці. Па дагаворах, якія былі заключаны раней, мы ў другім паўгоддзі яшчэ атрымалі 300 машын, але кошт іх ужо даходзіў да 12 мільёнаў. Запарожскі завод "Камунар" наладзіў выпуск "Таўрыі", гэта машына больш вышэйшага класа, але затое і значна даражэйшая, кошт яе сёння ўжо недзе пад 40 мільёнаў рублёў. У сувязі з усім гэтым састарэла палажэнне, якім мы кіраваліся пры выдзяленні інвалідам аўтамабіляў. Мы падрыхтавалі прапановы па змяненні палажэння. Скажам, раней "Запарожцы" выдаваліся інвалідам на 7 гадоў, для "Таўрыі" гэты тэрмін прапануецца прадоўжыць да 10 гадоў. Але гаварыць пра гэта ўсё ж ранавата, дакумент знаходзіцца ў стадыі падрыхтоўкі.

**— Ці шмат жадаючых атрымаць аўтамабіль?**

— Усіх інвалідаў стаіць на ўліку — тых, што могуць самі кіраваць аўтамашынай, і тых, якія не могуць, але з якімі жывуць дзеці, — недзе каля 9 тысяч. Тых, якія могуць самі кіраваць аўтамашынай, прыблізна палавіна. Пры леташніх тэмпах, калі мы выдзелілі 1200 машын, чарга расцягнецца на 4 гады. Але я думаю, што сітуацыя будзе мяняцца ў лепшы бок. Ёсць прапрацоўкі для павелічэння паставак аўтамашын з Украіны, адшукваюцца фінансавыя магчымасці. Гэтая работа актыўна вядзецца ва ўсіх абласцях рэспублікі, першыя грошы паступілі ўжо на рахунак завода, паступіла ўжо і частка машын для рэалізацыі нашым спажыўцам.

**— Пётр Паўлавіч, аўтамабілі — гэта, так бы мовіць, "вяршыня камфорту". А найперш людзі, што засталіся ў выніку вайны без рук і ног, ратуюцца пратэзамі. Кажуць, на Захадзе робяць пратэзы, якія вяртаюць чалавеку 70-80 працэнтаў яго рухальных функцый. А што ў нас на гэтым, выбачайце, фронце?**

— Ну, гаварыць пра 70-80 працэнтаў рухальных функцый, якія нібыта вяртаюць чалавеку пратэзы, наўрад ці правамерна. Мне даводзіцца гэтым пытаннем займацца, быў я і за мяжой, быў на выстаўцы пратэзна-артапедычных вырабаў, дзе выстаўлялася 126 фірм, бачыў там самыя розныя пратэзы — і лепшыя ўзоры, і горшыя. І пасля ўсяго гэтага не скажу, што мы ў гэтай справе бездапаможныя. Зусім не! Скажу нават больш. Летась у нас праходзіў міжнародны семінар па пратэзаванні, былі спецыялісты з Германіі, з іншых краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, і наша пратэзная прадукцыя атрымала высокую ацэнку. Нашы спецыялісты могуць вырабляць пратэзы, нічым не горшыя за замежныя. Іншая справа, што ў нас няма многіх матэрыялаў. Вось тут проста бяда. На сённяшні дзень практычна 70 працэнтаў матэрыялаў для вырабу пратэзаў, пратэзна-артапедычнага абутку мы завозім з-за мяжы — з Расіі, Украіны, далейшых краін.

**— А тэхнічная, вытворчая база для гэтага ў нас створана?**

— Такая база ёсць. Гэта Беларускі пратэзна-артапедычны цэнтр у Мінску. У былым Савецкім Саюзе ён быў адным з лепшых па лячэбнай і матэрыяльнай базе. Сёння мы маем у цэнтры шпіталь на 80 ложкаў з сучасным медыцынскім абсталяваннем і выдатнымі спецыялістамі. Летась мы здалі там новыя вытворчыя магутнасці. Там жа працуе і цэх па вырабе артапедычнага абутку, у тым ліку лёгкага, спрошчанага, які раней мы рэалізоўвалі такім прадпрыемствам, як "Інтэграл", дзе людзям даводзіцца працаваць падоўгу "на нагах". Зараз сітуацыя такая, што з-за складаных фінансавых магчымасцей колішніх заказчыкаў у нас не стала. Ёсць і іншыя цяжкасці. Так, у сакавіку нам давялося на два тыдні прыпыніць вытворчасць з-за адсутнасці камплектуючых. Увогуле сёння мы не заўсёды можам выканаць заказ гэтак аператыўна, як хацелася б. Тым не менш, падкрэслю, мы актыўна супрацоўнічаем з шэрагам замежных фірм, нашы спецыялісты-артапеды навучаліся ў Германіі, з міністэрствам працы і сацыяльнага парадку якой заключаны спецыяльны дагавор. Усё гэта спрые далейшаму ўдасканаленню тэхналагічных працэсаў, якасці пратэзна-артапедычнай прадукцыі, а значыць, і паляпшэнню настрою і здароўя нашых кліентаў.

**— Пётр Паўлавіч, пэўна ж, уся гэтая ваша пратэзна-артапедычная прадукцыя далёка не танная. Ці па кішэні яна інвалідам вайны, якія вымушаны лічыць кожную капейчыну сваёй пенсіі?**

— Як правіла, за яе плаціць не трэба. Праўда, для гэтага патрэбны медыцынскія паказанні на неабходнасць артапедычных вырабаў. Гэтыя паказанні вызначаюць медыцынскія экспертныя камісіі, падпарадкаваныя Міністэрству аховы здароўя. Яны даюць незалежнае медыцынскае заключэнне, а мы — выканаўцы яго. У нас, дарэчы, акрамя Мінскага пратэзна-артапедычнага цэнтра, ва ўсіх абласцях ёсць артапедычныя майстэрні, і прасцейшыя рэабілітацыйныя вырабы робяцца там: скажам, мыліцы, хадуны, столікі... Спецыялісты і там ёсць выдатныя. Галоўнае, як я ўжо казаў, у камплектуючых. А яны апошнім часам уздаражалі неймаверна. Напрыклад, мы атрымліваем каленны сустаў пратэза з Маскоўскага вытворчага аб'яднання "Энергія". Дык вось, гэты тытанавы каленны сустаў сёння каштуе 2—3 мільёны рублёў. Кошт некаторых складаных пратэзаў дасягае 6 мільёнаў рублёў. А выдаём мы іх інвалідам, як я ўжо казаў, бясплатна. І гэта тычыцца не толькі інвалідаў вайны, а і тых людзей, якіх бяда напаткала на вытворчасці ці ў побытавай сітуацыі. Абы было медыцынскае паказанне. Мы выдаём, таксама, бясплатна крэслы-каляскі, самыя розныя карсеты (пры захворваннях хрыбетніка) і г. д.

**— Хочацца пачуць пра медыцынскае забеспячэнне інвалідаў вайны, пра льготы, якімі яны карыстаюцца і пра якія шмат гаворыцца апошнім часам.**

— Так, гаворыцца пра гэта шмат, чуюцца галасы аб тым, што льготы трэба ліквідаваць, перагледзець, зменшыць і г. д. Мы склалі своеасаблівы зборнік ільгот, і друкаванага тэксту толькі па пераліку тых ільгот набралася ажно на 107 старонак. А калі канкрэтна пра льготы інвалідам і ветэранам, дык вось яны: бясплатны водпуск лекаў па рэцэптах урачоў пры прад'яўленні пасведчання інваліда вайны, карыстанне пры выхадзе на пенсію паліклінікамі, да якіх былі прымацаваны ў час работы, забеспячэнне ўсімі відамі пратэзна-артапедычных вырабаў і 2-ма парамі артапедычнага абутку (бясплатна) па заключэнні ўрачоў, першачарговае забеспячэнне санаторнымі пуцёўкамі па месцы работы, а калі інвалід не працуе, дык усё роўна мае права на атрыманне (раз у год) санаторнай пуцёўкі або грашовай кампенсацыі ў памеры атрымліваемай пенсіі, і г. д., і д. т. п. Не згадаў я тут жыллёва-бытавых льгот, ільгот па аплаце праезду ў розных відах транспарту...

**— Дарэчы, а якія тут ільготы? Наконт транспартных ільгот узнікае, здаецца, таксама нямала пытанняў.**

— Удзельнікі вайны і інваліды вайны маюць права бясплатнага праезду ў гарадскім і прыгарадным транспарце. Усе пенсіянеры (жанчыны старэй 55-гадовага ўзросту і мужчыны старэй 60-ці гадоў) маюць права на бясплатны праезд у межах адміністрацыйнага раёна. Ёсць і такая льгота — разавы бясплатны праезд ва ўсе куткі Беларусі: туды і назад. На перыяд святкавання 50-годдзя Перамогі прынята спецыяльная пастанова, якая дазваляе бясплатны праезд усім удзельнікам вайны з 1 па 15 мая ва ўсіх відах транспарту, акрамя таксі.

**— Пётр Паўлавіч, усё гэта, напэўна, няблага. Але ж, мусіць, ёсць розніца, скажам, паміж вясковым ветэранам і гарадскім. Мне чамусьці думаецца, што ветэраны, а тым больш інваліды вайны, якія жывуць у вёсцы, усё ж не маюць дастатковай увагі з боку мясцовых улад, у многіх мясцінах яны забыты, закінуты, занядбаны, аддадзены на волю лёсу.**

— Як вам сказаць... У сельскай мясцовасці ветэран, які яшчэ здольны фізічна працаваць, мае падсобную гаспадарку, у дадатак да пенсіі, якія прыкладна аднолькавыя і ў горадзе, і ў вёсцы. Пагодзімся, што і патрэбы ў горадзе і ў вёсцы таксама крыху розныя. З другога боку, так, жывецца чалавеку ў сельскай мясцовасці пакуль што цяжэй: на тую ж падсобную гаспадарку трэба штодня працаваць, да гэтых клопатаў далучаюцца клопаты з палівам, з многімі іншымі побытавымі патрэбамі. Сёе-тое для таго, каб аблегчыць жыццё ў вёсцы таму ж ветэрану ці інваліду, робіцца. Ну, скажам, там працуюць, як і ў горадзе, службы сацыяльнай дапамогі. Імі абслугоўваецца недзе 66 тысяч чалавек. За адным сацыяльным работнікам замацоўваецца на вёсцы 6—8 ветэранаў, інвалідаў, адзінокіх пенсіянераў.

**— Вы згадалі адзінокіх. Ці ўсе яны на ўліку? Даводзілася чуць, што старыя адзінокія людзі, асабліва ў сельскай мясцовасці, мараць пажыць зімою ў інтэрнатах, у дамах для састарэлых і інвалідаў, прасцей кажучы — у цяпле і ў сытасці. Якія тут магчымасці ў дзяржавы нашай?**

— Я называў лічбу ветэранаў і інвалідаў — прыкладна 400 тысяч чалавек. А пенсіянераў у нас каля двух з паловай мільёнаў. Інтэрнатаў у рэспубліцы — 74, з іх 20 — для ветэранаў вайны і працы, а таксама інвалідаў, 40 — для хворых псіхахронікаў. Ва ўсіх іх размешчана сёння каля 18 тысяч чалавек. Вольныя месцы ёсць у інтэрнатах featured рознага профілю, у тым ліку і для пражывання ветэранаў вайны. Таму пытанні ўладкавання каго-небудзь у інтэрнат мы можам практычна рашыць, вядома, пры ўмове, калі за гэтым чалавекам сапраўды няма каму прыглядзець. Дарэчы, хачу заўважыць, што мінулай зімою ў нашых інтэрнатах не было перабояў з цяплом, электраэнергіяй, з харчаваннем і адзеннем. Былі, ці здараліся, часовыя складанасці з медпрэпаратамі.

**— Цяпер пра пенсіі ветэранам. Я асабіста ведаю паэта, былога афіцэра-франтавіка, які атрымлівае зусім невялікую, каб не сказаць — мізэрную пенсію. І ведаю адносна маладога дужага прапаршчыка, які нядаўна дэмабілізаваўся з арміі, служыў загадчыкам склада ў Германіі, — ён атрымлівае 800 тысяч рублёў пенсіі. Чаму такая несправядлівасць? Я не супраць добрых пенсій сённяшнім вайскоўцам, але — чаму такі кантраст?**

— Пытаннямі назначэння пенсій я не займаюся, таму магу быць не зусім дакладным. Магу толькі пагадзіцца, што, сапраўды, нядаўнія вайскоўцы, звольненыя ў запас, атрымліваюць пенсіі прыкладна ўдвая большыя, чым франтавікі. Дзейнічае Закон "Аб пенсійным забеспячэнні" і другі закон, таксама "Аб пенсійным забеспячэнні і сацыяльнай абароне ваеннаслужачых". Гэтыя два законы прымаў наш Вярхоўны Савет і ён вызначыў парадак налічэння пенсій адной і другой катэгорыі. Дзеля справядлівасці заначу, што літаральна з 1 красавіка сёлетняга года пенсіі значна павялічаны ўсім катэгорыям. Вядома, пенсія — гэта ўсяго нейкі пражытачны мінімум, але сістэмнасць і своечасовасць яе выдачы ў нейкай меры абнадзейвае пенсіянераў, дае магчымасць хоць бы планаваць свой сціплы бюджэт.

Хочацца зноў прыгадаць Свята Перамогі. Напярэдадні яго паміж краінамі СНД было падпісана пагадненне аб устанаўленні для ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, працаўнікоў тылу і ўдоў загінуўшых воінаў дадатковых ільгот і матэрыяльнай дапамогі. Народы гэтых краін сумесна здабывалі перамогу над фашызмам, і прыняты дакумент — сведчанне таго, што ў нас жыве памяць пра той час, пра нашу колішнюю дружбу і паяднанасць. У сувязі з гэтым пагадненнем хочацца нагадаць яшчэ такія льготы ветэранам і інвалідам вайны: пры прыватызацыі кватэр 20 квадратных метраў плошчы становіцца іх уласнасцю бясплатна; ім даецца 50-працэнтная скідка пры ўстанаўленні тэлефона; выдзяляецца 10 мінімальных зарплат на пахаванне былога франтавіка.

7 мая, паслязаўтра, у Мінску адбудзецца ўрачысты сход, прысвечаны 50-годдзю Перамогі. На яго будуць запрошаны чатыры з паловай тысячы ветэранаў вайны і гасцей. У той жа дзень Прэзідэнт наладжвае прыём у гонар Герояў Савецкага Саюза і кавалераў ордэнаў Славы. Самыя заслужаныя нашы ветэраны — 30 чалавек — прымуць удзел у парадзе Перамогі ў Маскве. 8 мая адбудзецца вялікае свята на стадыёне "Дынама", дзе таксама самымі ганаровымі і пачэснымі гасцямі будуць былыя франтавікі, партызаны, працаўнікі тылу.

Вядома ж, яны заслужылі большага. Мы разумеем, што і пенсіі ветэранскія ўсё ж малаватыя, і жыллёвыя ўмовы ветэранаў маглі б быць лепшыя, і іншае матэрыяльнае забеспячэнне таксама магло б быць больш шчодрае. Ды, на жаль, магчымасці дзяржавы нашай пакуль што не бязмежныя.

**— Дзякуй вам, Пётр Паўлавіч, за гутарку, за добрыя словы пра людзей, якія здабылі для нас сённяшні мірны дзень. На алтар Перамогі яны паклалі ўсё — свае жыцці, здароўе. Іх застаецца ўсё менш і менш. Паклонімся ж ім нізка-нізка. Паклонімся і скажам: "Пажывіце яшчэ, дарагія..."**

**Інтэрв'ю правяла Марыя ГІЛЕВІЧ**

## НЯМА Ў ПАЭЗІІ ЗАМЕЖЖА

**На працягу многіх гадоў на старонках кастрамскіх абласных газет у перакладзе на рускую мову з'яўляюцца вершы беларускіх паэтаў. Перакладае іх паэт-сатырык, былы франтавік Вячаслаў Смірноў.**

**Нарадзіўся ён у 1923 годзе ў сялянскай сям'і, якая ў гады калектывізацыі была раскулачана. Закончыў сярэднюю школу. З вясны 1941 г. у арміі. Вялікую Айчынную вайну прайшоў ваенным карэспандэнтам газеты "За победу". Шмат пісаў пра ратныя подзвігі салдат, пра масавы гераізм, пра герояў барацьбы за Днепр. Часта друкаваў сатырычныя подпісы да карыкатур. Удастоены шэрагу баявых узнагарод. Пасля дэмабілізацыі працаваў у органах культуры, доўгі час узначальваў абласны Дом кнігі. Шмат часу аддае грамадскай працы ў абласной арганізацыі Саюза журналістаў. Актыўны ўдзельнік творчых сустрэч і вечароў "Хадзі весялей, Кастрама!"**

**В. Смірноў валодае рэдкім дарам сатырыка. Піша сатырычныя вершы, байкі, гумарэскі, пародыі, эпіграмы. Яго смех трапна пападае ў цэль, паражаючы бюракратаў, падхалімаў, хабарнікаў, паказушнікаў, хуліганаў. Яго творы пастаянна друкуюць "Крокодил", "Смена", "Мурзилка", "Барвинок", "Театральная жизнь" і іншыя выданні. Выйшлі яго сатырычныя кнігі "Видная шея", "Лыко— в строку", "Как трепать нервы", "Липовая связь", "Веселый букет".**

**Паэт часта перакладае сатырычныя вершы, байкі, гумарэскі, фельетоны, эпіграмы. Робіць пераклады балгарскіх, польскіх гумарыстаў. З украінскай мовы пераклаў творы П. Красюка, П. Рабра, П. Вялесіка, М. Карпенкі, П. Грушка і інш. Пераклаў ваенныя вершы А. Ганчара.**

**У творчым активе В. Смірнова шмат перакладаў з беларускай паэзіі. Ён пераклаў вершы С. Грахоўскага, В. Зуёнка, Р. Барадуліна, Г, Бураўкіна, М. Скоблы, вершы і байкі Э. Валасевіча. Некалькі дзесяцігоддзяў В. Смірнова звязвала моцнае творчае сяброўства з А. Бачылам. Нядаўна ў газеце "Костромской край" ён апублікаваў цёплы ўспамін пра сябра і яго вершы ў сваіх перакладах. Часта знаёміць сваіх землякоў з літаратурнымі падзеямі ў Беларусі, расказвае пра выйшаўшыя ў нас кнігі.**

**Актыўна выступае В. Смірноў за садружнасць братніх народаў і літаратур. У апошнія гады вядзе ў памянёнай газеце рубрыку "В поэзии нет зарубежья!", назву якой сам і сфармуляваў.**

**Да 50-годдзя Вялікай Перамогі перакладае вершы беларускіх паэтаў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. У лютым апублікаваў падборку новых перакладаў: "Паштоўка" М. Сурначова, "Перад боем" А. Пысіна, "Ружа" А. Жаўрука, "Чорныя косы..." А. Астрэйкі, "У Белавежскай пушчы" П. Пранузы. Цяпер на яго рабочым стале ваенныя вершы Я. Коласа, К. Крапівы, А. Бялевіча, З. Астапенкі, П. Глебкі, А. Вялюгіна, М. Засіма.**

**І як натуральна загучалі на рускай мове класічна-крылатыя для нашай паэзіі радкі і строфы. Вось даверлівы, шчымлівы да слёз напамін А. Пысіна нашчадкам:**

Будет все равно на том кургане
Шелестеть знамен победных шелк!..
Вспомните, когда меня не станет, —
Я в свою дивизию пошел.

**Або ўрачыста-ўзнёслая, з глыбокім адчуваннем сваёй вайсковай праваты заява салдата П. Пранузы:**

Есть дата — не чета всем датам:
Победный Май! Чеканя шаг,
Не экскурсантом, а солдатом
Я шел в поверженный рейхстаг.

**Сапраўды, няма ў паэзіі замежжа!**

**Георгій ЮРЧАНКА**

## ХТО Ж НЕ ЛЮБІЦЬ СТАРЫХ КНІГ

**Нядаўна ў выдавецтве "Беларусь" выйшла кніга беларускага фалькларыста, этнографа, бацькі М. Багдановіча Адама Ягоравіча Багдановіча "Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў". Аснову зборніка, як вядома, склалі матэрыялы, сабраныя самім аўтарам у розных мясцовасцях Беларусі. А ў выніку прыводзяцца цікавыя звесткі, што тычацца светапогляду беларусаў, іх абрадаў, звычаяў...**

**Кніга вярнулася да чытача роўна праз сто гадоў і ў такім выглядзе, у якім пабачыла свет у 1895 годзе. З адной толькі розніцай — слова пра яе і аўтара прамаўляе на супервокладцы А. Бяляцкі.**

1945-1995

Нічыпар ПАШКЕВІЧ

# НА ДУШЫ БЫЛО СВЕТЛА І РАДАСНА

Вярнуўшыся пасля партызанкі ў свой родны Віцебск, мой сябар начальнік штаба нашага атрада Максім Васілеўскі прыгледзеў на паўночнай ускраіне горада, на Пескавацiку, напаўразбураны драўляны дамок, які страціў у вайну гаспадара, і абсталяваў адзін з яго пакойчыкаў сабе пад жытло. Пад вясну сорак пятага, стаўшы віцябчанінам, з добрай ласкі сябра знайшоў сабе тут прытулак і я. Паміж грубкай і сцяною мы змайстравалі тапчан. Даўжыня яго — чвэрць метра на паўтара — не адпавядала майму росту, але ўсё ж было не горш, чымся ў партызанскай зямлянцы.

Сябар працаваў у ахове, часценька дзяжурыў у начную змену, і я тады раскашаваў у пакойчыку адзін. Так было і ў тую майскую ноч. Натаміўшыся ў камандзіроўцы, я рашыў вечарам у рэдакцыю не заходзіць, каб, як звычайна, далажыцца рэдактару, і заваліўся спаць. А ноч, між тым, была незвычайная, гістарычная...

Раніцою, бадзёры і гатовы не марудзячы сесці за стол, каб адпісацца па камандзіроўцы, я падаўся ў цэнтр горада сваёй звычайнай дарогай — паўз Смаленскі рынак. Тым часам над рынкам, перакрываючы бязладную гаману натоўпу, ужо зычна гучаў даўно знаёмы і блізкі покліч, які ўздзейнічаў на малады арганізм мацней гіпнозу:

— Чай гарачы, сладкі чай! Сладкі чай, гарачы чай!

Паклаўшы моўчкі на прылавак каля пузатага самавара чырвонец (цана тут трымалася стабільная), я ўзяў з рук прыветлівай цёткі шклянку кіпеню на сахарыне і лустачку хлеба такой таўшчыні, што праз яе добра было б назіраць зацьменне сонца, як збоку пачуўся басавіты голас яшчэ аднаго сталага наведвальніка гэтага "міні-кафэ" — маладжавага мужыка з кавенькай, на гімнасцёрцы якога барвавеў ордэн Чырвонай Зоркі і адліваў сталёвым бляскам медаль "За адвагу":

— Сёння не грэх разарыцца і на дзве порцыі! Мне дзве шклянкі! Гуляць дык гуляць!

— А што сёння за свята такое? — павярнуў я галаў у бок "гулякі".

— А божачкі, хіба яшчэ не чулі? — здзівілася наша карміцелька.

— Гітлер капут! — сякануў рукой паветра мой субяседнік. — Здалося, нарэшце, гэта сцерва — Германія. Спаць, брат, моцна любіш. Усю ноч нашы з аўтаматаў лупілі і ракеты пускалі.

— Ну, а тым больш не да банкетаў, — похапкам дапіваючы чай, як мог, пажартаваў я і ўподбег пашыбаваў на Ленінскую. У рэдакцыі была завядзёнка: калі што якое незвычайнае, на працу трэба з'яўляцца неадкладна, не чакаючы выкліку, бо тэлефонаў жа на кватэрах, канешне, не было.

Рэдактар "Віцебскага рабочага" Аляксей Сцяпанавіч Крушынскі адарваў позірк ад стала з паперамі толькі на момант — пэўна, каб я па вачах убачыў, што ноч у яго была бяссонная, а потым, працягваючы праўку нейкага рукапісу, коратка кідаў да мяне:

— Добра, што паспелі вярнуцца, — ён, між іншым, да ўсіх, у тым ліку і да нас, яшчэ "зялёных", звяртаўся толькі на "вы". — Зробіце рэпартаж. У нумар.

— Куды ісці? — спрабаваў я ўдакладніць заданне.

— Куды хочаце. У горад. На вуліцы. На заводы. Дзень аб'яўлены святам, але ж людзі ўсё роўна будуць збірацца ў сваіх калектывах. На Сянной плошчы маецца быць гарадскі мітынг — не праваронься. І давайце з настроем, з натхненнем... Пішыце і здавайце мне па старонцы...

Назапашваць матэрыял, ясная справа, вялікага клопату не было, ён сам прасіўся ў блакнот на кожным кроку. Адно што нагам хапала нагрузкі звыш усякай нормы: хацелася ж пабываць усюды — ад фабрыкі "Сцяг індустрыялізацыі" да фабрыкі "КІМ". І наконт настрою ды натхнення не магло быць праблем — толькі слухай выбухі песень ды глядзі, як віруюць людской радасцю вуліцы, як палошчацца чырвань сцягоў, ад якой і руіны знявечанага горада здаваліся не такімі ўжо змрочнымі і гнятлівымі...

За пісьмовым сталом у рэдакцыі, памятаецца, таксама ўсё пайшло адразу, без запінкі, словы выплывалі з-пад пяра самі сабой. Але калі я прынёс рэдактару чарговую старонку і ўбачыў, што сталася з папярэдняй, у мяне пацямнела ў вачах — ад майго тэксту заставаліся рожкі ды ножкі. Заўважыўшы маю збянтэжанасць, Аляксей Сцяпанавіч прабурчаў:

— Не звяртайце ўвагі. Усё ў норме. Перастараліся трохі з гучнымі словамі і таннай лірыкі многавата. Давайце далей...

Так ці інакш, але пад вечар апошняя старонка рэпартажу пайшла ў набор. Цяпер можна было даць сабе перадых да вычыткі гранак. І тут я адчуў, што, акрамя стомленасці, да мяне як мае быць падступіўся голад (гэта добра яшчэ, што ўчора старшыня калгаса, дзе я быў у камандзіроўцы, на развітанне пачаставаў мяне нескупым абедам, бо карэспандэнцыя аб ходзе веснавой сяўбы складвалася, як ён зразумеў, хвалебная). Падумалася, апроч таго, што я ж таксама маю права на свята. Словам, ногі зноў панеслі мяне на Смаленскі рынак.



Прабягаючы на рынку ўздоўж гандлёвых прылаўкаў, я нарэшце з радасцю ўбачыў, як адна з гандлярак налівае мужыку з вялікай бутылі знаёма мутнаватую вадкасць, і выхапіў з кішэні сваю паўлітровую пасудзіну, тут жа адлічваючы трыста рублёў. Але мяне чакала горкае расчараванне:

— Усё, мілы, усё. Вось на дне засталося якой паўпляшкі, але ж я і сама сёння павінна ў губу ўзяць.

Скончылася тым, што першае Свята Перамогі мы адзначылі ў карэктарскай бутэрбродамі, запіваючы іх чаем, які прыгатавалі дзяўчаты. Але ўсё роўна на душы было светла і хораша. Памалу да самых глыбінь свядомасці даходзіў сэнс таго, што адбылося ў жыцці кожнага з нас, у лёсе ўсяго чалавецтва.



*М. Гуціеў. "З гарматы па цягніку".*



*М. Гуціеў. "Партызанскі лагер".*

Мікалай ГУЦІЕЎ

# ПРАПАНУЮ ОРДЭН ЗА ЎЦЁКІ З ЛАГЕРА

Можна лічыць, што першыя свае вайсковыя веды атрымаў я ў фінскую кампанію. Удалая тады была ў праціўнікаў абарона. І спатрэбілася ўсё гэта мне як урок на будучае.

З першых жа дзён вайны быў я ў арміі. Тады здавалася нам, што разаб'ём ворага імгненна, — з такім пачуццём ехалі мы на фронт. Але раптам замест захаду звярнулі на поўнач, аказаліся пад Смаленскам. І вялікая вайна скончылася для мяне акружэннем пад Вязьмай. Далей быў палон, калона 19-ай арміі ад гарызонту да гарызонту ў пяць шэрагаў, лагер ваеннапалонных. З лагера мы ўцякалі ў партызаны. Але я хачу засяродзіць увагу на нашых уцёках. Бо гэта не была справа адзінак. Мы ўцякалі масава, па дзесяць чалавек. Яшчэ ў палоне мы зрабілі сваю сістэму — падраблялі прапускі з пячаткаю і подпісамі. З такімі дакументамі мы досыць хітра пранікалі за першую агароджу разам з тымі, хто ішоў на працу ў лес. Вылічвалі, як хадзіў часавы, і надзвычай спакойна сыходзілі з лагера. Прычым адбывалася гэта выключна ўдзень, а не так, як гэта паказваецца ў мастацкіх фільмах, — уначы, з сабакамі, з вялізнымі складанасцямі. Такі варыянт, па-сапраўднасці, быў немагчымы.

Я даўно задаваў сабе пытанне, чаму мы маем дзяржаўныя ордэны перамогі, партызанскія ўзнагароды, чаму ніхто дасюль



не прапанаваў ордэн ці медаль за ўцёкі з лагера? Чаму гэта не лічылася і не лічыцца цяпер подзвігам?

Да 1944 г. быў я ў партызанскім атрадзе, многае запомнілася, многае занатаваў у малюнках. Але заўжды і цяпер здзіўляе мяне, чаму вайна ў нас успрымаецца толькі як атака, смерць пад танкам і г. д. Вайна — гэта асабістыя перажыванні чалавека, гэта тыя дробязі, якія дазвалялі нам не толькі выжываць, але і проста жыць. У нашым партызанскім атрадзе было электрычнае святло, быў джаз-ансамбль, былі вяселлі, нават імправізаваная "карцінная" галерэя. Вось тое, што, складзенае ў аповесць альбо звычайны аповяд, магчыма, дасць уяўленне пра сапраўдную вайну, не гераізаваную ідэалогіяй.

## НЕВЯДОМЫМ ВЕРШАМ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

**"Віншую Цябе, Беларусь, з вялікім 1000-годдзем..." адкрываецца дзевяты нумар часопіса "Полацак". Гэты твор рэдакцыя атрымала ад М. Канаша са Жлобіна, які разам з Л. Геніюш адбываў пакаранне ў сталінскіх лагерах.**

**Змешчаны першая частка артыкула В. Пуцько "Полацак у гісторыі старажытнарускага мастацтва", заканчэнне артыкула У. Міхнюка і Я. Паўлава "Як знішчалі генафонд беларускай нацыі", нарыс У. Адамушкі "Шляхі жыцця Язэпа Гаўрыліка", рэпартаж А. Грыцкевіча "Як святкавалі дзень Аршанскай перамогі", падборка матэрыялаў А. Белага "У гонар слуцкіх паўстанцаў", карэспандэнцыя А. Старадарожскага "Памяці Аўгена Калубовіча", працяг рамана М. Кавыля "Із агню ды ў полымя", вершы А. Чэмера, справаздача С. Менскай з вечарыны, прысвечанай альманаху "Спадчына "Спадчыны", і рэцэнзіяй на яго Л. Лыча, заканчэнне ўспамінаў Ан. Адамовіча пра М. Равенскага "Лірнік краіны ветлай", тэкст і ноты песні "Восень" (словы А. Гаруна, музыка М. Равенскага).**

**На развароце нумара — рэпрадукцыя карціны Г. Ціхановіча "Бітва пад Оршай". Пра творчасць гэтага майстра прамаўляе слова С. Белая — "Бітва..." Генрыха Ціхановіча".**

## ВЕЧАРЫНА САТЫРЫ І ГУМАРУ

**"Трохі смяшынак на адпачынак" прайшла на пачатку красавіка ў Магілёўскай абласной бібліятэцы. Ад душы пасмяяліся на ёй студэнты і навучэнцы абласнога цэнтра. Вельмі спадабаліся ім кампазіцыя па творах беларускіх пісьменнікаў-гумарыстаў у выкананні заслужанага работніка культуры В. Ермаловіча, урывак з купалаўскіх "Прымакоў", які паказалі артысты аблдрамтэатра А. Пятровіч і В. Амяльчэня, а таксама выступленне з уласнымі гумарыстычнымі творамі пісьменнікаў В. Карпечанкі і У. Дуктава.**

**У. САСНОЎКІН**

## "БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА", N 3

**Адкрываецца "БД" гутаркай Г. Булыкі з Р. Баравіковай "Творчасцю трэба жыць штодня". Тут жа змешчаны вершы Р. Баравіковай. У Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М. Грыба ўзяла інтэрв'ю Л. Пятрова — "Наш парламент упаўне прагрэсіўны". Г.Булыка і І. Гуняжэнка працягваюць рубрыку "Мова дрэў". Гэтым разам расказваецца пра вярбу. В. Ліс знаёміць з мастакамі Ляіляй і Валянцінам Варэцамі — "Агмень, большы за дом". Арыгінальны матэрыял В. Чаркасавай — "Мода на добрых жонак ніколі не праходзіла". Акадэмія навук Беларусі сумесна з рэдакцыяй "БМ" правялі "круглы стол", прысвечаны ролі ААН на сучасным этапе. Справаздачу з яго "Тварам да чалавека" падрыхтаваў У. Вялічка. Пра беларускага памешчыка і вучонага Я. Наркевіча-Ёдку, які першым адкрыў радыё, расказвае А. Марціновіч ("Святло адкрыццяў Наркевіча-Ёдкі"). "Стаяў над Гарынню замак" — роздум У. Глушакова падчас наведвання родных мясцін. Праблемы выхавання вучняў закранае ў артыкуле "Змаганне за маладую душу" Б. Зубкоўскі.**

## З ЧАЦВЁРТАГА НУМАРА

**памяняў свой фармат часопіс "Роднае слова", ён стаў падобным на "Маладосць".**

**Праблемы нармавання лінгвістычнай тэрміналогіі ўзнімае ў артыкуле "Родная мова — мова навук" П. Сцяцко. Жыццё і творчасць А. Карпюка ("Адысея праўдалюбца") асэнсоўвае М. Тычына. Па-новаму разглядае некаторыя творы Я. Купалы Г. Праневіч ("Радавод маладой Беларусі"). Традыцыі нацыянальнага фальклору ў ранняй паэзіі М. Танка цікавяць М. Мікуліча ("Крыніцы нашай творчасці..."). Клопат пра мову непакоіць М. Лужаніна ("З шуфляды пісьменніка"). Трагічныя старонкі жыцця**

**С. Некрашэвіча перагортвае В. Шчэрбін ("Ідэалам навукі не здрадзіў". Годна прадстаўлены ў нумары раздзелы "Методыка і вопыт", "Калі закончыўся ўрок", "Культура Беларусі", "На ростанях". В. Чамярыцкі гаворыць слова пра А. Клышку ("Самародак"), С. Галоўка працягвае падарожжа ў Коласавы мясціны. Да 50-годдзя з дня адкрыцця музея Я. Купалы выступаюць І. Абламская — "Янка Купала ва ўспамінах Вацлава Ластоўскага" і Л. Астапкевіч — "...цябе, наша моладзь, надзея..."**

1945-1995

Уладзімір ЮРЭВІЧ

# ГЭТА І ВАША ПАХОДНЯ, МАЛАДЫЯ

Дзень Перамогі, пакуль яшчэ жывыя (не ўсе, праўда) ветэраны, будзе адзначацца ўрачыста, песенна, бо ён нарадзіўся ў пару хрысціянскага Вялікадня і па сутнасці стаў другім Вялікім днём. Вялікая была перамога, вялікае свята, і добра, што яно такое святкуецца штогод. А тут яшчэ і падтрымка дзяржавы — медаль да 50-годдзя Перамогі ды такія-сякія грошы. Так што будзе што і выпіць, будзе чым і закусіць, ды прыгадаць тыя векапомныя дні.

Перамогу мы (я працаваў на Беларускім радыё) сустракалі ўжо тут, на руінах Мінска. Яны яшчэ не паспелі астыць з лета 44-га года — вызвалення Беларусі, нават курыліся, толькі не дымам пажараў, а цяпельцамі будаўнікоў і іх памагатых — жанчын. Дружна выходзілі на разборку руін.

А тым часам усё большала ды большала людзей — вярталіся з эвакуацыі цэлымі заводамі, часцей — сем'ямі. Вярталіся з фронту, хто ўжо адстраляў ці падлячыўся ў франтавых шпіталях. Мінск ужо меў электрычнасць, выратавалі замініраваную электрастанцыю, падагналі энергапаязды... Яшчэ з мінулага лета працаваў, праўда, не на поўную магутнасць, перадаючы радыёцэнтр у Калодзішчах, гітлераўцы не паспелі яго ўзарваць, ці, можа, думалі адбіць горад назад.

Радыёдом, той, стары, што быў на Койданаўскай (Рэвалюцыйнай) вуліцы, таксама ацалеў.

Шкада, што не захаваліся многія (жывыя) помнікі вайны. Пісаў я некалі пра тую абсмаленую снарадам у парку імя Горкага бярозу, што стаяла, выцягнуўшы ў неба чорныя рукі, просячы аб дапамозе... А дапамога ішла. Усім, чым маглі, дапамагалі рэспублікі былога Савецкага Саюза. Ну сапраўды, не верылася, што такім велічным па-еўрапейску амаль нанава спланаваным будзе выглядаць наш горад Мінск праз якіх дзесяць гадоў. Што будзе здзіўляць нашых суседзяў — блізкіх і далёкіх. Здзіўляў бы і сёння, каб больш раіліся з народам, які не забудзе, пакуль будзе жыць, Перамогу 45-га, прызнаную ўсім светам. Бо быў зрынуты фашызм у Еўропе, як дзяржаўная ідэалогія.

Ужо адно тое, што праз паўгода вызвалення Мінска Новы год тут сустракалі прэм'ерамі Першы Беларускі драматычны тэатр (імя Янкі Купалы) і Оперны тэатр, якому тагачасны ўрад Беларусі пайшоў насустрач, дазволіўшы адкрыць першае на Беларусі харэаграфічнае вучылішча, якое на першым часе месцілася ў памяшканні пад глядзельнай залай.

Цяжка перадаць словамі той непаказны энтузіязм, якім жылі наша літаратура, наша мастацтва.



*1941 г. У. Юрэвіч вядзе радыёрэпартаж з першамайскага парада ў Мінску. Да пачатку вайны заставалася менш як два месяцы.*

Саюз пісьменнікаў Беларусі туліўся спачатку ў Доме ўрада, потым на кватэры М. Лынькова на вуліцы Берсана. Спакваля, марудна аднаўляўся творчы саюз, але з надзеяй на будучае. І сапраўды, саюз за паўвека вырас, памаладзеў. Зараз, можа, крыху замарудзіўся рост літаратуры, асабліва публіцыстычнай. Старыя публіцысты пастарэлі, усё радзей бяруцца за пяро, а моладзь не надта каб гартавала сваё публіцыстычнае бойкае пяро. А яго чакае грамадскасць менавіта цяпер, распачаўшы новы паход у будучыню. Вопыт пасляваеннага адраджэння пісьменніцкай творчасці, якое забылася і ўспамінаць, сведчыць, што і цяперашняе, новае адраджэнне, хай сабе і з вялікімі цяжкасцямі, але будзе здзейснена. Ёсць вопыт старэйшых пакаленняў. А ён, памножаны на нястрымную энергію творчай моладзі і галоўнае — на іх сучасную адукацыю, начытанасць, імкненне пашырыць свой кругагляд, дасць багаты плён. Хай Дзень Перамогі, здабыты бацькамі і дзядамі, ператворыцца і для іх у вечную, незгасальную Перамогу. Мы здабывалі яе для наступных пакаленняў.

Эдзі АГНЯЦВЕТ

# У ЛІХАЛЕЦЦЕ

Чорнае ад "месершмітаў" неба. Прастрэленыя сцены цяплушкі. Плач дзяцей. Мая маці дзеліцца кавалкам хлеба з хворай жанчынай, якая задыхаецца ад кашлю... Горкая, душная дарога ад Мінска...

Эшалоны з дзецьмі, жанчынамі прыбывалі на ташкенцкі вакзал з пекла вайны. Крык сэрца ўзбекскага народа прарваўся праз верш народнага паэта Гафура Гуляма "Ты не сірата". Ён пісаў аб змучаных, счарнелых ад бамбёжак дзецях.

**Я прыпомню спалох**
**гэтых сініх вачэй,**
**Я прыпомню забойцам,**
**як выйду на бой,**
**І слязу, што па твары**
**дзіцячым цячэ,**
**І руіны,**
**і здзек над матуляй тваёй.**

Я плакала, перакладаючы гэты верш. Потым чытала яго ўзбекскім жанчынам-маці, якія прытулілі сірот і назвалі іх сваімі роднымі. Чытала я на дварах і па радыё. Беларускую мову зразумелі многія. Аб гэтым нядаўна нагадала мне Соф'я Бухараева — тагачасны рэдактар літаратурных перадач.

З яе ліста ад 25 сакавіка 1995 года:

"Па тэлефоне я расказала вам аб радыёперадачах Узбекістана, прысвечаных 50-годдзю Вялікай Перамогі. У іх часта ўспаміналіся імёны беларускіх паэтаў, якія ў вайну жылі, працавалі ва Узбекістане. Хамід Гулям і я гаварылі пра вас".

Дзякуй вам, дарагія людзі! Помню вас, помню ваенны Ташкент, які жыў вельмі напружаным жыццём. "Усё для фронту, усё для Перамогі!" Бавоўнаробы, канструктары баявых машын, ткачыхі, пра якіх я пісала нарысы, працавалі горача, самаахвярна.

У тыя векапомныя дні Узбекскае радыё арганізавала спецыяльны цыкл беларускіх перадач. Многія з іх даручалі весці мне. Такое адказнае даручэнне я ўспрымала з вялікім хваляваннем і ўдзячнасцю.

На ўзбекскай радыёхвалі гучалі палымяныя радкі Купалы, Коласа, Танка, Куляшова, Панчанкі, Броўкі, Астрэйкі, Глебкі, баявое публіцыстычнае слова Крапівы, Чорнага, Лынькова. Усё, што было напісана Якубам Коласам у Ташкенце ў канцы 1941 года, у 1942 і, часткова, у 1943, ён чытаў па радыё сам. На маю долю выпаў вялікі гонар весці ўсе яго радыёсустрэчы са слухачамі.

За гады жыцця на зямлі нашых сяброў — Гафура Гуляма, Зульфіі, Айбека, Уйгуна, Кахара, Хаміда Гуляма — мне давялося выступіць па радыё трыццаць восем разоў. Адчувала, што слова даходзіць да чалавечых сэрцаў. Так, у ваенных шпіталях, сустракаючыся з раненымі, не раз чула: "Перадайце, калі ласка, Якубу Коласу ўдзячнасць за вершы. Мы шчаслівыя былі, слухаючы яго па радыё. І вам салдацкі дзякуй!"

Амаль кожны дзень хадзіла я ў шпіталі: і ў спякотны поўдзень, і вячэрнімі, цёмнымі завулкамі. Чытала творы Пушкіна, Лермантава, Някрасава, вершы любімых беларускіх паэтаў і сваё ўласнае. (На той час складаліся мая першая дзіцячая кніжка "Міхасёк", зборнікі "Другу на фронце", "Край мой родны").

Запомнілася адна вельмі драматычная сустрэча. Стаю на маленькай сцэне, а ўсе мае слухачы ляжаць на насілках — без рук, без ног! Мае аднагодкі, мае магчымыя напарнікі па нядаўніх, даваенных танцах... Хацелася крыкам крычаць! Але трэба было чытаць, чытаць!

І цяпер, праз столькі гадоў, — зноў і зноў успамінаю збалелыя твары хлопцаў на насілках. І праклінаю вайны!



*1943 г. Ваенны шпіталь. Э. Агняцвет разам з беларускай партызанкай Ф. Струй.*

... У красавіку 1945-га па шчаслівым супадзенні я апынулася ў Маскве. Цэнтральны Палац дзяцей чыгуначнікаў рыхтаваў да пастаноўкі дзіцячую оперу-казку "Джанат" па маім лібрэта.

У вольныя хвіліны я хадзіла па вуліцах і плошчах, якія бурлілі ў прадчуванні блізкай Перамогі.

І вось нарэшце надышло 9 мая. Мільёнам людзей ва ўсім свеце вядомыя кінакадры Краснай плошчы, запоўненай неверагодна радасным натоўпам, які святкаваў вялікую Перамогу. Сярод гэтых шчаслівых людзей была там і я.

Васіль ВІТКА

# ТОЙ ДЗЕНЬ

Мабыць, у памяці большасці з нас той дзень паўстае перш за ўсё ў грандыёзных маштабах самой гістарычнай падзеі — у магутным урачыстым голасе Левітана, у салютах над гарадамі, у людскіх натоўпах на плошчах і вуліцах, у самім незабыўным слове — лікаванне, як тады пісалі і нашы беларускія газеты. Хаця пазней, калі ў вясковых дзяцей я пытаўся, што такое "лікаванне", усе мне тлумачылі: "лічаць людзей, перапісваюць, колькі засталося". У дзяцей болей чуйны этымалагічны слых, чым у нас дарослых. Дый і памяць.

Дзіва што, калі мне пазванілі з рэдакцыі і спыталіся: дзе я быў таго дня, калі скончылася вайна, натуральна, сумеўся. Не мог адказаць. Госпадзі, паўвека таму. Дайце падумаць. Доўга думаў, усё ніяк не могучы вызваліцца ад стэрэатыпу кананізаванага вобраза "лікавання". Добра, што запыталіся, дзе быў?

Успомніў-такі — сядзеў на вышках, ці інакш сказаўшы, на гарышчы матчынай хаты пад саламянай страхой пры маленькім акенцы і пісаў вершы. Цяпер, звярыўшы па датах іх напісання, прыгадаў і самае галоўнае. Як прыбеглі настаўніцы і, паведаміўшы радасную навіну, павялі мяне ў школу. Звычайную хату на дзве палавіны: меншая — настаўніцкая, а большая — вучнёўская, на ўсе тры класы.

Каля школы ўжо чакалі дзеткі, спяшаліся з розных канцоў вёскі дарослыя. Прадстаўнікі з раёна, дый мясцовыя не ўпраўляліся ахапіць кожнае паселішча, тым болей кожную школу. У гэтым разе я мусіў быць за прадстаўніка.

Пачаўся мітынг, ці як здаўна казалі ў нас — "міцін". Як умеў, я гаварыў прамову. Мабыць жа, узнёслую, урачыстую, добра разумеючы, што і дзеці, і дарослыя стаяць і плачуць не ад маіх слоў, а таму, што ў кожнага свой боль, свая жывая рана. У кожнай сям'і — ахвяра, дзве. Намагаючыся не паказаць слёз, плакаў і сам прамоўца. У слуцкай турме фашысты закатавалі майго бацьку.

Гэта былі горкія ўражанні звароту на бацькаўшчыну, у матчыну хату, куды я прывёз паказаць бабулі яе першых унукаў — сваіх дзяцей. А сам, аблюбаваўшы на вышках "творчы кабінет", штодня па лесвіцы падымаўся туды, як на седала, выседжваць свае радкі. Там, дарэчы сказаўшы, я далучыўся і да дзіцячай літаратуры, годам пазней напісаўшы сваю першую казку.



Вось так пры дапамозе другарадных арыенціраў, чыста асабістых, прыгадаў я і самую галоўную, вялікую падзею — Той Дзень.

## ГРОДЗЕНСКАМУ МУЗЫЧНАМУ — 25!

**Так, менавіта столькі споўнілася навучальнай установе, адкрытай у Гродне ў 1969-м. Трохі спазняемся адзначыць юбілей, але ж, па-першае, — лепей пазней, чым ніколі, па-другое — вельмі ўжо хацелася адсвяткаваць у новым будынку, ды, праўда, наваселля не дачакаліся...**

**25 год — тэрмін немалы, аднак з пэўнымі агаворкамі ўзрост можна і павялічыць. Справа ў тым, што яшчэ ў 1959 годзе ў Гродне, на базе культасветвучылішча было заснавана музычнае аддзяленне, якому з часам меркавалася надаць асобны статус (нават планавалася пабудаваць сваё памяшканне). Але штосьці не атрымалася, і аддзяленне было пераведзена ў музычна-педагагічнае вучылішча, дзе і рыхтаваліся кадры музыкантаў да стварэння ўласна ГМВ (абрэвіятура, здаецца, зразумелая). Дарэчы, кадры былі вельмі добрыя, многія з выхаванцаў — вядомыя сёння на Беларусі асобы: намеснік міністра культуры і друку У.Рылатка, прарэктар Беларускай акадэміі музыкі В.Яканюк, тэлежурналіст Д.Яканюк, кампазітары В.Войцік, Л.Захлеўны, В.Іваноў, У.Кандрусевіч, М.Ліцвін. Сярод выпускнікоў 70—80-х — таксама шмат талентаў, якімі можа ганарыцца не толькі Гродзеншчына: кампазітары А.Бандарэнка і Я.Паплаўскі, баяніст І.Атраднаў, гітарысты В.Жывалеўскі і У.Захараў, дырыжор С.Бурак і В.Дмухоўскі ды інш.**

**З першых дзён заснавання ГМВ калектыў браў і бярэ актыўны ўдзел у мастацкім жыцці Прынёмання, якое цяжка сабе ўявіць без духавога і народнага аркестраў, жаночага хору, салістаў вучылішча. Створаная нядаўна Гродзенская гарадская капэла таксама большай часткай укамплектавана былымі выпускнікамі і выкладчыкамі.**

**Педагагічны патэнцыял калектыву даволі моцны. Тут плённа сумяшчаецца багаты вопыт ветэранаў (іх нямала, некаторыя маюць па 30 і болей гадоў стажу) з энергіяй маладых. Сярод апошніх — шмат былых вучняў, так што з пераемнасцю пакаленняў і захаваннем традыцый тут таксама ўсё ў парадку.**

**Адным словам, да юбілею гродзенцы падышлі годна — з поспехамі і дасягненнямі, з перамогамі і здабыткамі, але не без праблем, безумоўна. І галоўная з іх — матэрыяльная база. Зразумела, усім цяпер цяжка, усім бракуе гэтых грошай, аднак калі ўсё ж не дабудаваць (падкрэсліваю: не пабудаваць, а дабудаваць) доўгачаканы новы дом для вучылішча, які ўжо зрабіўся сапраўднай доўгабудоўляй, то наступнага юбілею можа і не быць. На жаль... Але не хочацца заканчваць на мінорнай ноце і таму — шчырыя віншаванні ўсім, хто ў розныя гады меў і мае сёння дачыненне да Гродзенскага музычнага! Са святам вас! І давайце ўсе разам спадзявацца на лепшае, бо ўсё ж музыка — вечная!**

**Аляксей САЛАДУХІН**

## АКЦЁР ТЭАТРА І КІНО



**Генадзь Шкуратаў — акцёр Віцебскага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа. Ён ужо сыграў на сцэне дзесяткі роляў. Адначасова Генадзь паспяхова здымаецца ў кіно. Яго першая роля — у фільме Барыса Іўчанкі "Пад сузор'ем блізняцоў", затым былі "Цяжкая вада", "Страх" і трохсерыйны "Пяшчота да равучага звера".**

**Прадаўжае акцёр і актыўную работу на коласаўскай сцэне. У чарговай прэм'еры тэатра па п'есе Альбера Камю "Непаразуменне" ён іграе ролю Яна.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА,*
**БЕЛІНФАРМ**

1945-1995

Барыс БУР'ЯН

## "КАЛІ АБВЕШЧАН МІР..."

Тым ранкам...

Напярэдадні ўвечары я дачытваў пры святле карасінкі нейкі раман Рычарда Олдзінгтона. Пра тую яшчэ — Першую сусветную — вайну. Мо таму на досвітку дзевятага, пачуўшы голас старшыны Казака: "Пад'ё-ом-м! Усё! Мір...", — я тут жа прыгадаў эпіграф да таго рамана. Вершаваны. І словы эпіграфа раптам ператварыліся ў маё адчуванне і свайго "я", і навакольнага свету. Мне захацелася праспяваць тыя два радкі. Вось яны ў маім перакладзе на беларускую мову: "Упіцца асалодай можна ранкам, калі абвешчан мір, і рай сапраўдны — заставацца маладым..."

Сёння і словы гэтыя, і той мой настрой выглядаюць напышліва-рытарычнымі. Сапраўды, экзальтацыяй павявае! Але... Старажоўка, дзе я тады стаяў на пастоі ў прадзьмутай ветрам з Камсамольскага возера і прагрэтай ужо ранішнім сонцам хаціне, нібы звалася на старшынскае: "Усё!..". Узнімаючы залаты пыл, беглі па Мопраўскай (колішняй Міхайлаўскай, цяпер... Камуністычнай) басаногія хлопчыкі і вышэй таполяў лунаў, падхоплены хвалямі рэха, шчаслівы дзіцячы дыскант: "Перамога-а-а! Перамо...га-га...мога!".

Перш чым умыцца зялёнай з сонечнай пазалотай вадой Свіслачы, я ўгледзеўся ў яе, у гэтае жывое люстра. І ўбачыў хісткі адбітак свайго твару, які свяціўся ўсё тым жа адчуваннем.

Сапраўды ж, яно так: "Упіцца асалодай можна ранкам, — спявала маё сэрца, — і рай сапраўдны — заставацца маладым, калі абвешчан мір..."

Недзе блізка застракацелі аўтаматныя чэргі. І каля маёй хаціны адгукнуўся стрэл з пісталета "Вальтэр". Трафейнага. Яго мы старанна хавалі разам — я і старшына Казак.

Залаты ад майскага сонца пыл. Басаногія хлопчыкі ў нашых пабялелых ад сонца пілотках. Страляніна над возерам. І ціхамірны бег зеленаватай вады ў Свіслачы. Няўжо якраз так і павінен нараджацца першы дзень міру на зямлі?

Для мяне — так. З мелодыяй у сэрцы: "І рай сапраўдны — заставацца маладым..."

Мінск толькі пачынае адбудоўвацца. У цэнтры горада руіны — груды бітай цэглы. Муры, за якімі пустэча, і толькі прагалы там, дзе калісьці, "да вайны", былі вокны з шыбамі і дзверы. Сярод каменняў і перакручаных рудых бэлек сівеў бур'ян.

Стоячы над пазалочанай сонцам Перамогі Свіслаччу, адчуваючы спеў уласнага сэрца, я перажываў нешта неверагоднае. Скурай адчуваў, не розумам: больш мне не пагражае і не будзе пагражаць смерць, больш нікога з нас не заб'е чужынец. Не будзе гэтага ўсяго больш ні-ко-лі. Разумееце: ні-ко-лі!.. "Упіцца асалодай можна ранкам, калі абвешчан мір..."

Пераступіўшы парог хаціны, я трапіў у застолле. Гаманілі ўсе разам. Спявалі. Смяяліся. Плакалі. Узнімаліся тосты — і першы за тых, каго няма з намі і не будзе ўжо ніколі... Ні-ко-лі... Наш вусаты капітан даставаў з кабуры свой "ТТ" і ў расчыненае насцеж вакно страляў — у гонар жывых... у памяць пра тых, хто загінуў...

А я ўсё адчуваў сябе ў раі. Залатым ад сонца. Цёплым ад усмешак жанчын. І ад слёз іх — таксама.

Насупраць мяне раз-пораз крыху адпівала самагонкі светлазорная маладая жанчына. У яе чыстым позірку загаралася ўсё нешта і загаралася. Калі ў чорнай талерцы-рэпрадуктары зноў гучаў голас нашага ўлюбёнца-дыктара Уладзіміра Юрэвіча, які ці не ў соты раз паўтараў ранкам разнесенае па Мопраўскай хлапчукамі слова "Перамога!", яна нібы пачынала якуюсьці песню і паўтарала адно толькі: "Ай-ай-ай... які май! Ай-ай-ай..."



Цямнела, калі я здагадаўся, што і гэтая запеўка — таксама пераклад таго "майго" эпіграфа: "Упіцца можна асалодай..."

На ганку я спытаў светлазорную суседку з праменістымі вачамі, як яе завуць.

— Ева. Ай-ай-ай! Які май!..

Такім вось чынам я пабываў у раі. Дзевятага мая. У векапомным сорак пятым.

Валянцін ТАРАС

## ЖЫЦЦЁ І СМЕРЦЬ НА ГЭТЫМ БЕЛЫМ СВЕЦЕ...

...Калі ў ліпені 1944 года наш атрад прыйшоў у Мінск, перад самым знакамітым партызанскім парадам, я адразу ж папрасіў у свайго камандзіра ўзвода дазволу збегаць дахаты, на Пушкінскі пасёлак, адкуль паўтара года назад сышоў з дому і дзе жылі мая бабуля, сястрычка Таечка і цётка Люся. Толькі яны там больш не жылі. Ад суседзяў даведаўся, што немцы вывезлі іх у Германію. Знайшліся яны аж праз семнаццаць год пасля вайны, адшукалі мяне праз Міжнародны Чырвоны Крыж. Аказалася, што яны жывуць у Польшчы, што мая сястрычка Таечка даўно ўжо не Таечка, а пані Тэрэса Бжэзіцка, маці дваіх дзяцей. Чаму так здарылася, што мы сустрэліся ажно праз семнаццаць год — асобная гісторыя, а я расказваю пра той ліпень 44-га, пра той дзень, калі сустрэўся з бацькам.

18 ліпеня мы літаральна сутыкнуліся лоб у лоб на вуліцы 7-я Лінія, якая знаходзілася ў раёне цяперашняй вуліцы Сурганава — старшы лейтэнант з медалём "За баявыя заслугі", з пышнай шавялюрай, якая вольнай хваляй выкатвалася з-пад фуражкі, з пісталетам "ТТ" у карычневай кабуры на баку, і хлапчук з партызанскім медалём на трафейным нямецкім фрэнчы, у разбітых ушчэнт ботах, — зброі ў хлапчука ўжо не было, бо атрад ягоны расфарміравалі пасля партызанскага парада.

Бацька не пазнаў сына, збочыў крыху, каб даць яму прайсці, а сын адразу пазнаў бацьку, пазнаў па той пышнай шавялюры, і нема крыкнуў: "Тата!". Той збялеў і нейкі час моўчкі глядзеў на хлапчука, варушыў губамі, а ў вачах быў дзіўны жах — жах раптоўнага неверагоднага шчасця. Вядома, гэта я цяпер, гледзячы на тую сустрэчу здаля і збоку, да таго ж, вокам літаратара, магу сказаць, якія ў той момант былі ў майго бацькі вочы, а тады, крыкнуўшы "Тата!", я таксама анямеў, мне таксама зрабілася аж страшна ад шчасця. Я ўвесь дрыжэў, калаціўся, як ад холаду, і пякучы камяк плачу стаяў у горле. Але вось бацька кінуўся да мяне, сціснуў у абдымках, пачаў цалаваць мяне як апантаны, і твар яго зрабіўся мокрым ад слёз. Заплакаў і я, не стрымліваючыся, зусім па-дзіцячы, як не плакаў ужо даўно. Ды што там даўно — за ўсе гэтыя тры гады не праліў ні слязінкі. Нас акружылі нейкія людзі, вайскоўцы і цывільныя, жанчыны, дзеці, глядзелі, як мы стаім і плачам, і многія таксама плакалі — і жанчыны, і мужчыны, усміхаліся нам праз слёзы.

Вось у той дзень бацька мяне і сфатаграфаваў — перад тым, як зняць з мяне трафейнае, смярдзючае зрэб'е, абуць у новыя чаравікі, памыць і пастрыгчы. Перад тым, як вярнуць мяне ў дзяцінства з жорсткага мужчынскага свету вайны...

Я гляджу на гэты здымак і думаю аб тым, што хлапчук на ім не проста аддаліўся ад мяне, але і аддзяліўся, застаўшыся ў гісторыі, на беразе далёкага часу, у зруйнаваным Мінску 1944 года. Аб тым, што хлапчук гэты зусім не я. Бо я даўно ўжо не веру ў тое, ува што ледзь не з пялюх несвядома верыў ён, — у "светлую будучыню ўсяго чалавецтва" і ў вялікага Сталіна. Не веру таму, што праверыў веру веданнем, і роздум над тым, што дало мне веданне, плынь самога часу спакваля, але жорстка разбурылі сталінскую казарму ў маёй душы, прывялі да новых цвярозых, здабытых пакутамі сэрца і розуму пераканання, да новага разумення Бацькаўшчыны, дзе ў мяне ёсць адрас, у якім пазначаны і краіна, і горад, і вуліца, і дом: Беларусь, Мінск, Трамвайны завулак, дом N 7/1, хоць і згарэў ён у страшэнным полымі, гэты мілы, ціхі Трамвайны завулак. Згарэў — і застаўся. Як мая Бацькаўшчына. Як застаўся той хлапчук, хоць і зрабіўся зусім іншым чалавекам. І я — гэты іншы чалавек — паважаю гэтага хлапчука-партызана. Бо што б там ні было, а гэта яго ваеннае дзяцінства дапамагло мне зразумець, што такое жыццё і смерць на гэтым белым свеце...



Леанід ШЧАМЯЛЁЎ

## ТОЛЬКІ ПРЫГАЖОСЦЬ ДАЕ СУЦЯШЭННЕ

Вядома ж, складана аднавіць зараз, якой на самай справе была вайна. Безумоўна, яна была жудаснай і прынесла з сабою вялізныя ахвяры, асабліва для нашай рэспублікі. Але, калі мы гаворым пра кожнага чацвёртага, гэта не зусім адлюстроўвае, колькі матэрыяльных і асабліва маральных страт было, колькі загублена душ, колькі людзей не перажыло ўспамінаў пра загінуўшых родных.

Таму Дзень Перамогі — не проста свята. Гэта сумны ўспамін пра вялізную трагедыю. Спаленыя хаты, знішчаныя творы, разбураныя гарады. Колькі унікальных помнікаў было ў музеях Віцебска, Мінска, Магілёва! І многае з гэтага знікла ў невядомасць.

Дзень Перамогі — ён заўжды са слязамі. Так, наш народ паказаў сябе як гераічны і сціплы, чысты ў сваёй маралі. Але для гісторыі Беларусь чарговы раз стала палігонам падзей, што адбываліся ў Еўропе. Да таго ж, паглядзіце на нашых ветэранаў. Мне давялося быць у многіх вёсках, на раёнах — колькі там людзей, зняважаных гэтай жахлівай вайною і не абласканых ані адміністрацыяй, ані мясцовымі кіраўнікамі. Я сам памятаю, як цяжка прыйшлося пасля вайны, калі, дэмабілізаваўшыся ў 1947 г., знайшоў свой дом у Віцебску разбураным. Не было як дамагчыся нармальнага жылля. У тыя гады ніхто не зважаў, ці прайшоў ты вайну, ці ветэран, ці знішчана твая сям'я. Толькі з сямідзесятых гадоў пачаліся больш-менш уважлівыя адносіны да ветэранаў. І такое доўгае забыццё, здаецца мне, нанесла вялікія маральныя страты народу і самім удзельнікам вайны. Несправядлівым быў падзел на "абласканых" і "забытых" ветэранаў. Мяне асабіста ўсе гэтыя гады трымала творчасць. Менавіта яна не давала расслабіцца.

Падзеі той вайны зараз успрымаеш іначай, перадумваеш, укладаеш сваё разуменне ў творчасць. Але мне ніколі не забыць тое калектыўнае захапленне, той дзіўны стан, калі ты нібыта скідваеш з сябе ярмо і адчуваеш феерверк радасці. Для мяне як чалавека творчасці гэта трансфармавалася ў вобразнае ўяўленне. Пра многае я не здольны апавядаць не толькі ў карцінах, але і сябрам, бо гэта жахлівыя па сваёй сутнасці рэчы. Але галоўнае, што адчуваю, боязь за нашу рэспубліку, за тое, што цяперашняе кіраўніцтва мусіць імкнуцца не ствараць процідзеянне ў грамадстве. Бо вайна — рэч не прадказальная. І на многія гады ў душы чалавека застаецца трагедыя, нянавісць. А мы павінны жыць, бачыць прыгажосць, якая адзіная нараджае ў душы суцяшэнне.



***Чалавек на вайне. Са сваім характарам, сваёй псіхічнай і душэўнай арганізацыяй, стаўленнем да таго, што адбываецца вакол яго, нарэшце, са сваім адчуваннем пагрозы смерці, да якой, як спявалася ў вядомай песні часоў Айчыннай вайны, "только четыре шага".***

***Пра ўсё гэта напісана шмат кніг. Розных. Таленавітых і не вельмі. І такіх, дзе псіхалогія чалавека на вайне вывучана да драбніц, і такіх, дзе героі, нібы тыя алавяныя салдацікі, мала чым адрозніваюцца адзін ад аднаго.***

***І ўсё-такі, як бы і што ні пісалі літаратары пра вайну, пра яе ўдзельнікаў, нішто так не раскрывае іх існасць, іх душу, як легендарныя ў гады мінулай вайны салдацкія трохкутнікі-лісты з фронту родным і блізкім.***

***Зразумела, што і там, на варожым беразе, салдаты і афіцэры фашысцкага вермахта трымалі паштовую і іншую сувязь з роднымі ў Нямеччыне і з чыста нямецкай акуратнасцю і ўніклівасцю апісвалі сваё франтавое жыццё, атрымліваючы, у сваю чаргу, такія ж падрабязныя паведамленні аб тым, што робіцца, як жывецца ў самім фатэрляндзе.***

***Сённяшняя падборка лістоў з пазнакай "палявая пошта, нумар...", адпраўленых з франтоў Айчыннай вайны і з Усходняга фронту ў Нямеччыну, падрыхтаваная навуковым супрацоўнікам Музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Наталляй Іосіфаўнай Філіповіч і доктарам гістарычных навук, галоўным навуковым супрацоўнікам БелНДЦ дакументазнаўства, архіяграфіі і архівазнаўства Расціславам Пятровічам Платонавым, уваскрашае ўжо схаваныя за смугой гадоў падзеі небывалай па сваёй жорсткасці ў гісторыі чалавецтва вайны.***

# ПАЛЯВАЯ ПОШТА, НУМАР...

"Дарагая мама, пішыце пра сваё здароўе, дзе вы жылі да прыходу Чырвонай Арміі, дзе цяпер жывяце, наконт прадуктаў. Пішыце, якія навіны адбыліся з таго часу, як мяне не стала дома, не крыўдуйце, што так атрымалася, будзем жывыя, то нажывём. Мама, не хвалюйцеся за мяне, будзем жывыя, то будзем дома, увогуле які лёс.

Дарагая мама, я вам яшчэ паведамляю, што я хутка атрымаю ўрадавую ўзнагароду, г. зн. званне Героя Савецкага Саюза за свае баявыя заслугі перад радзімай, г. зн. за вызваленне Савецкай Беларусі ад нямецкіх людаедаў. На гэтым я сваё маленькае паведамленне пра сваё жыццё канчаю. Чакаю адказу ад вас, застаюся жывы і здаровы. Пакуль да пабачэння.

Мой адрас палявая пошта 08984 "Ф".

Пісаў ваш сын

З прывітаннем С. П. Анішчанка.

Прышліце мне адрас Паўла Фядосавіча, бо я ведаю, што яго дома няма, і Аляксея Юлькіна, калі прыслаў пісьмо, і Мірона Максімавіча Брушкова.

21-7-44 года".

*Анішчанка С. П. Герой Сав. Саюза (24. 03. 45) 1923 г. н. в. Сцепы Жлобінскага р-на Гомельскай вобл. На фронце з 1943 г. Радавы. Стралок 16 стр. палка 102 стр. дыв-і 48 арм. І Бел. фронту. Загінуў 31. 07. 1944 г. у баях за вызваленне Польшчы.*

"Добры дзень, мае мілыя мамачка, татачка і Ніначка. Шлю я вам, мае родныя, сваё сардэчнае прывітанне і самыя добрыя пажаданні ў вашым жыцці, здароўя і самаадчування.

Я здаровы, бадзёры і адчуваю сябе добра ва ўсіх адносінах. Нядаўна я выконваў загад радзімы. Яго мы выканалі з гонарам. За што атрымалі падзяку ад таварыша Сталіна, а ад радзімы наша часць атрымала ордэн Чырвонага Сцяга. Цяпер мы можам спакойна адпачыць. Сёння перашлю вам грошы. Памыюся ў лазні, пераапрануся і буду адпачываць спакойна. Пра тое, які мы ўзялі горад два дні таму назад, вы чулі вялікі салют з Масквы. Ад вас пісем чамусьці ўжо даўно не атрымліваю, пэўна, у гэтым вінавата пошта, якой, вядома, цяжка за намі ўгнацца. Спадзяюся, што ўсё ж хутка атрымаю ад вас, мае мілыя, пісьмы. А пакуль заканчваю. Будзьце здаровыя і бадзёрыя. Пішыце часцей і падрабязней. Чакаю вашых пісем з вялікай нецярплівасцю. Цалую і абдымаю вас моцна-моцна, ваш Коцік. 16. 10. 43".

*Шохан К. Я. 1923 г. н., бел., урадж. с. Пухавічы Мінскага р-на. Лейтэнант, кам. роты 3 танк. брыгады 23 тан. корпуса. Загінуў 22 кастр. 1943 г. у баі за г. Чапліна Днепрапятр. вобл.*

"Добры дзень, дарагія бацькі.

Па-першае, паведамляю, што я жывы і здаровы, чаго і вам жадаю. Новага нічога няма. Чамусьці доўга няма ад вас пісем. Справы ідуць нармальна. Спачатку ваяваў на Паўночным Каўказе, вызваляў Новарасійск, Таманскі паўвостраў, потым Керч, Крым і Севастопаль. З камандай з Куйбышава паляцеў на Прыбалтыку, дзе цяпер і ваюю.

Цалую ўсіх. Косця.

Прывітанне ўсім. Папярэджваю зрабіць тое, што я вам пісаў, іначай пра мяне нічога не даведаецеся.

Вось і ўсё.

Дасылаю кепскую фотакартку, на справе я не такі ўжо страшны. Але лепшай няма. 15.8.44".

*Абазоўскі К.А. Герой Савецкага Саюза (26.10.44) 1919 г.н., в.Абухава Бешанковіцкага р-на Віцебскай вобл. Л-т, камандзір звяна 190 штурм. авіяпалка 214 штур. авіядывізіі 15 Паветр. Арміі 2 Прыбалт. фронту. Загінуў 26.10.44 г. у Латвіі.*

"Усходняя Прусія. 9 мая 1945 года.

Добры дзень, дарагі тата!

Я пісаў табе, што больш маіх пісем не будзе. Але падзеі змяняюцца вельмі хутка, і сёння я зноў маю магчымасць напісаць табе.

Сёння для нас радасны, незабыўны дзень — дзень Перамогі! Мы чакалі яго пад гул "скрыпачоў", пад выбухі снарадаў і выццё мін. Мы моклі пад дажджом, спалі ў снезе. Мы пераадолелі ўсе цяжкасці і нягоды. І вось вынік — перамога. Германія капітулявала. Пра гэта мы даведаліся ноччу, а днём адбыўся грандыёзны парад. Выпілі, успомнілі таварышаў і нашы слаўныя баявыя справы!

З гвардзейскім прывітаннем! Віншую цябе з днём Перамогі!

Твой сын Леанід Дубар".

*Дубар Л.П. 1925 г.н., беларус, урадж. г.Магілёва. У гады Вял. Айч. вайны падпольшчык г.Магілёва, потым — радавы, разведчык 91 гв. стр. дыв-і 5 гв. стр. корпуса 39 арміі 3 Бел. фронту, удзельнік вызв. Беларусі, Латвіі, штурму Кёнігсберга, вайны з Японіяй. Пасля вайны — мастак. Памёр у 1978 г.*

"9 мая 1945 г.

Добры дзень, дарагі Валодзя!

Шлю гарачае брацкае прывітанне і віншую цябе з Усенародным святам 9 мая — Днём Перамогі.

Няма слоў, каб перадаць табе сваю радасць у сувязі з аб'яўленнем заканчэння вайны. Ззаду засталіся цяжкія дні ваенных выпрабаванняў. Пройдзены вялікі шлях — ад Сталінграда да Берліна. 8 мая я ўвайшоў у гэты праклятым усім светам горад. Адны руіны засталіся ад гарадскіх будынкаў, мастоў і вуліц. Доўга будуць помніць немцы вайну, якую яны пачалі і прайгралі. А мы па-ранейшаму пойдзем наперад да шчаслівага і радаснага жыцця.

Шкада тых, каго няма сярод нас у жывых. Вечная слава загінуўшым за нашу Радзіму!

Да хуткай сустрэчы, дарагі браток. Моцна цалую М.К.Грак".

*Грак М.К. 1918 г.нар., беларус, урадж. Ушацкага р-на Віцебскай вобл., капітан, камандзір батарэі 748 арт. палка.*

"Добры дзень, дарагая мамачка і Маня!

Па-першае, паведамляю, што я жывы і здаровы, чаго і вам жадаю. Пазаўчора атрымаў тваё пісьмо, за якое вялікі дзякуй. Напісаў татку пісьмо па адрасе, які ты мне дала. Напісаў яму, што ён думае наконт таго, каб узяць вас, але я думаю, што спяшацца вам туды пакуль не трэба, таму што адтуль, дзе ён, яшчэ недалёка лінія фронту, і могуць быць лішнія турботы ад бамбёжак. Праўда, ведаю, што вам кепска, ну нічога не паробіш, буду вам прысылаць патрохі грошай і вы іх асабліва не шкадуйце, праядайце ўсе.

Немца, мама, б'ю някепска пакуль: мне шанцавала, хутка атрымаю другі ордэн, ну сама ведаеш, што вайна цяпер цяжкая, усё можа здарыцца, магчыма, і табе давядзецца паплакаць, як і многім іншым, але ты ведай, што дарма сваё жыццё я не аддам і ўжо не адна немка, а дзесяткі ламаюць рукі, аплакваючы сваіх сыноў, што загінулі ад кулі майго штурмавіка, і мая расплата з імі яшчэ не закончана. Я яшчэ думаю пабыць у Берліне.

Атрымаў ліст ад цёткі Ксені, піша, што знайшоўся Куляшоў і едзе ў Мінск на сваю старую працу і яна туды паедзе, дала свой адрас: Мінск, Беларуская кантора сельгас.банка.

На гэтым пакуль да пабачэння, моцна цалую цябе.

15/VIII.44 г.

Я.Лупачоў".

*Лупачоў Я.А. 1919 г.н., беларус. Мал.лейтэнант. Лётчык-штурмавік 233 штурм. авіядывізіі 4 Паветр. Арміі 2 Беларус.фронту. Загінуў 10.10.44 г. у Польшчы. За гады вайны — 77 вылетаў, узнаг. орд. Айчыннай вайны II ст. і Чырвонай Зоркі.*

"1 ліпеня 1942 г.

Добры дзень, любімыя Марусечка, Мішутка і Воўка!

Я ведаю, што вы з нецярпеннем чакалі гэты ліст, бо канец мінулага ліста не быў дапісаны, бо я накіроўваўся знішчаць праклятых фрыцаў і гансаў. Павер, мілая, што ім моцна ад мяне дастаецца, ужо шмат тон смертаноснага грузу я адвёз на галовы фашысцкай погані і сотні немцаў знайшлі сабе магілу на нашай зямлі, і ўсіх астатніх будзе такі ж лёс.

Вы, вядома, турбуецеся за мой лёс, за маё жыццё. Дык вер, дарагая, што я так не аддам яго, яно будзе дорага ім каштаваць. А ўвогуле менш (дапісваю 2.7.42) думай кепскага. Працуй, выхоўвай сыноў хоць бы так, як выхаваны іх татка, а я тут пастаю за ўсіх вас. Жыццё наша, як бачыш, "вясёлае". Праўда, пасля баявой работы бывае шмат цікавага, размовы, абмен вопытам, жарты і інш. і асабліва пасля прыняцця 100—200 грамаў віна бываюць вясёлыя хвіліны. Нішто так не збліжае людзей, як баявая работа. Наш калектыў — гэта адна сям'я. Нягледзячы на тое, што я ў новым палку, я хутка прывык да людзей, зблізіўся, пасябраваў.

Здароўе па-ранейшаму добрае, настрой добры.

Даўно бачыў вас, як хочацца пагаварыць аб усім, падзяліцца думкамі, убачыць усіх вас і асабліва Воўку, які ён?

Пішы, любая Маруська, не чакаючы ад мяне пісем. Ты не ўяўляеш, як радасна тут чытаць пісьмы любімай, як саграе, надае сілы і адвагі кожнае слова; рассейваецца смутак і журба па добрых таварышах і сябрах, што тут і нярэдка бывае, калі аддаюць сваё жыццё за Радзіму.

Я з вамі буду дзяліцца баявымі справамі, бо ў мяне іншых няма, думаю, што гэта вас цікавіць. Ну, да хуткай сустрэчы!

Горача цалую ўсіх вас. Ваш Міша. Прывітанне ўсім знаёмым. Мой адрас: 2092 Паштовая палявая станцыя 723, авіяполк, Куліку М.П.".

*Кулік М.П., 1914 г.н., беларус, в.Грэск Слуцкага р-на Мінскай вобл., лейтэнант, нам.камандзіра эскадрыллі, лётчык-штурмавік на Зах., Бран., Варонеж. і І Укр. франтах у складзе 213, 723 і 138 бамбардзір. авіяпастоў. Узнаг. орд. Леніна. Інвалід вайны з 1943 г. Жыве ў Капылі.*

---

*Остмарк, Лесбен-Гес.*
*Іосіфу Брунеру.*
*Ад унтэр-афіцэра Альберта Колера,*
*п.п. 47896/С*

Я ўсё яшчэ здаровы, што тут на Усходзе трэба разглядаць як выключнае шанцаванне, бо часта бываюць моманты, калі знаходзішся на валаску ад смерці.

...Прадаўжаем вялікія пераходы. Так, нядаўна мы за 6 дзён прайшлі пешкі 200 км. Да гэтага яшчэ і стан дарог. Бясконцыя лясы, спаленыя масты, каб перашкодзіць нашаму руху. Вядома, такія перашкоды мы пераадольваем за адну-паўтары гадзіны, і можна зноў рухацца. Пра сон і адпачынак у такія дні няма чаго думаць. Сумна тут, на Усходзе, з-за баёў з гэтымі каварнымі партызанамі. Гэтыя свінні хаваюцца на дрэвах і ў земляных умацаваннях у велізарных балоцістых лясах, нападаюць з засад на асобныя групы і атрады нямецкіх салдат і потым часта беспакарана знікаюць. Або мініруюць нашы дарогі, дзе часта каторы храбры салдат вымушаны расстацца з жыццём. На жаль, і наша часць можа паскардзіцца на такія ахвяры нападзення.

*Пані Марыі Мурфальд,*
*Грац, Нойсмарк.*
*Ад унтэр-афіцэра Ругхары,*
*п.п. 47896/С 18.8.42 г.*

Я спадзяюся, мая мілая, табе і Францыску даставіць маленькую радасць, бо сабраў для вас шмат цудоўных рэчаў, аднак павінен цягаць іх з сабою, пакуль не паеду ў водпуск. Аднаму з таварышаў я ўручыў ужо поўны партфель, магчыма, да моманту атрымання гэтага ліста ён будзе ўжо ў вас. Мілачка, ты пішаш, што я павінен дастаць табе валёнкі. Канечне, калі ў цябе ёсць такое жаданне, то ты павінна іх атрымаць, бо я маю футравы паўкажушок, то і ты павінна мець футравае паліто, каб ты не мерзла. У мяне для цябе ёсць яшчэ і іншыя цудоўныя рэчы. Я падрыхтаваў чарговы пакет, накірую, пры выпадку, з таварышам. У пакеце, які я пасылаю, галоўным чынам воўна. На шчасце, пакуль ніводны пакет не згубіўся.

*Жазефіне Шылінг у г.Ольсберг,*
*Вестфалія.*
*Ад капітана В.Обертрыфтэн,*
*п.п. 12203. 18.ІІ.43 г.*

Я са сваімі салдатамі знаходжуся ў глухой мясцовасці — партызанскім раёне, дзе мы прадастаўлены самі сабе. Нам часта даводзіцца весці барацьбу з бандытамі. Гэта мне вельмі падабаецца. Некалькіх з іх мы ўжо знішчылі. Гэты народ нападае толькі з засады. Я цяпер камандзір роты, адначасова з'яўляюся камандзірам апорнага пункта і мясцовым камендантам. Кожны дзень, а часта і ноччу мы павінны праследаваць партызан. Але пакуль мы трымаем гэтых хлопцаў у руках.

Тут мы зусім ад усяго адарваны. Раз у дзесяць дзён нам дастаўляюць прадукты і пошту; гэта залежыць ад абставін. Святла ў нас няма; ноччу мы корпаемся ў нашых дамах у поўнай цемнаце. Гэта сапраўдная вайна, я да яе прывык і гэтым задаволены. Цяпер у мяне ёсць сапраўдная работа, і мне няма калі і няма чаго ламаць сабе галаву.

*Салдату Кадаў ад яго знаёмых*
*Гартвіч і Шумахер*
*Ростак, 16.8.43 г.*

...Вы не можаце сабе ўявіць, што яны зрабілі з Гамбургам. На вуліцах ляжалі тысячы трупаў. Да нашага гаспадара прыехалі сваякі;

*(Працяг на стар.15)*



*Л.ДУБАР, "Пошук".*



*В.САХНЕНКА, "Пераможца".*



*А.КАВАЛЁЎ, "Давай закурым".*

# "ЯНЫ ПРАЙШЛІ ПА ТОЙ ВАЙНЕ..."

Франтавы малюнак... Бадай, гэта асобная з'ява ў мастацтве — творчасць у экстрэмальных умовах. Франтавыя малюнкі ахопліваюць самыя разнастайныя старонкі баявога жыцця і, думаецца, іх аўтары і не меркавалі, што створанае імі з цягам часу стане хвалюючым гістарычным дакументам, помнікам гісторыі і вайны.

Сёння ў фондах выяўленчага мастацтва Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны калекцыя франтавых і партызанскіх малюнкаў складае 350 адзінак. На іх мы бачым разбураныя вайной гарады, партрэты салдат, афіцэраў і партызан, характэрныя эпізоды вайны.

Значнае месца займаюць сярод іх малюнкі, зробленыя беларускімі мастакамі Л.Лейтманам, В.Сахненкам, С.Андруховічам, Л.Дубарам, М.Гуціевым і іншымі.

**Н.ФІЛІПОВІЧ,**
**заг.сектара аддзела фондаў**
**Белдзяржмузея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны**

## АДЧУВАЎ ДУШУ НАРОДА

**Спаўняецца 150 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага этнографа і фальклярыста Мікалая НІКІФАРОЎСКАГА (5 (17) мая 1845—28.5 (10.6) 1910). Працаваў настаўнікам народных вучылішч і гімназій у Віцебску і Віцебскай губерні, а таксама ў Свіслацкай і Маладзечанскай семінарыях. Захапіўся вывучэннем побыту і культуры Беларусі, на працягу дваццаці гадоў з'яўляўся карэспандэнтам П.Шэйна, а затым пачаў запісваць, вывучаць фальклор самастойна.**

**Апублікаваў каля дваццаці прац па этнаграфіі, фальклоры і гісторыі Віцебшчыны. І па сённяшні дзень не страцілі свайго навуковага і пазнаваўчага значэння такія з іх, як "Нарысы Віцебскай Беларусі" ў васьмі частках, "Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі і апісанне прадметаў ужытку", "Простанародныя прыметы і павер'і , прымхлівыя абрады і звычаі, легендарныя паданні пра асобы і мясціны", "Простанародныя загадкі", "Нячысцікі. Збор простанародных з Віцебскай Беларусі паданняў пра нячыстую сілу", "Беларускія песні і частушкі" і іншыя.**

## СЯМ'Я МАСТАКОЎ

**Сямейную мастацкую майстэрню Рамейкі ў Баранавічах ведаюць многія. Яе арганізавалі галава сям'і Уладзімір Паўлавіч, яго жонка Вольга Іванаўна, а да іх далучыліся іх дзеці Уладзімір і Алеся.**

**Мастакі не адчуваюць недахопу ў кліентах. І гэта не здзіўляе. У сямейнай майстэрні могуць выканаць любы заказ: зрабіць вітражы, фрэскі, металапластыку, батык, габелен, адліць памятныя медалі, зрабіць разьбу па дрэве, з густам аформіць інтэр'ер...**

**Шырокі спектр работ, якія звычайна выконваюцца на высокім мастацкім узроўні, дазволіў сям'і мець сродкі на набыццё на правах прыватнай уласнасці цудоўнай майстэрні і двух невялікіх выставачных залаў.**

*На здымку: сям'я Рамейкі — Уладзімір Паўлавіч і Вольга Іванаўна, іх дзеці Уладзімір і Алеся і самы маленькі член творчага калектыву — шасцігадовая ўнучка Аня.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА,*

**БЕЛІНФАРМ**

## НЕ ТОЛЬКІ ЛАЗА...

**Таццяна Цімошкіна з Браслава — майстар па лазапляценні. Пасля заканчэння браслаўскай школы паехала ў Рыгу і паступіла ў політэхнічны інстытут, адначасова з вучобай здолела закончыць курсы мастацкай вышыўкі.**

**Вось ужо дзесяць гадоў, як Таццяна Цімошкіна змяніла месца жыхарства і вярнулася ў родны Браслаў. Цяпер яе асноўны занятак — вышыўка і пляценне з лазы.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: Таццяна Цімошкіна і яе работы з лазы. Мастацкая машынная вышыўка Таццяны Цімошкінай.*

1945-1995

Аркадзь Марціновіч

# СВЯТЛО ТАГО ДНЯ

Гэта ўжо далёкая гісторыя — дзень 9 мая 1945 года. Разам з чалавекам старэюць і яго даўнія думкі і перажыванні. Старэюць і падзеі, удзельнікам ці сведкам якіх ён быў. А яшчэ ж, у дадатак, стаіць перад табою і над табою ява сённяшняя, якая няўхільна ўплывае на твае адносіны да мінулага. І ўсё ж, успамінаючы той дзень, я і цяпер быццам адчуваю яго святло, цеплыню і першароднасць.

Тады я служыў у заходнеўкраінскім горадзе Драгобычы. Яскрава помню, што ў той дзень увесь горад быў на вуліцах — ад старога да малога. На каго ні глянеш — ззяла на твары радасць. Гэта было ўсеагульнае, усенароднае свята. Вайскоўцы салютавалі хто чым мог. Я расстраляў у неба ўсе патроны свайго пісталета. А пасля таварышы па службе сабраліся на гасціну. Шумная яна была. Тосты, звон чарак, песні, размовы... Усё пра вайну; дзе хто пачаў яе і дзе скончыў; як бралі нейкую вышыню ці горад і якая цяжкая нявыкрутка была тады... У кожнага ж, як кажуць, вайна была свая, адметная. У маім жа ўяўленні з гэтай, вялікай, вайной злівалася другая, неславутая, як назваў яе А. Твардоўскі; паўставала ў маіх думках лютая зіма саракавога на Карэльскім перашыйку, "лінія Манергейма", "зязюлі" ў настылым варожым лесе, і востра абзывалася ўва мне тадышняе адчуванне: як не хацелася мне памерці, не пражыўшы і дваццаці гадоў, і я, ужо змірыўшыся з тым, што загіну, гаварыў сабе (па-цяперашняму дык сказаў бы: прасіў у Бога): дажыць бы да дваццаці, а там... Здарылася ж так, што праз тры дні пасля таго, як мне споўнілася дваццаць, савецка-фінская вайна скончылася. У красавіку саракавога дывізія, у якой я служыў, вярнулася з-пад Выбарга ў Тулу, а праз нейкія два месяцы зноў пагрузілася ў эшалоны і рушыла на захад, як тады казалі — у вызваленчы паход у Прыбалтыку. Роўна праз год дывізія, толькі паспеўшы асталявацца ў летнім лагеры пад Вільняй, была паднята па трывозе і накіравалася бліжэй да граніцы. У мяне было такое адчуванне, што гэта мы збіраемся прыстукнуць Гітлера на яго тэрыторыі... Праз тыдзень было 22 чэрвеня...

На фронце мне выпала быць у самы горкі час вайны. Пякельныя дарогі адступлення ўлетку сорак першага. Можа, яшчэ больш цяжкі год вайны сорак другі; летам я быў на Бранскім фронце, а ў канцы года — на Цэнтральным, на Ржэўскім напрамку. Адны няўдачы ў баях, незлічоныя ахвяры. Жывуць у маёй памяці таварышы, з кім быў поплеч у тых баях і якія палеглі там. Ах, колькі чалавечых жыццяў забрала вайна!.. На гасціне, пра якую я тут расказваю, мы памянулі іх шчырым словам і чаркай. Нам ненавісная была вайна, і нікому з нас не хацелася б зведаць новую бойню. Але мы — сыны свайго часу, і ў нашых галовах сядзела вядомае палажэнне аб немінучасці войнаў, пакуль існуе капіталістычны свет. І ўзнікла ў нас размова, падобная на гульню: а калі ж станецца новая вайна — хто адгадае? Маўляў, некалі пабачым, хто з нас прарок. Помніцца, я назваў 1963 год. Самы далёкі па часе быў кімсьці названы 1974 год. Мы, вядома, мелі на ўвазе вялікую вайну: так што ніхто з нас не стаў прарокам, і гэта добра. Праўда, была "афганская" вайна, была "халодная" вайна, якая доўгія гады высмоктвала багацці краіны і сілы народа, што з'явілася адной з прычын гіблага стану эканомікі.

Няхай бы не было на зямлі ні "гарачых", ні "халодных" войнаў. Кажу так і думаю найперш пра нашу Беларусь: хаця б не ўцягнулі яе ў крывавыя канфлікты, якія палыхаюць там-сям; хаця б не прыйшла на нашу зямлю вайна; бо хіба можна забыць мільёны палеглых на той, далёкай, вайне.

Генрых ВАГНЕР

# МУЗЫКА СМУТКУ, ЧАКАННЯ І РАДАСЦІ

У раён Кёнігсберга наша канцэртная брыгада прыехала ў канцы красавіка. Кіраўніком брыгады быў выдатны музыкант Іосіф Жыновіч, а ў яе складзе — таксама вядомыя беларускія майстры мастацтваў: салісты оперы Мурамцаў, Лапін, Друкер, балерына Майсеенка, артыстка філармоніі Плоткіна, кампазітар Лукас, скрыпач Бяссмертны, піяніст Жэзмер і я, на той час студэнт Беларускай кансерваторыі, якому даводзілася выступаць і як піяністу, і як акардэаністу-акампаніятару. У артыстаў, музыкантаў быў свой нялёгкі чын: выступаць перад воінамі, не маючы ніякіх гарантый ад варожых налётаў і нечаканых абстрэлаў; выступаць у шпіталях, стараючыся падбадзёрыць нават цяжка параненых і знявечаных вайною маладых салдацікаў. "Трымаць усмешку", дайце веры, і артыстам не заўсёды бывае лёгка...

Праўда, у тыя дні ў нашай брыгадзе панавала сапраўднае натхненне. Мы былі ўжо, як тады казалі, у логаве ворага, канец фашызму, канец вайны імкліва набліжаўся, мы з пачуццём асаблівай радасці, удзячнасці сустракаліся з воінамі роднай арміі. Сапраўды, нашы канцэрты адбываліся як сустрэчы родных людзей. Нас прасілі выканаць "Зямлянку", разам з намі спявалі песню "Бывайце здаровы" і "Наш тост", воіны-беларусы, — а іх мы нярэдка бачылі і ў войску, і ў шпіталях — з трывогай, з хваляваннем распытвалі: а што ж там, на радзіме, а ці былі мы на Віцебшчыне, а як выглядае Мінск, а ці ёсць надзея, што не спалена родная вёска і засталіся жывымі сваякі?.. Часта па просьбе землякоў мы выконвалі беларускія песні, і тады асабліва адчувальным быў смутак вайны, трывога чакання, радасць ад усведамлення таго, што хутка скончыцца ўвесь гэты кашмар...

*Здымак зроблены 5.05.45 г. у Дамнау (Усходняя Прусія). Генрых Вагнер у складзе брыгады беларускіх артыстаў (другі рад, трэці справа, побач з І. Жыновічам).*

Ведаеце, для мяне вайна пачалася на некалькі гадоў раней, у 39-м, калі разам з іншымі бежанцамі я пакідаў палаючую Варшаву і рушыў на ўсход. На Беларусі мяне сустрэлі надзвычай шчыра, тут я знайшоў сваю другую радзіму — а гэта значыць, знайшоў усё, што трэба, каб спраўдзіцца чалавечаму жыццю. Адным з першых маіх беларускіх сяброў стаў Уладзімір Уладзіміравіч Алоўнікаў, для мяне проста Валодзя, з якім мы жылі побач у інтэрнаце кансерваторыі. Па-рознаму пралеглі нашыя дарогі ў вайну: Алоўнікаў быў артылерыстам, ваяваў у чыне капітана, пачынаў на астраханскім беразе Волгі, а закончыў вайну на аўстрыйскім беразе Дуная... Гэтыя драматычныя старонкі жыцця кампазітара-франтавіка ярка адлюстраваліся ў яго творчасці пасляваенных гадоў. Мне ж выпаў іншы лёс: удзел у франтавым тэатры, якім кіраваў вядомы савецкі артыст Георгій Менглет, праца поруч з такімі карыфеямі мастацтва, як мастак Мікалай Акімаў, кінарэжысёр Сяргей Юткевіч, спявак Леанід Уцёсаў. Пісаў музыку, выступаў як канцэртмайстар, пабываў разам з франтавымі артыстамі і ў Малдове, і ў Румыніі, і пад Курскам... Ну, а май 45-га пакінуў успаміны пра вызваленчы паход нашых войскаў, пра парад пераможцаў ва Усходняй Прусіі 7 мая, які прымаў генерал арміі Баграмян, а побач на трыбуне былі й мы, беларускія артысты. Запомніліся сустрэчы з генералам танкавых войскаў Бурдзейным, які пасля вайны адшукаў нас ужо ў Мінску. Запомніўся зруйнаваны, але ўсё ж цудоўны Кёнігсберг, у якім праз многа гадоў, падчас калінінградскіх гастроляў нашага тэатра оперы і балета, гучала і мая музыка...

Я шчаслівы, што ў дні перамогі — так, для мяне гэта не адзін, а некалькі майскіх дзён! — апынуўся на самым фронце, сярод салдат-вызваліцеляў. Магчыма, тыя веснавыя ўражанні дапамаглі мне справіцца з трагічнымі перажываннямі ваенных гадоў, з аптымізмам уключыцца ў мірную працу, ніколі не забывацца пра вялікую каштоўнасць чалавечага жыцця і расказваць пра ўсё гэта ў сваёй музыцы...

Аляксей РУСЕЦКІ

# З ВАЙНЫ — НА ВАЙНУ

Палявая пошта 70670 — вайсковая часць: крытая машына з адным акном. У гэтай часці чатыры афіцэры, два салдаты ды Барон Курляндскі — шчанюк-аўчарка, якога мы ўзялі з сабой на нейкім хутары; скрынкі, прабіркі, марскія свінкі ды мікраскоп... Цяпер мы ў 10-й арміі за Рыгай, каля Тукумса, дзе яна, як сказаў Сталін "доколачивает" групу нямецкіх войскаў на паўвостраве, прыпертых да мора. Мы месцімся на апусцелым хутары. Па начах дзяжурым па чарзе на падворку з аўтаматам. Уночы на тылы арміі нападаюць латышскія "лясныя салдаты" "айсаргі".

І вось, мяне штурхаюць, будзяць на досвітку:

— Таварыш начальнік, са штаба — веставы, навокал страляніна...

Выскакваем на падворак. Наўкола ў небе — імклівыя ніткі трасіруючых куляў, агністыя стужкі ракетаў. Неба густа пераплецена імі над перадавой. Гул і трэск... Перамога!.. Капітуляцыя!.. Мы таксама далі залп, крычалі, і нават нешта нецэнзурнае, абдымаліся...

Паслаў машыну ў "ваенторг". Ад'ехала метраў сто, спынілася. Падбег пабляднелы шафёр: "паляцела" нешта ў каробцы перадачы хуткасці. Колькі дарогаў франтавых прабегла, а тут...

Бедавалі нядоўга. У скрыні лабараторыі было чым падвесяліцца. Прыйшлі з суседняга хутара латыш з маладой жонкай і жанчынай-ленінградкай. Прынеслі падмацаванне. Потым спявалі даўнюю песню "Вячэрні звон", гаманілі, успаміналі франтавых сяброў, свае бядоты, думалі, як яно ўсё цяпер будзе.

А праз дзень мы ўжо працавалі сярод капітулянтаў-палонных. Людзі, коні, машыны... Нас цікавілі коні. Важна было не прапусціць інфекцыю...

У сярэдзіне чэрвеня атрымалі "сухі паёк" на сорак дзён і, па загаду, прыехалі на станцыю Рэзекне. 22 чэрвеня платформу з нашай машынай прычапілі да вайсковага эшалона, што ішоў з-пад Кёнігсберга. Аказалася, едзем з часцямі 39-й арміі, у якой у 1944 годзе я быў пад Віцебскам. Едзем расфарміроўвацца? Едзем суткі, другія, трэція — ужо за Уралам. І чуецца п'янаватая песня: "Эх, пропадай-д моя телега — все четыре колеса..."

Кожная станцыя забіта эшалонамі, не хапае паравозаў, стаім 5-6 сутак. Паміж вагонамі — жанчыны, дзяўчаты з кошыкамі бутэлек. І ляцяць з адчыненых дзвярэй вагонаў "трафеі", узятыя на апусцелых хутарах Усходняй Прусіі. Ад Урала і да Чыты, Манголіі — жанчыны адзеліся ў шыкоўныя сукенкі, плашчы, абулі вабныя чаравікі...

А нам далей — Манголія, горы Хінган. За ім, у Кітаі, быў невялікі японскі заслон, казалі — адна кавалерыйская дывізія, а на іншых франтах ішлі працяглыя баі. Ехалі ў эшалонах да самага Порт-Артура, усюды абапал дарогі стаялі кітайцы, крычалі, узняўшы вялікі палец над галавой: "Шан-го!" (добра, цудоўна!).

У Порт-Артуры давялося шмат і доўга працаваць. Мабыць, і таму, што пад Харбінам у японцаў была біяфабрыка, у якой рыхтавалася бактэрыялагічная зброя, пад апекай генерала Ісіі. Японцы скідвалі ў асобных мясцінах на Кітай бактэрыялагічныя бомбы. У Хабараўску ў 1950 годзе быў суд над палоннымі, гэтымі злачынцамі.

Вярнуўся ў Мінск у ліпені 1947 года. Са смуткам цяпер часам чытаю паведамленні, што ў некаторых дзяржавах вырабляецца біялагічная зброя ды іншая халера, апрача той, што выбухнула ў Хірасіме.

А мы думалі, што тая вайна была апошняй і чалавецтва адумаецца...

# НЕЛЬГА ЖЫЦЬ БЕЗ ПАМЯЦІ

Было гэта, калі не памыляюся, недзе ў годзе 1968-м. Адным днём прыходжу на службу (я тады працаваў адказным сакратаром рэдакцыі "Сельской газеты"), і толькі сеў у крэсла — званок. З ЦК партыі. Знаёмы голас інструктара па друку: "Тэрмінова прыязджай!". Еду. Чакаюць, аказваецца, трое. Акрамя інструктара, таксама знаёмы мне рэдактар выдавецтва "Беларусь" і чалавек, якога бачу ўпершыню. З ім мяне і знаёмяць — Стэфан Іванавіч Касьянаў, з Гомеля. Інструктар ЦК сціслы:

— Да цябе просьба, лічы — даручэнне ЦК. Трэба памагчы зрабіць кнігу.

Выдавецкі рэдактар крыху збянтэжаны:

— Разумееш, пазванілі ад першага. У гэтым годзе загадалі выдаць. Абавязкова. Ну, часу ў абрэз. Вось і я назваў цябе. Не падвядзі.

І дае мне рукапіс. Уга, такія тоўстыя мне яшчэ правіць не даводзілася. Што ж, надрукавана акуратна. Добра, паспрабую.

Едзем утрох у рэдакцыю, у "Сельскую газету". Тут жа заключаюць са мной дамову — каб не перадумаў. Касьянаў моцна паціскае на развітанне руку, загадзя дзякуе.

Гартаю. Так, машыністка пастаралася, надрукавала добра, а вось аўтары... І чаму іх шасцёра? Тэкст агульны, дакументальная аповесць, але не ад першай асобы. Няма звычайных для гэтага жанру ні "я", ні "мы". Як быццам усе староннія пісалі, не ўдзельнікі падзей. Праўда, іх прозвішчы сустракаюцца. Што ж, няхай будзе так. Але чым далей чытаю, тым больш пераконваюся, што фактура багатая, цікавая, толькі вось праўкай па тэксце не абысціся. Але куды цяпер дзенешся? Дамову ж падпісаў. Сеў за машынку, рукапіс — побач паклаў і два месяцы па вечарах і ў выхадныя стукаю, крэмзаю, зноў стукаю.

Нарэшце званю ў Гомель — еду.

Сустракаемся на кватэры ў аднаго з аўтараў. Яўгена Іванавіча Рамбаева. Прыйшлі і астатнія аўтары: Антонаў, Балхавіцін, Несцяровіч, Палянічка. Як нарадзілася ідэя напісаць такую кнігу? Аказваецца, на адной са сваіх пасляваенных сустрэч былыя партызаны гомельскага гарадскога атрада "Бальшавік" дамовіліся, што трэба расказаць пра баявое мінулае народных мсціўцаў. Упісаць, так бы мовіць, свой радок у летапіс Вялікай Айчыннай. І назвалі шэсць чалавек у якасці аўтараў будучай кнігі, а старэйшым — Рамбаева, ён і па ўзросце самы пажылы, ужо пад семдзесят. Астатнія няхай памагаюць збіраць матэрыял. Гады тры працавалі ў абласным архіве, пісалі пісьмы ў розныя гарады і весі таварышам па атрадзе, збіраліся, спрачаліся, а Рамбаеў пісаў, перапісваў, даваў на перадрук. І вось рукапіс гатовы, але як яго выдаць? Не выдаюць у Гомелі такія кнігі. Пачалі стукацца ў ЦК. Раз, другі, трэці. І вось з'явілася надзея...

Дастаю абодва рукапісы — першы, тоўсты, і тое, што падрыхтаваў. Як убачылі яго, патанелы ўдвая, ва ўсіх выцягнуліся твары:

— Як, і гэта ўсё?

— Мы столькі працавалі...

— Зарэзаў ты нас, халтура атрымліваецца...

Разумею іх — аддалі шмат сіл, часу, стараліся "ахаліць" як мага больш, расказаць больш падрабязна, але знаходзіцца нейкі мінскі пісака, які... Спрабую растлумачыць, што выкінуў усё непатрэбнае, лішняе, трэцяступеннае, паўторы, але і ўпісаў сёе-тое — абагульненні, да месца пра тое, што адбывалася на фронце, нават пра мясцовасць, пра надвор'е. Салідная, кажу, можа атрымацца кніга, на дзесяць друкаваных аркушаў, не менш. Плюс фотаздымкі, уступны артыкул. Але што ім гэта ўсё? Не апраўдаў іх спадзяванняў і ўсё. Зноў шум. Што ж, кажу, шукайце тады другога літаратурнага апрацоўшчыка, жадаю ўдачы. Але тут Рамбаеў, гаспадар кватэры і галоўны аўтар, спыняе мяне:

— Не спяшайся, і вы не шуміце, не партызанская сходка. Падумаць трэба, як нам быць далей. Што яшчэ скажаш, рэдактар?

Вось, кажу ім, тры мае ўмовы. Прымеце іх — кніга можа хутка з'явіцца. Не прымеце — як хочаце...

Засмяяліся:

— Шэсць умоў таварыша Сталіна і тры ўмовы таварыша Шыбаліса.

— Так, на тры ўмовы да Сталіна не дацягнуў. А ўмовы такія. Першае — я не халтуршчык. Ёсць шматгадовы вопыт журналіста, рэдактара. Другая — ведаю, з якога канца вінтоўка страляе, у мінулым — ваенны журналіст, прайшоў усю вайну. Вы ж дапускаеце бязглуздзіцу ў апісанні баявых дзеянняў. І трэцяя ўмова: вас многа, я адзін, перакрычаць мяне лёгка. Сярод вас ёсць старэйшыя за мяне па званні? Я — падпалкоўнік. Значыць, не. Дык вось, камандаваць парадам буду я. Выслухаўшы вас, прымаю канчатковае рашэнне. Згодны?

Што я падпалкоўнік і збіраюся камандаваць парадам, гэта ім, бачу, спадабалася. Зноў умяшаўся Рамбаеў, які прапанаваў кінуць балбатаць і прачытаць падрыхтаваны мною рукапіс. І мы чыталі, з перапынкамі, два дні. Па ходу чытання настрой у аўтараў стаў змяняцца, водгаласы былі ўжо амаль сяброўскія, заўвагі — асцярожныя. Калі перагарнулі апошнюю старонку, мне сказалі:

— Ты быў з намі ў адным атрадзе!




*Хлеб фронту*

*Фота з архіва БЕЛІНФАРМ*

Так у 1968 годзе (а праз пару гадоў другім выданнем) з'явілася "Партизанская криничка" — дакументальная аповесць, названая так па лясным ключы ў наваколлі Гомеля, каля якога ў жнівеньскія дні 1941 года (і ў пасляваенныя гады таксама) збіраліся будучыя партызаны гарадскога атрада.

Па ходу чытання перад усімі намі як бы ўваскрашалася карціна цяжкіх трох гадоў барацьбы ў тыле ворага. Антыфашысцкае падполле ў Гомелі, яго героі і ахвяры. Баі і паходы партызан, разгром варожых гарнізонаў. "Рэйкавая вайна" і яе адважныя ўдзельнікі. Дружба і таварыскасць, вытрымка і самаахвяраванне дзеля выратавання ад карнікаў мірнага насельніцтва...

Аповесць сапраўды дакументальная, напісаная жывымі сведкамі і ўдзельнікамі тых падзей. Самі ж яны, гэтыя сведкі і ўдзельнікі, аўтары кнігі, пра сябе апавядаюць сцісла, мімаходзь, клапоцячыся толькі пра тое, каб больш і ярчэй было сказана аб іх партызанскіх пабрацімах.

Але здаралася і штосьці, так бы мовіць, адваротнае. Звярнуўся да мяне адзін былы буйны партыйны, а ў вайну і партызанскі начальнік — "дапамажы давесці рукапіс да кандыцыі". Гэта азначала, вядома, усю яе перапісаць. Ну, аднекваюся — маўляў, няма калі, загружаны. Праз некаторы час ён з той жа просьбай. Кажу яму, што пішу ўласную кнігу, таксама пра вайну, запіскі франтавога журналіста. (Не хлусіў, сапраўды пісаў і хутка гэтая кніга выйшла — "Такія нам выпалі гады".) Але не ў занятасці маёй была прычына. Не хацелася падключацца да гэтага аўтара таму, што прабыў ён у тыле ворага вельмі нядоўга, а вось кнігу задумаў салідную, да таго ж не падабалася мне яго пазіцыя ў адносінах да мінскага антыфашысцкага падполля. Увогуле, не ляжала душа. Былі яшчэ два-тры такія настойлівыя прасіцелі, якім даводзілася адмаўляць. І не столькі з-за недахопу часу, колькі з-за непрыхільнасці да дзеячаў, якія рвуцца ў вядомасць.

А вось зусім іншае. Будучы адзін час рэферэнтам у І. Я. Палякова, які ўзначальваў тады Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі, разгаварыліся неяк аб партызанскім руху. Успамінаў Іван Яўцеевіч, як здабываў на армейскіх складах у Падмаскоўі зброю і перапраўляў яе ў партызанскія атрады на Віцебшчыну, як сам на лыжах ці пешкі прабіраўся туды ж праз знакамітыя "Суражскія вароты", наладжваў сувязь з падпольнымі камсамольскімі групамі. У снежні сорак другога атрымаў распараджэнне Беларускага штаба партызанскага руху вылецець у бранскія лясы і перабазіраваць адтуль назад, на сваю зямлю тры атрады — Чачэрскі, Кармянскі і Свяцілавіцкі. Іван Яўцеевіч паказаў некалькі захаваных, моцна пажоўклых аркушаў сшытка з паспешнымі запісамі. Чытаю ў адным з іх: "16. 12. 42. Сеў у самалёт "зайцам". Шчасліва прыбыў на месца". Але чаму "зайцам"? І ўсё?

Расказваў Палякоў вельмі жывапісна. Аказваецца, самалёт павінен быў даставіць па той бок фронту, на Браншчыну, групу ўкраінскіх партызан, але палкоўнік, які адказваў за яго адпраўку, беларуса без прадпісання свайго, украінскага начальства не пускаў. Нельга і ўсё тут, няма месц! Усё ж Палякоў падмануў палкоўніка, забраўся ў "Дуглас", дзе яго схавалі ўкраінскія хлопцы. Прыляцелі ў бранскі лес, дзе знаходзілася Чарнігаўскае партызанскае злучэнне, камандзір якога, выслухаўшы Палякова, сказаў:

— Паспрабуеш вывесці адсюль беларускія атрады — расстраляю. Яны нам тут патрэбны.

Палякоў і яго абхітрыў. З двума атрадамі — Чачэрскім і Кармянскім — тайком дамовіўся, выбралі адпаведны момант і прабіліся праз варожую блакаду да сябе, на Гомельшчыну. Ну а далей ужо цэлая эпапея партызанскіх падзей. У канцы свайго аповяда Іван Яўцеевіч заўсміхаўся:

— Пасля вайны на партыйным з'ездзе ў Маскве знаёмяць мяне з тым самым чарнігаўскім партызанскім камандзірам, цяпер ужо сакратаром абкома партыі. Вядома, пазнаў ён мяне, але выгляду не падаў. Думаю, успомніў, як пагражаў мяне расстраляць...

Кажу Палякову, што гэта ўсё вельмі цікава, ды і падзей колькі было ў Чачэрскім атрадзе — трэба кнігу пісаць! Але Іван Яўцеевіч адмахнуўся:

— Не, у аўтары нават адной кнігі не падыходжу. Іншыя няхай у пісьменнікі рвуцца. Ёсць такія...

Вось так.

Кніг пра Вялікую Айчынную, у тым ліку мемуарных, дакументальных, цяпер вялікая бібліятэка. Іх аўтарамі пазначаны маршалы і салдаты, франтавікі і партызаны, падпольшчыкі і разведчыкі. Кнігі розныя — па літаратурным узроўні, цікавасці, па адборы важнага і другаснага. Па праўдзівасці і аб'ектыўнасці — таксама. Але далёка не ў кожнай знойдзеш адзнаку, ці сапраўды чалавек, што пазначаны на вокладцы, яе напісаў, ці гэта чыйсьці літаратурны запіс, літапрацоўка.

Многія маршалы пісалі свае мемуары як быццам самі. Праўда, пералічваюць і дзякуюць многім, хто ім памагаў. А вось хто зрабіў літаратурны запіс — невядома. Тут агаваруся, што вось славуты А. І. Пакрышкін, самы адважны лётчык, і танкавы маршал М. Е. Катукоў (з ім мне давялося сустрэцца на фронце, ён пакінуў вельмі добрае ўражанне сваім спакоем і нават, я б сказаў, сціпласцю, хоць быў ужо вядомы) былі пазбаўлены аўтарскіх амбіцый і назвалі тых, каму належыць літаратурны запіс іх успамінаў. А самы галоўны пасляваенны шматзоркавы маршал (былыя франтавікі, бывала, жартавалі: "Яго трэба было б узвесці ў поўныя кавалеры ордэна Славы") з'явіўся аўтарам і на самай справе цудоўных мемуараў, сам зачытваўся імі. Але ўсе добра разумелі, што пісаў іх чалавек з таленавітым пяром, які так і застаўся для шырокага чытача невядомым.

Расказалі мне гісторыю пра аднаго высокапастаўленага вайскоўца, які стаў пасля вайны найактыўным творцам усемагчымых публікацый у газетах і часопісах. Але знайшоўся яшчэ больш высокі над ім начальнік і загадаў гэтаму "аўтару" скласці ведамасць на "неграў", якія за яго пісалі, вярнуць ім атрыманыя ганарары і прадставіць гэтую ведамасць з іх подпісамі. Месяцы два бегаў ад'ютант таго аматара сузіраць сваё імя ў розных выданнях па рэдакцыях і выдавецтвах, вышукваючы "літрабоў", каб уручыць зробленыя імі ганарары.

Па вялікім рахунку, справа, вядома, не ў ганарарах ці не столькі ў ганарарах, колькі ў маралі, этыцы, у сумленні або несумленнасці людзей, якія жадаюць бачыць свае імёны на вокладках кніг, але не ўмеюць звязаць на паперы двух слоў. Ёсць што расказаць, але не даў Бог такіх здольнасцей — кліч умелых і скажы людзям, хто яны.

Чытаю пачатак адной кнігі: "Война у каждого пережившего ее оставила глубокий, неизгладимый след. События ее беспокоят каждодневно, бывает, не дают спать по ночам, тревожат неостывшие раны сердца". Сказана проста, але, адчуваецца, напісаў гэтыя словы чалавек, які валодае пяром. Так яно і ёсць. Імі адкрываецца кніга У. Лабанка "Партизаны принимают бой" і адразу ж кідка паведамляецца: літаратурны запіс М. Тараткевіча. Ведаю яго, вучонага, журналіста, некалі працавалі ў адным часопісе і магу меркаваць пра яго стаўленне да праўды факта, уменне асэнсоўваць падзею, пачуццё слова. Міхаіл Васільевіч лёгка арыентаваўся ў расказах Лабанка, вялікім архіўным матэрыяле, ведаў, чаго чакаюць ад кнігі і былыя партызаны, і чытачы, якія не ведалі партызанскую барацьбу і ўвогуле вайну. Разумеў і тое, за якія рамкі яму, літаратурнаму памочніку аўтара, выходзіць нельга.

Атрымаўся грунтоўны, дакументальны, цікавы аповяд пра жыццё і баявыя дзеянні партызан Полацка-Лепельскай зоны на Віцебшчыне. Не забыты многія камандзіры і радавыя партызаны, іх подзвігі, перамогі і страты, іх побыт, нават песні. Нямала сказана пра мірных жыхароў, перажытыя імі пакуты. І трэба аддаць належнае аўтару, чалавеку, не пазбаўленаму асабістай адвагі і мужнасці, які атрымаў званне Героя Савецкага Саюза: яго роля ніяк у кнізе не выстаўлялася.

Адну, на мой погляд, істотную заўвагу па гэтай кнізе я ўсё ж выказаў аўтару. Чаму трэба было сабраць столькі партызанскіх атрадаў у адну зону, у Прыдзвінне, даць магчымасць праціўніку замкнуць вакол іх шчыльнае кальцо, каб потым — так, гераічна! — з гэтага кальца вырывацца? Бо ў адрозненне ад войск на фронце партызанскія дзеянні насілі зусім іншы, не пазіцыйны характар, праціўнік не павінен быў ведаць, адкуль чакаць нападзення. А тут збіліся ледзь не ў адну кучу, гітлераўцы зрабілі блакаду, з якой партызанам з вялікімі стратамі давялося прарывацца.

Я разумеў, вядома, што гэтая заўвага непрыемная аўтару, чакаў нават рэзкай водпаведзі — як гэта, самая яркая старонка ў летапісе партызанскага руху беларускага народа, вось і кінафільм ёй прысвечаны, і мемарыял "Прарыў" устаноўлены, а тут знаходзіцца нейкі крытык... Але Уладзімір Елісеевіч, здзіўлена зірнуўшы на мяне, пасля мінутнага роздуму сказаў:

— Вы першы чалавек, ад якога такое чую. Але тады мелася на ўвазе, што мы створым плацдарм, на яго высадзіцца авіяцыйны корпус, разам штурмам авалодаем Полацкам, а потым і Віцебскам. План гэты распрацаваў Беларускі штаб партызанскага руху сумесна з камандаваннем Першага Прыбалтыйскага фронту. У снежні гэта было сорак трэцяга. Атрымалася так, што план адмянілі. Каб захаваць нашы атрады, давялося ісці на прарыў.

Тады, кажу, у кнізе трэба было проста сказаць пра гэта, а не абмяжоўвацца кароткай зноскай нонпарэллю. Лабанок згадзіўся, але падкрэсліў, што гэта была ўсё ж адна са старонак партызанскай барацьбы, і пра яе хацелася расказаць.

*(Працяг на стар. 15)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# КАЛЯНДАР МАЯ

**1 мая споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння паэта, перакладчыка, этнографа УЛАДЗІСЛАВА ПАЎЛЮКОЎСКАГА (1895—1955). Вучыўся ў Харкаўскім мастацкім вучылішчы, удзельнік грамадзянскай вайны. З сярэдзіны 1920-х гадоў жыў у Вільні. Прымаў удзел у выпуску календароў, падручнікаў, часопісаў як кніжны графік. Супрацоўнічаў у газеце "Народная справа", часопісах "Маланка", "Авадзень". Друкаваў вершы пра цяжкае сялянскае жыццё. Перакладаў апавяданні Л. Талстога. У часопісе "Шлях моладзі" змясціў шэраг этнаграфічных эцюдаў, прысвечаных земляробчаму календару. Арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1940 годзе выступіў з успамінамі "Арышт, Бяроза і воля".**

**6 мая — 90 гадоў з дня нараджэння паэта, перакладчыка ЮРКІ ГАЎРУКА (1905—1979). У 1925 годзе скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Брусава ў Маскве. Быў дацэнтам кафедры беларускай мовы і літаратуры ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, чытаў курс замежнай літаратуры і літаратур народаў СССР у Магілёўскім педінстытуце. 8 лютага 1935 года быў рэпрэсіраваны, асуджаны на высылку з Беларусі. Рэабілітаваны ў 1956 годзе. У 1957—1967 гг. — памочнік галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы тэатра імя Я. Купалы.**

**Перакладаў з французскай, англійскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай моў. Аўтар першай на Беларусі кніжкі паэтычных перакладаў "Кветкі з чужых палёў" (1928). Выдаў зборнік краязнаўчых апавяданняў "Вясковыя рыскі" (1926). У 1969 годзе выйшаў зборнік арыгінальных вершаў і перакладаў "Іскры з крэменя", у 1975-ым — зборнік выбраных перакладаў паэзіі "Агні ў прасторах". Артыкулы па тэорыі і практыцы мастацкага перакладу, эсэ ўвайшлі ў кнігу "Ступень адказнасці" (1986). У перакладах Ю. Гаўрука ў беларускіх тэатрах ставіліся п'есы Ф. Дастаеўскага, А. Астроўскага, Л. Талстога, Б. Нушыча, А. Чэхава, В. Гюго і іншых пісьменнікаў.**

**8 мая — 155 гадоў з дня нараджэння рускага археолага, этнографа, фалькларыста і гісторыка ПЯТРА ГІЛЬТЭБРАНТА (1840—1905). Першым апублікаваў Тураўскае евангелле, знайшоў у нясвіжскім архіве Радзівілаў урывак Слуцкага летапісу XVI ст.**

**13 мая — 155 гадоў з дня нараджэння ЦІТУСА ДАЛЕЎСКАГА (1840—1864). Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Маскве і Пецярбурзе, дзе вучыўся ва універсітэтах. З лета 1863 года найбліжэйшы памочнік Кастуся Каліноўскага па кіраўніцтве паўстаннем. Расстраляны ў Вільні.**

**15 мая — 80 гадоў з дня нараджэння ДЗМІТРЫЯ ПАЛІТЫКІ (1915—1965). Дэбютаваў вершамі. З 1946 года пачаў выступаць як крытык. Аўтар кніг — "Янка Купала — перакладчык" (1959, дапоўненае выданне ў 1986 годзе), "Сляды часу" (1967), брашуры "Беларуская пасляваенная проза" (1958)...**

**22 мая — 60 гадоў з дня нараджэння ЛЕАНІДА ГАЎРЫЛКІНА (1935—1989). Першыя апавяданні надрукаваў у 1959 годзе. Аўтар кніг "Рукі не здрадзяць" (1963), "Прашу звольніць мяне" (1965), "Пакінутая на досвітку" (1970) і іншых, раманаў "Не магу без цябе" (1975), "Зямля дзяцей нашых" (1980), "Матчына хата" (1983), "Застаюся з табой" (1986), шэрагу зборнікаў сатыры і гумару. Працаваў і ў галіне драматургіі. Аўтар кінасцэнарыя дакументальнага фільма пра П. Броўку "Маўчаць ніколі я не буду" (1980).**

# У МІНСКАЙ ГАЛЕРЭІ "ВЕРХНІ ГОРАД"



**Выстава віцебскіх майстроў жывапісу Алега Скавародкі і Валерыя Лябедкі адкрылася ў мінскай галерэі "Верхні горад". Доктар мастацтвазнаўства Валерый Лябедка, гаворачы пра сваю творчасць, сказаў, што "гэта толькі сціплая спроба аўтара асэнсаваць прастору і сілу святла". У сталічных галерэях В. Лябедка выстаўляецца ўпершыню.**

**Затое з работамі Алега Скавародкі прыхільнікі жывапісу ўжо знаёмы даўно. Яго выставы праходзілі не толькі ў Беларусі, а і ў Расіі, Польшчы, Літве, Францыі.**

*На здымку: мастакі Валерый Лябедка і Алег Скавародка ў час адкрыцця выставы.*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

1945-1995

Васіль ШАРАНГОВІЧ

# З ПАМЯЦІ ДЗЯЦІНСТВА



Нарадзіўся я ў маленькай вёсачцы на Мядзельшчыне. З дзяцінства вельмі востра ўспрымаў і тыя радасці, і тыя беды, што выпалі на долю маіх сваякоў. Я абсалютна ўпэўнены, што дзіцячыя ўражанні самыя глыбокія, што перажытае ў маленстве застаецца ў памяці назаўжды. У думках мы вельмі часта вяртаемся ў дзяцінства.



*Партызанскі каваль (памяці бацькі). З серыі "Памяці вогненных вёсак").*

Маё дзяцінства звязана з вайною. Край наш быў партызанскі. Нашу вёсачку нейкім цудам абышла блакада, хаця вакол амаль усё было спалена, а людзі загінулі, іншыя пагнаны ў Германію. Памятаю, ехалі мы з маці да родзічаў, што хаваліся ў лесе, дык усе 16 кіламетраў — адны пячныя коміны, абгарэлыя дрэвы, жывёла...

Гэтыя жахлівыя ўспаміны дзяцінства ўвесь час не давалі мне спакою. Мне як мастаку хацелася аддаць даніну пакутам народа, сказаць свае слова ў мемарыяле памяці народнай. Да тэмы вайны, блакады я звярнуўся ў 1974г., калі паспрабаваў зрабіць серыю літаграфій пад назвай "Блакада. 1943 год". Серыя мяне не задаволіла. Я не здолеў знайсці ні адпаведнага сюжэтна-тэматычнага падыходу, ні вобразнага ладу. Да тэмы блакады я вырашыў вярнуцца пазней.

Яшчэ раней я прачытаў кнігу А. Адамовіча, Я. Брыля, У. Калесніка "Я з вогненнай вёскі", якая ўсхвалявала мяне, нягледзячы на поўную дакументальнасць, "нерэальнасцю" падзей — нібыта з кашмарнага сну. Страшна падумаць, што я і мае браты таксама маглі аказацца на месцы тых няшчасных дзяцей.

Пасля работы над ілюстрацыямі да кнігі А. Бялевіча "Памяць сэрца" я ўжо не мог пакінуць гэту тэму і распачаў працу над серыяй станкавых лістоў. Выбар назвы — "Памяці вогненных вёсак" — невыпадковы. Я не лічыў магчымым і патрэбным пераказваць, "дакументалізаваць" падзеі, я імкнуўся стварыць цэльны вобраз болю і пакут нашага народа, выклікаць пратэст супраць насілля і бесчалавечнасці фашызму, праявы якога існуюць у свеце і сёння.

Таму складанейшымі за ўсё сталі пошукі кампазіцыйнага рашэння, бо для стварэння абагульненага характару неабходна выключыць усё выпадковае, другаснае.

У серыі няма сцэн расстрэлу, асобных праяў лютасці. Мяне больш цікавіла адлюстраванне філасофскай катэгорыі, чым выяўленчы рэпартаж. Хатынь, мішэнь, спаленыя вёскі — гэта маё дзяцінства і маё папярэджанне на будучае.

Міхась СОЛАПАЎ

# ДРУГІ ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ



9 мая 1945 года лічу другім днём свайго нараджэння. І гэта не проста ўзнёслыя словы... Мне добра помняцца падзеі, што адбыліся за тыдзень да таго пераможнага дня. Наш 57-мы асобны танкавы полк, дзе я служыў камандзірам узвода разведкі, рыхтаваўся да ўзяцця Берліна. Ішлі на ўз'яднанне з саюзнымі войскамі, і раніцай 2 мая мне давялося выканаць загад па разведцы абстаноўкі на шашы блізка мястэчка Ратэнау. Гэта 18 км ад Эльбы. На дарозе было спакойна, немцаў — не відаць і не чуваць... Рушылі наперад — і раптам за паваротам нас сустрэў страшэнны мінамётны агонь! Відавочна, немцы, зразумеўшы, што ўранні па шашы праехаў разведчык, сцішыліся ў чаканні асноўных сіл і тады пачалі ўжо страляць. Перавага была на нашым баку, аднак першыя ж варожыя стрэлы аказаліся для мяне фатальнымі: мяне параніла асколкам снарада. Трапіў у шпіталь. Сама рана была, здаецца, не такой і страшнай, але асколак, якім "зачапіла" калена, аказаўся ржавым, на назе пачалася гангрэна. Падскочыла тэмпература, і калі яна дасягнула крытычнай рыскі, гэта было раўназначна смяротнаму прысуду, хаця дактары яшчэ "па інерцыі" рабілі мне нейкія ўколы. Я ўжо знепрытомнеў. І менавіта ўранні 9 мая, калі раптам адступіла гарачка і крыху прасвятлела свядомасць, хлопцы вынеслі мяне на насілках на вуліцу. Перад вачамі застракацела нешта чырвонае, і раптам я зразумеў, што гэта — не трызненне: у вокнах, на дахах — паўсюль былі чырвоныя — нават не сцягі, а проста кавалкі тканіны. Шумна рухаліся людзі. Пачуў крыкі: "Перамога!" Ніколі не забудуся, як зусім непадалёк прайшоў мажны салдат, на хаду адрываючы ад рукава кашулі палоску тканіны: гэтак жа, на хаду, ён пырнуў штыхом-кінжалам уласную руку, правёў па ёй палатняным матузком і прычапіў гэты афарбаваны крывёю "сцяжок" на штых вінтоўкі... Не ведаю, што было б, калі б не вынеслі мяне хлопцы "на свет белы". А тут — пакрысе ачуняў: к вечару знізілася тэмпература, хірург сказаў: "Ну, танкіст, будзеш жыць!" Арганізм перамог невылечную гангрэну. Праўда, у шпіталі давялося затрымацца надоўга, і парад Перамогі ў Маскве, на які я мусіў і хацеў трапіць, адбыўся, на вялікі жаль, без майго ўдзелу. У чэрвені я змог, праўда, наведацца да рэйхстага, да якога не дайшоў у тыя штурмавыя дні зусім нямнога... Аднак да 9 мая з усёй паўнатой пачуццяў адзначаю як асабліва знамянальны дзень — дзень Перамогі, дзень свайго другога нараджэння...

Іосіф ВЕЙНЯРОВІЧ

# ПА ВАЙНЕ З КІНААПАРАТАМ



У тую ноч з 8 на 9 мая я доўга не мог заснуць. Моцна балела яшчэ незагоеная рана на галаве, звінела ў вушах. Рану атрымаў у самы разгар здымак фільма "У родную сям'ю" — пра сялян-беларусаў Беластоцкай гміны ў Польшчы, якія добраахвотна накіроўваліся ў вызваленую Беларусь, каб памагчы адрадзіць яе раёны, ператвораныя фашысцкімі акупантамі ў зону пустыні.

Ужо заставалася каля 100 кіламетраў да Мінска, калі на чарговым прыпынку ля ўваходу ў нашу цяплушку з'явіліся ўсхваляваныя сяляне.

— Таварыш начальнік!.. Памажыце! Нас рабуюць! — задыхаючыся ад хвалявання, наперабой прасілі яны.

Я выскачыў на платформу. Там нейкія мужчыны спрабавалі ўзламаць на вагоне велізарны замок. У тым вагоне была жывёла сялян-добраахвотнікаў. Адзін з грабежнікаў ударыў мяне ломам па патыліцы. Заліваючыся крывёй, я без прытомнасці ўпаў пад колы спыненага эшалона.

...Апрытомнеў я ў Лечсанупраўленні, куды мяне даставілі на машыне, у час агляду хірурга, прафесара Корчыца.

— Вы, бацэнька, шчаслівы чалавек... — усміхнуўся ён мне, агледзеўшы рану на галаве. — Так-так! Не іначай, як у кашулі нарадзіліся. Каб трапіў гэты лом на 2-3 сантыметры ніжэй — ніводны хірург у свеце не ў сілах быў бы памагчы вам.

Яшчэ ішла вайна, нашы войскі набліжаліся да фашысцкага логава. І я, яшчэ хворы, здымаў, толькі не ў Берліне, пра што марыў усю вайну, а тут, у вызваленай ад фашысцкіх захопнікаў роднай Беларусі.

...— Осіп!.. Осіп!.. — пачулася мне скрозь цяжкую дрымоту ад устрывожанай цешчы Анастасіі Фокаўны.

Я знайшоў яе, падчас здымак баёў па знішчэнні групіроўкі фашысцкіх войск пад Мінскам, у групе вязняў канцлагера на Асінаўскіх балотах, калі гітлераўскія каты гналі іх на знішчэнне ў Трасцянец.

— Осіп! Прачніся! Страляюць...

Я падхапіўся, апрануў форму, нацягнуў боты, ускінуў на плечы аўтамат і, засунуўшы ў кішэні дзве "лімонкі", кінуўся ў двор нашага дома.

Перадранішняе неба свяцілася рознакаляровымі ўспышкамі асвятляльных і сігнальных ракет, з усіх бакоў неба несліся трасы кулямётных і аўтаматных чэргаў.

Да мяне кінуліся са слязамі на вачах суседкі па дому і, абдымаючы, паведамілі:

— Іосіф! Міленькі! Гітлераўцы капітулявалі! Па радыё перадавалі...

Да горла падкаціўся камяк, ад радасці я таксама шчыра абняў жанчын, расцалаваўся з імі.

Анастасію Фокаўну я папрасіў зварыць боршч з маёй сухою кілбасою. З ёй звязана цэлая гісторыя.

Кавалак паляўнічай кілбаскі мне выдалі ў "НЗ", калі ў пачатку 42-га закідвалі ў тыл ворага да партызан на парашуце. У жорсткіх блакадных баях з карнікамі дзяліўся "НЗ" з пабрацімамі, і толькі гэтую кілбаску захоўваў на крайні выпадак, калі суджана будзе вяртацца жывым дадому. Я зноў і зноў браў яе з сабой — і ў Бранскія лясы, і на Украіну, і на Беларусь. Яна стала для мяне нечым накшталт талісмана. І я даў сабе слова з'есці яе, толькі калі настане дзень нашай Перамогі.

Такой усенароднай радасці, як у гэты дзень, я раней не бачыў і не здымаў. Грымелі салюты, незнаёмыя сустрэчныя людзі абдымалі і віншавалі адзін аднаго, цалаваліся, як на Вялікдзень. Сустрэчных салдат і афіцэраў на руках падкідалі ў паветра, цалавалі і частавалі.

Дадому я вярнуўся на змярканні, скарыстаўшы ўвесь узяты з сабой запас плёнкі. На стале ўжо чакалі тушаная бульба і боршч. Ад іх патыхала забытам, святочным водарам. Аднекуль са сваіх схованў цешча дастала нават запаветную чацвярцінку з мутным першаком...

Успомніліся франтавыя сябры, якія загінулі на полі бою, маці, жонка і родныя, па-зверску забітыя фашыстамі...

А за вакном грымелі стрэлы. Стрэлы, што абвяшчалі канец крывавай вайне, надыход мірнага часу. Як аказалася, такога няпростага.

# НЕЛЬГА ЖЫЦЬ БЕЗ ПАМЯЦІ

*(Пачатак на стар. 13)*

Не магу не ўспомніць у сувязі з гэтым яшчэ аднаго аўтара — былога партызана. Аднойчы тэлефануюць з аднаго маскоўскага выдавецтва: рыхтуецца зборнік нарысаў пра настаўнікаў — герояў Вялікай Айчыннай, напішы пра мінчаніна Парахневіча. Хто такі? Упершыню чую гэта прозвішча. Тлумачаць, што ён Герой Савецкага Саюза, былы партызан, цяпер дырэктар адной з школ рабочай моладзі.

Іду на плошчу Перамогі, знаходжу патрэбны мне дом. У дварах сутыкаюся з адным старым знаёмым, пытаюся, у якім пад'ездзе кватэра Парахневіча. Разводзіць рукамі — дваццаць гадоў тут жыве, а пра такога не чуў. Як жа гэта, дзіўлюся, Герой Савецкага Саюза, заслужаны настаўнік, у Маскве пра яго ведаюць, а ты...

Расказваю пра гэты эпізод Парахневічу. Той паціскае плячамі: маўляў, што тут дзіўнага? Ён таксама даўнавата тут жыве, але ведае далёка не ўсіх суседзяў.

Па стэрэатыпным уяўленні, чакаў убачыць гэтакага мажнага пасівелага ветэрана са шматпалоснай ордэнскай планкай на штрыфелі пінжака, ды яшчэ з залатой зоркай. А як жа, узарваў дваццаць адзін варожы эшалон, пагроза акупантаў! А сядзеў перада мной чалавек у просценькай сарочцы, хударлявы, нават някідкі, сарамяжліва ўсміхаўся. Але, заўважаю, гаворыць коратка, лаканічна. Хутка да мяне даходзіць: настаўнік матэматыкі, прывык да выразных формул, дакладных тлумачэнняў. Паказвае кніжку — зборнік задач па геаметрыі. Аўтары — ён і жонка, Кацярына Васільеўна, таксама матэматык.

Пераводжу размову на зусім іншую кнігу — "Огненные вихри", аўтар таксама Парахневіч. Дастаю яе са сваёй папкі — набыў у букіністычным магазіне. Уладзімір Аляксеевіч неяк сарамліва тлумачыць, што старыя сябры-партызаны ўгаварылі яго ўзяцца за такую кнігу, даведаліся, што захаваліся ў яго з вайны нейкія запісы. Аднак ці магла з іх нарадзіцца кніга? Памог вопытны літаратар і сардэчны чалавек пісьменнік Уладзімір Жыжэнка.

Так, дзякуючы яму "Огненные вихри" чытаюцца лёгка, нават з захапленнем, даюць яркае ўяўленне пра студэнта апошняга курса фізмата БДУ, хлопца зусім не байцоўскага складу, якому ў атрадзе спачатку даверылі толькі бульбу абіраць ды ў каравуле стаяць, а вось жа стаў адным з самых адважных, вынаходлівых і ўдалых падрыўнікоў на ўсю партызанскую Бабруйшчыну.

Каб напісаць нарыс пра Парахневіча, мне яшчэ патрабавалася пагаварыць з тымі, хто ведаў яго па вайне, па рабоце ў школе, бо сам Уладзімір Аляксеевіч быў вельмі нешматслоўны. Але ўражальнай старонкай у летапіс мінулай вайны ўвайшлі іх, Парахневіча і Жыжэнкі, "Огненные вихри".

Чытач, звяртаючыся да той або іншай кнігі пра вайну, бачыць перш за ўсё імя аўтара, пазначанае на вокладцы, і не заўсёды заўважае спасылку (калі яна ёсць) на літаратурнага апрацоўшчыка. Не ўяўляюць многія, колькі працы ўкладзена менавіта ім у кожную старонку, кожны радок, каб не было сухога выкладання падзей, эпізодаў, дакументаў, каб кніга вабіла сюжэтам, жывымі карцінамі таго, што адбывалася, моваю.

Мне даводзілася назіраць, як мой калега па "Сельской газете" (цяпер "Белорусская нива") Анатоль Коласаў горача штосьці даказвае аўтарам будучай кнігі, якія прыйшлі да яго ў рэдакцыю, двум былым партызанскім камандзірам. Яны хацелі хутчэй яе ўбачыць. А закончыўшы рэдакцыйныя справы, вечарамі стукаў на машынцы нечыя ўспаміны. Неяк зайшоў у рэдакцыю Хрыстафор Прыбыль, у час вайны камандзір аператыўнай групы партызан-разведчыкаў. Коласава не было, і Хрыстафор Сямёнавіч з цеплынёй расказваў, як пры дапамозе Коласава нарадзілася яго кніга "Особое задание".

Сустракаўся, адпачываў разам з Пятром Лебедзевым, будучым аўтарам кнігі "Мы — алексеевцы". Не, не я яму дапамагаў. Але ён з удзячнасцю гаварыў пра выдавецкага рэдактара Барыса Грыншпуна, які ўжо гатовы рукапіс старанна, тонка "даводзіў".

Неяк разгаварыліся мы аб "партызанскай літаратуры" з Генадзем Будаем, калі ён працаваў над рукапісам сваёй кнігі "Свинцом и словом" (яна выйшла двума выданнямі — у 1976 і 1981 гадах). Яму, журналісту саліднаму, непатрэбны быў літаратурны памочнік, але ўсё-такі папрасіў свежым вокам пагартаць яго рукапіс. К таму часу мы ўжо гадоў пятнаццаць былі знаёмыя, як быццам шмат чаго ведалі адзін пра аднаго, але з ягоных кніг паўстаў перада мной у нечым нечаканы чалавек, аказваецца — адзін з кіраўнікоў створанай ім у Дзяржынску падпольнай антыфашысцкай групы. Малады журналіст, сябар і саратнік па падполлі Уладзіміра Амельянюка, ён збірае для партызан зброю, рыхтуе і распаўсюджвае лістоўкі. Пасля таго, як яго групу раскрылі, яго жонка Ніна Кацяшова, таксама журналістка і падпольшчыца, гіне ў фашысцкім засценку ў Мінску, яму ж удаецца адысці ў Налібоцкую пушчу, дзе ён актыўна ўдзельнічае ў фарміраванні партызанскіх атрадаў, у іх баях з карнікамі, паліцаямі, рэдагуе падпольную раённую газету "Народны мсцівец", потым, таксама ў тыле ворага, баранавіцкую абласную "Чырвоную звязду".

Па-рознаму разважаюць сёння пра тую вайну, у тым ліку і партызанскі рух. Аб'яўляюцца аднабокія, крайне суб'ектыўныя даследчыкі, а то і шчыра цынічныя абвяргальнікі ўсяго запар, што было ў той вайне, у тым змаганні з ворагам гераічнага. Дагаворваюцца (або "дапісваюцца") да таго, што Гітлер пачаў быццам прэвентыўную вайну супраць СССР, што яму нічога іншага не заставалася рабіць. Знаходзяцца такія, хто сцвярджае, што фашысцкія агрэсары не прынеслі беларускаму народу нічога кепскага... І гэта пры тым, што трагічны лёс Хатыні спасціг у нас 619 вёсак. Пішуць, нібыта і партызанскі рух сілай навязаны маскоўскімі чэкістамі... Так, праз дзесяцігоддзі раскрываюцца і негатыўныя старонкі той вайны. Пра іх таксама трэба сумленна расказаць, але не фальсіфікуючы мінулае.

Дастаю адну за другой з паліцы кнігі з аўтографамі аўтараў (галоўным чынам пра іх прыгадваю ў гэтым артыкуле), гартаю, перачытваю іх, і паўстае шырокая панарама падзей на захопленай фашыстамі беларускай зямлі.

Як жа важна, што пра гэта напісана столькі кніг. Магчыма, старонкі страшнай, бязлітаснай вайны, якія яны ўваскрашаюць, могуць падаць сівой даўніной. Але ўсё гэта наша гістарычная памяць. А без памяці жыць нельга.

**Міхаіл ШЫБАЛІС,**
**журналіст**

# І СЛОВА ВАЯВАЛА

Восенню 1942 года на Бранскім фронце я атрымаў з Масквы пакет ад Кузьмы Чорнага, у якім было некалькі нумароў газеты "Савецкая Беларусь" і плаката-газеты "Раздавім фашысцкую гадзіну". З хваляваннем слухалі мае баявыя сябры па зенітнай батарэі, калі чытаў я ўголас газетныя нататкі пра тое, што фашысцкія нелюдзі тварылі на беларускай зямлі.

З радасцю прачытаў я артыкул Ларысы Пампееўны Александроўскай, якая звярталася да роднага народа з заклікам да барацьбы, называла імёны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Міхася Лынькова, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі і інш., якія сваім баявым словам служаць роднай зямлі.

Упершыню я тады пазнаёміўся са славутым вершам Янкі Купалы "Беларускім партызанам", які мы ўспрынялі баявым загадам:

**За няволю, за кайданы**
**Рэжце гітлерцаў**
**паганых,**
**Каб не ўскрэслі век яны.**

Крыху пазней я атрымаў ад К. Чорнага нумар "Савецкай Беларусі" з маімі вершамі.

Парадавала нас і газета "За свабодную Беларусь", якую прыслаў мне яе рэдактар Ілья Гурскі. Мы, беларусы, не атрымлівалі пісем, таму кожны радок газеты быў для нас гаючай крыніцай, крыніцай натхнення і веры ў сілы народа.

Захапляліся мы на фронце вершамі К. Сіманава "Ты помнишь, Алеша" і "Жди меня", А. Суркова, Міхаіла Ісакоўскага, баявымі артыкуламі Міхаіла Шолахава, Барыса Палявога, Ільі Эрэнбурга...

Асабліва па душы салдатам была паэма Аляксандра Твардоўскага "Васіль Цёркін", якая друкавалася ў франтавых газетах з працягам. Мы не маглі дачакацца лістаносца і пачуць ад яго бадзёрае: "Сёння надрукаваны Цёркін".

У час аперацыі "Баграціён" у 1944 годзе каля Старых Дарог наша часць пасля кароткага лясного бою сустрэлася з партызанамі. У аднаго з іх з кішэні выступала нейкая кніжка. Я пацікавіўся, што за кніжка. Не паверыў сваім вачам: то быў зборнік вершаў паэта-партызана Анатоля Астрэйкі "Слуцкі пояс", выдадзены падпольнай слуцкай газетай "Народны мсцівец" у 1943 годзе. Паэт біў фашыстаў палымянымі вершамі:

**Спее волі**
**і шчасця прыход,**
**Што расце на франтах**
**і палянках.**
**Не зламаць,**
**не сагнуць мой народ,**
**Бо уся Беларусь —**
**партызанка!**

Многія беларускія паэты былі франтавікамі — Анатоль Вялюгін, Кастусь Кірэенка, Аляксей Пысін, Васіль Матэвушаў, Аляксей Русецкі, Пятро Прыходзька, Мікола Аўрамчык, Рыгор Няхай...

Многім маладым песнярам не давялося даспяваць сваіх песень — загінулі на франтах. Пад Берлінам паў Мікола Сурначоў, у першыя дні вайны загінуў выпускнік Гомельскага педінстытута, здольны паэт Леанід Гаўрылаў, пад Кёнігсбергам паў Аляксей Коршак, на Волзе — Алесь Жаўрук...

Наш народ беражліва захоўвае памяць аб сваіх песнярах.

**Паўлюк ПРАНУЗА**

# ХОРУ — 50

З вялікім энтузіязмам, пасля вызвалення горада Лунінца ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, узяліся работнікі лакаматыўнага дэпо за аднаўленне сваёй гаспадаркі. А каб лепш працавалася і весялей жылося, стварылі мастацкі самадзейны калектыў. Слаўны шлях прайшлі самадзейныя артысты. Яны былі ўдзельнікамі многіх дэкад і фестываляў. Выступалі на сцэнах Мінска і Брэста, Баранавічаў і Пінска, Ліды і іншых гарадоў.

У рэпертуары калектыву больш за сто розных нумароў. Гэта песні на ваенную тэматыку, беларускія, рускія, украінскія народныя песні, творы сучасных кампазітараў.

За высокае выканаўчае майстэрства хору прысвоена званне народнага. У гэтым і заслуга здольнага, няўрымслівага кіраўніка Барыса Іванавіча Шчура, які ўзначальвае калектыў каля 30 гадоў. Лунінецкі хор шчыра віталі слухачы падчас выступлення ў гарадскім Доме культуры. Канцэрт адбыўся з нагоды 50-годдзя калектыву.

**А.ХАРЛАМАЎ**

Аб'ява

БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ

## АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС

НА ЗАМЯШЧЭННЕ ПАСАД ПРАФЕСАРСКА-ВЫКЛАДЧЫЦКАГА САСТАВУ (ДЛЯ ТЫХ, ХТО МАЕ МІНСКУЮ ПРАПІСКУ):

- кафедра тэорыі музыкі
дацэнт — 3 (2 і 2 па 0,5);
- кафедра гісторыі музыкі
дацэнт — 1;
- кафедра музычнай педагогікі, тэорыі і гісторыі выканальніцкага мастацтва
прафесар — 1;
- кафедра харэаграфіі
дацэнт — 1 (2 па 0,5), выкладчык — 0,25;
- кафедра баяна-акардэона
дацэнт — l;
- кафедра камернага ансамбля
ст. выкладчык — 1;
- кафедра фартэпіяна
дацэнт — 1,25 (0,75 і 0,5);
- кафедра фізічнага выхавання
дацэнт — 0,5.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы. Заявы і дакументы, згодна Палажэнню аб конкурсах, накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30.

Даведкі па тэлефонах:
27-49-42; 26-06-70.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Генадзю ПАШКОВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Тэатральная Беларусь" выказвае глыбокае спачуванне намесніку галоўнага рэдактара ПАШКОВУ Г. П. у сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю маці.**

# ПАЛЯВАЯ ПОШТА, НУМАР...

*(Пачатак на стар. 11)*

яны нават не маглі поўнасцю апісаць усе жахі, якія адбываліся. У Кёльне за тры вечары было забіта 14 тыс. чалавек; у Вупертале загінула 45 тыс., большай часткай жанчыны і дзеці. Тут у нас таксама прымаюцца меры ў чаканні новага налёту гэтых нягоднікаў. Жанчыны з маленькімі дзецьмі ўжо расселены па вёсках. Дагэтуль гэта было добраахвотна, але цяпер гэта, відаць, будзе праводзіцца ў абавязковым парадку. Два тыдні таму назад у нас амаль кожны дзень была трывога: часам па тры разы на дзень: да абеду, у 11 гадзін, у 3 гадзіны і яшчэ раз ноччу. Аднойчы яны прыляцелі ў 9 гадзін раніцы і зусім разбурылі Арада, застаўся толькі адзін цэх. У Варнемюндэ была разбурана суднарамонтная верф, яны абстралялі там з кулямётаў людзей, што купаліся. Парадкам бамбілі яны і Рапін (былы Вустрау), дзе размешчана шмат ваенных. Колькі было ахвяр, мы не змаглі даведацца. Праклятыя яўрэі будуць знішчаць усё чалавецтва. Куды гэта толькі прывядзе? — канца ўсё яшчэ не відно. Набліжаецца пятая зіма, а за ёй, як многія думаюць, пройдзе самае вялікае яшчэ дзве. І рускіх яшчэ вельмі шмат, хоць такая вялікая іх колькасць знаходзіцца ў палоне. Германія вялікая, але Расія яшчэ большая. Месцамі пачынаюць аднаўляць разбуранае, у асноўным закрываюць праломы і адтуліны. Многія думаюць, што англічане зноў з'явяцца тут: у тыя гарады, дзе яны былі хоць адзін раз, яны зноў прыляцяць.

*Салдату Вальтэру Баум,*
*п.п. 33504 ад Алены Берталь*
*Обержаль, 30.9.43 г.*

...Твае бацькі, напэўна, ужо напісалі табе пра тое, што наш дарагі Оскар таксама павінен быў памерці за зусім бязмэтную справу. Так, дарагі Вальтэр, гэтых сардэчных пакут не было б, калі б гэтым панам не захацелася пагуляць у шахматы. Самае сумнае гэта тое, што вы з'яўляецеся шахматнымі фігурамі ў гэтай гульні. Я не магу гэтага зразумець, і настрой у мяне вельмі кепскі. Бедныя вы дзеці і бедныя вашы бацькі! Яны вельмі пастарэлі і сагнуліся пад цяжарам гэтых двух удараў лёсу. Чаму ў гэтым свеце столькі сардэчных пакут? Днём і ноччу я мару толькі пра тое, каб, па крайняй меры, вы двое — Вілі і ты — вярнуліся жывымі з гэтай праклятай вайны. Для нас гэтага было б дастаткова, нават больш, чым дастаткова; цяпер няхай гэты Арнольд Акерман ідзе на фронт, але гэты злодзей заўсёды здолее так уладкавацца, каб нікуды не пайсці. Так, Вальтэр, вось яно, нямецкае раўнапраўе. У той час, як адны павінны ўсім ахвяраваць і аплачваць кулі, якімі будуць забіты іх блізкія, другія зарабляюць, нажываюцца на вайне і ўвільваюць ад фронту. Ну, магчыма, гэтыя таксама атрымаюць сваё, справа толькі ў тым, што яны з'яўляюцца членамі партыі. Але чаго абурацца, мы ўсё роўна застаёмся дурнямі і нічога не можам змяніць. Таму галоўнае, каб вы засталіся жывымі.

Сустрэчы

Бясконцае ў сваім існаванні і выяўленні мора беларускага духу, якое, як некаторыя дарэмна лічаць, маўляў, ужо знікае. Жыве яно: ідзе ўсцяж без канца і краю, дзе астраўкамі, а дзе — нібыта патаемна і прыхавана. І вось калі ты сустракаешся з гэтым апошнім, лічы, што табе пашанцавала, — бо разам можа з'явіцца, хай хоць і невялікае, а ўсё ж адкрыццё.

Знаходзячыся на лячэнні ў 1-ай клінічнай бальніцы г. Мінска, наведаў я там стаматалагічны кабінет.

# НАРАЎЛЯНЦЫ

Ішоў да дантыста па неабходнасці, без вялікага энтузіязму, а пакідаў той кабінет з пачуццямі ўдзячнасці і нейкай дадатковай светлай радасцю за сваё існаванне на зямлі, на Беларусі. Віноўнікам такога майго настрою з'явіўся доктар Аляксей Пятровіч Будзянок. Ён зняў мой нясцерпны боль, вылечыў мне хворы зуб, а галоўнае... Аляксей Пятровіч — надзвычай неардынарны чалавек. А адна з іпастасей яго неардынарнасці — гэта апантаная любоў да Беларусі, да яе гісторыі, культуры. З пацыентамі ён размаўляе па-беларуску. Запіс у рэгістрацыйнай кнізе хворых вядзе таксама на роднай мове. Адна хворая пра беларускую мову нашага лекара сказала: "Ад гэтага я толькі смялей пачуваю сябе: цябе бы хто родны лечыць. Хай бы ў нас паўсюдна было так".

Праз колькі дзён, сустрэўшыся па дамоўленасці ў вольную хвіліну, у нас з Аляксеем Пятровічам адбылася цікавая, прынамсі для мяне, гаворка. Ураджэнец Нараўляншчыны, мой суразмоўца, выказаўшы недавер да сцвярджэння пэўных асоб, што нібыта Гомельшчына ніколькі не дбае пра беларушчыну, паведаміў мне, што ў іх дома беларусамі (свядомымі) з'яўляюцца не толькі беларусы, а нават і чэхі. Так, так, чэхі. "У нашых мясцінах, — распавядаў Аляксей Пятровіч, — з'явіліся яны, відаць, дзесьці ў гады контррэфармацыі ў Еўропе. Відавочна, шукалі паратунку. Дарэчы, наша вёска Галоўчыцы, адкуль я родам, мае пасёлак з назвай Чэхі. І прозвішчы многіх жыхароў і таго ж пасёлка, і самой вёскі сведчаць аб чэшскім паходжанні іх жыхароў. Вось, напрыклад, некаторыя: Ажанілак, Бе́днаж, Белаглавак, Бо́гач, Ва́фак, Вра́ціл, Га́ек, Карабец, Ко́зак, Но́вак, Сво́бада, Тра́ўнічак, Янічак (апошняе — дзявочае прозвішча маёй маці). Усе тыя далёкія і наступныя чэхі даўно растварыліся на векі вечныя сярод беларусаў. У мінулым годзе ў Галоўчыцах былі эмісары з Чэхіі з прапановай, хто хоча — перасяліцца да іх, але ніхто не паехаў".

Бацькоў у Аляксея Пятровіча ўжо няма. У родных мясцінах сёння бывае нячаста. Але цёплыя ўспаміны аб малой любай Бацькаўшчыне жывуць у яго душы. Свая сям'я яго таксама — беларуская, беларускамоўная. Дачушка Ірына вучыцца ў 6 класе (беларускамоўны клас), сын Максім — у 9 класе.

А яшчэ мой доктар пазнаёміў мяне са сваім земляком, які таксама жыве беларушчынай. Гэты мой новы знаёмец Анатоль Іванавіч Казленка, архітэктар, загадчык аддзела Белдзіпздраўпраекта Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, паказаў мне кішэннага памеру паэтычны альбом свайго бацькі. Умоўна альбом складаюць наступныя раздзелы: 1) Беларускія народныя песні (22 адзінкі); 2) Украінскія народныя песні (9 адзінак); 3) Рускія народныя песні, цыганскія рамансы, песні на вершы класічных рускіх паэтаў і песні на вершы савецкіх паэтаў (22 адзінкі); 4) Некалькі вершаў М. Ламаносава, Г. Дзяржавіна, Ш. Пецефі...

Але самае галоўнае ў гэтым альбоме змешчана ў самым канцы — уласная творчасць гаспадара запісаў: 17 арыгінальных вершаў і па адным перакладзе з любімых заходнеславянскіх паэтаў: А. Міцкевіча, М. Канапніцкай, К. Эрбена, С. Чэха, Я. Врхліцкага, І. Горы. Кожны твор датаваны і мае прывязку да пэўнай геаграфічнай мясціны, дзе пачалося яго жыццё.

Перш чым прадставіць творчасць невядомага паэта, паслухаем, што расказаў пра свайго бацьку Анатоль Іванавіч.

"Мой бацька, Казленка Іван Аляксандравіч, нарадзіўся 27 лістапада 1913 года ў вёсцы Вуглы Нараўлянскай воласці Рэчыцкага павета Мінскай губерні ў сялянскай сям'і. Прафесійную адукацыю настаўніка атрымаў у Мазырскім педагагічным вучылішчы (1930—1932 гг.), а таксама ў Мінскім педагагічным інстытуце (1933—1937гг.), які не скончыў у сувязі з масавымі рэпрэсіямі на Беларусі. Па даносе за чытанне вершаў "варожага зместу" аднойчы арыштавалі групу студэнтаў, сярод якіх быў і Іван Казленка, студэнт 4-га курса літаратурнага факультэта. Асуджаны на 4 гады з адбыццём тэрміну ў адным з лагераў для палітзняволеных ва Удмурціі, ён працаваў там на катаржных работах (лесапавал, кар'ер). Бацька спаўна пазнаў тугу па Радзіме і блізкіх. Душа яго імкнулася на роднае Палессе; пачуцці вылівáліся ў радкі ("Гуслі", "Туга па Бацькаўшчыне", "Плач жаўны").

У 1941 г., калі тэрмін зняволення бацькі блізіўся да канца, пачалася вайна з фашысцкай Германіяй. У гэты час ён разам з іншымі вязнямі падаў прашэнне адправіць яго на фронт. Просьбу задаволілі. І ўжо 15 ліпеня 1942 года Іван Казленка прыняў ваенную прысягу і быў накіраваны на фронт наводчыкам гарматы. Скончыўшы курсы ў 1943 г., камандзірам гарматы прайшоў з баямі Украіну, Бесарабію, Польшчу, Нямецкую Сілезію, Чэхаславакію, дзе (горад Аламоўц) і сустрэў Перамогу. Быў узнагароджаны ордэнам Славы III ступені і многімі медалямі. Пасля дэмабілізацыі напрыканцы 1945 года вярнуўся на роднае Палессе. Працаваў выкладчыкам рускай мовы і літаратуры ў старэйшых класах Галоўчыцкай сярэдняй школы на Нараўляншчыне. У 1946 годзе ўступіў у шлюб з Каламбар Палінай Антонаўнай — настаўніцай гэтай жа школы.

Падарванае няволяй і вайной здароўе саступіла цяжкай хваробе, якая прывяла да заўчаснай смерці на 41 годзе жыцця (памёр у 1954 г.). Засталося трое дзяцей (Аляксандр — ад першага шлюбу маці, Анатоль і Уладзімір) ва ўзросце ад 3 да 10 гадоў.

Характар у бацькі быў спакойны, стрыманы, ветлівы. Вызначаўся ён, па словах аднавяскоўцаў, добразычлівасцю і інтэлігентнасцю; карыстаўся павагай настаўнікаў, вучняў і жыхароў усёй вёскі. Быў абраны дэпутатам мясцовага Савета.

Пастаянна займаўся самаадукацыяй, да позняй ночы заседжваўся над кнігамі і сшыткамі. Любіў Ф. Багушэвіча, Я. Купалу, Я. Коласа, асабліва М. Багдановіча, А. Пушкіна, М. Лермантава, А. Міцкевіча, Т. Шаўчэнку, С. Ясеніна. Хораша спяваў беларускія, украінскія і рускія народныя песні.

Пасля жаніцьбы купілі яны з маці на сціплыя настаўніцкія зберажэнні невялікую хаціну. Адкладвалі грошы кожны месяц, у дадатак маці і бабуля Марыля Антонаўна Сырава (таксама з чэхаў) шылі-перашывалі людзям адзенне. Трымалі карову, свіней, курэй. Пасля да хаціны зрабілі прыбудову, дадаўшы сенцы, камору і яшчэ адзін пакой пад "залу". Жылі годна, чыста, не горш за іншых людзей.

У рэдкія вольныя часіны хадзіў бацька ў ягады, грыбы; чытаў дзецям кніжкі; маляваў з імі каляровымі алоўкамі дрэвы, птушак, звяроў.

Была ў бацькі запаветная мара: мець хоць невялічкую бібліятэку. Ён нават намеціў у прыбудове месца, дзе б стаяла шафа з кнігамі. Мог часам патраціць на кнігі незапланаваныя грошы, таму пачуваў сябе няёмка перад маці. Маці гэты "грэх" заўсёды разумела і даравала яму.

Не любіў бацька апавядаць пра сваё лагернае жыццё. Але, па словах маці, пастаянна падкрэсліваў, што столькі і такіх інтэлігентных і адукаваных людзей, як у лагеры, ён пасля не сустракаў нідзе і ніколі.

Хаця бацьку і не чапалі больш за яго "палітычнае мінулае", вучобу ў педінстытуце ён не скончыў. Ці то здароўе не дазваляла, ці то былі сумненні ад аглядак на ўзрост, ці яшчэ што — невядома. Так і застаўся ў яго працоўнай кніжцы запіс "Н/В" — незакончаная вышэйшая адукацыя. Пастаянна на гэты конт з ironіяй заўважаў, што хутка яго былыя вучні з закончанай адукацыяй папросяць яго "вызваліць месца".

На маё пытанне, чаму Анатоль Іванавіч не звяртаецца ў органы па справе рэабілітацыі свайго бацькі, адказ быў даволі сціслы і пераканаўчы: "Навошта чыстую крыніцу памяці засмечваць нейкай няшчырай казённай паперкай".

Трэба дадаць, што сваю маці, Паліну Карлаўну, Анатоль Іванавіч у 1990 г. перавёз бліжэй да сябе. Вядома, і з прычыны, што Нараўляншчына вельмі забруджана радыенуклідамі, ды і ўзрост не апошнюю ролю адыграў. Сёння яна жыве ў Каралішчавічах, пад Мінскам, дзе калісьці месціўся дом творчасці беларускіх пісьменнікаў. Як у Мінску, так і ў Каралішчавічах у Казленкаў пануе беларуская мова. Дачка Анатоля Іванавіча Паўлінка вучыцца ў беларускім гуманітарным ліцэі...

Вось якое цікавае знаёмства падарыла мне мая хвароба, мой зубны боль. Дзякуй ім за гэта.

А цяпер — колькі вершаў Івана Аляксандравіча Казленкі.

**Яўген ГУЧОК**

## Іван КАЗЛЕНКА



### ГУСЛІ

**Іграюць сосны, пілы ўтораць**
**Тугім, звінячым струнам хвой.**
**Чаму ж назвалі гуслі борам**
**І кожную струну сасной?**

**І зачараваны аркестрам,**
**Ты не заўважыш, дружа мой,**
**Што ты таксама ёсць маэстра**
**З сваёй лучковаю пілой.**

**Піла лучковая іграе,**
**Бадзёра стукае тапор,**
**А навакол не замаўкае,**
**Звініць тысячаструнны бор.**

**Ўжо вечар задрамаў над борам**
**І вецер стомлены заціх.**
**А ў сэрцы гуслі ўсё гавораць,**
**Звіняць тугія струны іх.**

*Верасень, 1939. Удмурція*

### ТУГА ПА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

**Хаджу самотны я па лесе,**
**Над галавой таежны шум.**
**Маё далёкае Палессе**
**Паўстала зноў прыбоем дум.**

**Мной бацькаўшчына**
**не забыта:**
**Па Беларусі роднай сум,**
**Як самы дарагі здабытак**
**У сэрцы я сваім нясу.**

**Жывуць у думах невясёлых**
**Са мною, быццам цені-сны,**
**Лясы, балоты, нівы, сёлы**
**І песні роднай стараны.**

**Ляцяць на поўдзень**
**за крыкам гусі,**
**Рыдаюць дзесьці жураўлі...**
**А мне калі ж да Беларусі**
**Шляхі адкрыюцца, калі?**

*Жнівень, 1941*

### ПЛАЧ ЖАЎНЫ

**Ці чулі вы, як слёзна плача**
**У лесе чорная жаўна?**
**Дзяцей згубіла, не іначай,**
**Таму і ў роспачы яна.**

**Таму яна і лямантуе,**
**Аб дрэва б'ецца галавой.**
**Хто бедную жаўну пачуе,**
**Паспачувае ў горы ёй?**

**Бязлюдны,**
**непрытульны ўвосень**
**Лес — ні гаспадар, ні госць,**
**І толькі ад шумлівых сосен**
**Ёй спачуванне ў горы ёсць.**

**Мой смутак шчыры**
**ў гэтай страце,**
**Бо там, у роднай старане,**
**Па мне таксама плача маці,**
**Падобная такой жаўне.**

*Верасень, 1941*

### ПАЛЕСКІЯ ЗІМЫ

**Я на поўначы**
**быў ад Радзімы,**
**Мусіў холад я там праклінаць**
**І палескія мяккія зімы**
**Ўспамінаць, успамінаць,**
**успамінаць.**

**Тут, на Захадзе, цёплыя зімы:**
**Дождж, слата, гразь**
**і брудны снег.**
**І зімы беларускай кілімы**
**Часта бачу я ў сне.**

*Нямецкая Сілезія, люты, 1945*

### АПОШНЯЯ СВАСТЫКА

**Я бачыў двух немцаў**
**на вуліцах чэшскага горада,**
**У іх з рукавоў**
**была свастыка спората.**
**Ў пантофлях грукочуць яны**
**па булыжынах**
**Без шапак. Галовы крыж-**
**накрыж прастрыжаны.**
**Былі яны свастыкай**
**так закляймёныя,**
**Для яснасці**
**крэйдаю пабялёныя.**
**І твары злачынцаў былі,**
**як пад крэйдаю.**
**А хто там смяецца?**
**Хіба тут камедыя?**
**Хіба мы забудзем,**
**што гэтыя клоуны**
**Тварылі ў краінах**
**падпарадкаваных?**
**І тыя крыжы, што злачынцам**
**прастрыжаны,**
**След молній, народжаных**
**гневам прыніжаных.**

*Чэхаславакія. Чэрвень, 1945*

ЛіМ
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932-35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935-41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945-46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947-49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949-50)* |
| *В.Вітка* | *(1951-57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957-59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959-61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961-69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969-72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972-76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976-80)* |
| *А.Жук* | *(1980-86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986-90)* |

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19
ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11264.
Нумар падпісаны 4. 5.1995 г.
ЗАКАЗ 1333
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12